ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

9 студзеня 1998 г. № 2/3930 Кошт 4 000 руб.





# *Папулярны... прыгожа*

Валерыю ІВАНОВУ — 50

Рана ці позна папулярныя песні страчваюць любоў сваіх паклоннікаў і нават пачынаюць раздражняць. Добра, калі толькі песні: бывае, што й іхнія творцы...

А бывае... Бывае папулярнасць зусім іншая. Няздатная выклікаць адмоўныя эмоцыі. Вось як у Валерыя Іванова: у ягонай папулярнасці ёсць штосьці абаяльна-сціплае. Гэта яго вылучае. Прываблівае да яго. Здзіўляе: трэба ж умець такое — *прыгожа быць папулярным!* Пэўна, таксама талент.

*(Працяг на стар. 2)*

АДГАЛОСКІ

# Вера і воля, або Тэкст пра нястрачаны аптымізм

Калі вы думаеце, што "спачатку было Слова", то вы памыляецеся. Спачатку была думка! А ўжо за ёй цягнулася слова, літара, пісьмо і далей — "па тэксту". У канцы ўсяго, самай апошняй, я мяркую, таксама будзе не слова ці тэкст, але — думка, такая ж нямая і цьмяная, як і першая. А гэтая цьмянасць, у якой нараджаецца ці знікае думка, і цешыць мой аптымізм, сілкуе надзеі на лепшае, нават у такой справе, як лёс беларушчыны.

Цяжка спрачацца з Валянцінам Акудовічам, калі ў артыкуле "Архіпелаг Беларусь" ("ЛіМ", N 47) ён гаворыць аб паміранні Тэкста, а прасцей — аб змяншэнні ўплыву друкаванага слова на нашае жыццё. Гэта факт відавочны. Але трэба памятаць, што першаснай заўсёды будзе чалавечая воля і думка-ідэя, якая крышталізуецца ў слова, а потым фіксуецца на камені, паперы, стужцы або экране. Тыя змены ў спосабе перадачы і захоўвання інфармацыі, а галоўнае — хуткасці яе апрацоўкі, якія мы назіраем сёння, безумоўна, мяняюць стан грамадства, але, па-першае — не так радыкальна, бо галоўнай крыніцай ідэй і рухавіком прагрэсу, як і раней, застаецца чалавек (ці дакладней — нацыянальная эліта); а па-другое — у сённяшніх беларускіх умовах гэты працэс можа зацягнуцца на доўгія гады па прычынах эканамічных, палітычных і духоўна-інтэлектуальных. Бо наш родны аўтарытарызм не проста паразітуе на індустрыяльна-люмпенскіх стэрэатыпах, але і адцягвае пачатак інфармацыйнай эры, ствараючы тым пэўны "запас часу" для падрыхтоўкі будучай эліты. Аднак традыцыйны ход фармавання еўрапейскіх нацый, характэрны для XVIII, XIX і пачатку XX ст., застаецца для нас актуальным: рамантычны перыяд (этнаграфія, міфалогія, паэзія) тэарэтычна-навуковы (нацыянальная гістарыяграфія, асвета і адукацыя) — этап практычнай палітыкі (вызваленчы рух, рэвалюцыі, дзяржаўнае ўсталяванне) — эканамічна-культурны этап (росквіт вытворчасці, дабрабыту, культуры). Беларусь, як дрэнная вучаніца, што адстала ад праграмы, захацела раптам здаць усе іспыты экстэрнам і адразу перайсці на "апошні курс". А ў выніку — атрымала "двойку", хаця, магчыма, і з плюсам. Плюс у тым, што пройдзены першы этап і значная частка другога, бо дасягненні нашай гістарыяграфіі за апошнія 10 год відавочныя, а вось з асветай і асабліва з адукацыяй — справы значна горш. Праўду кажа сп. Акудовіч, што большасць сённяшніх свядомых беларусаў "паштучнага вырабу", але ж і якасць такой кустарнай, саматужнай работы даволі высокая. А галоўнае, што сёння нас ужо не некалькі дзесяткаў, як у 70—80-ыя гады, а многія тысячы, і калі лік пойдзе на дзесяткі тысяч, можна будзе казаць пра існаванне нацыянальнай эліты, здольнай да рэалізацыі сур'ёзных сацыяльных праектаў.

Такім чынам, напярэдадні кульмінацыйнага, трэцяга этапа, найпершай задачай ёсць стварэнне сапраўднай беларускай інтэлігенцыі, якая б стала для нашага разбуранага, здэградаванага грамадства прыкладам высокай культуры і сучасных ведаў, генератарам новых ідэй і рухавіком сацыяльных рэформаў. Гісторыя сведчыць, што менавіта праз эліту, праз вышэйшыя пласты народа адбывалася і паланізацыя, і русіфікацыя Беларусі, таму эфектыўная рэбеларусізацыя павінна пачацца зверху, з творчай, навуковай, палітычнай і чыноўнай інтэлігенцыі.

Паміраюць і бурацца старыя сістэмы, памірае і Тэкст, як галоўны прынцып-гаспадар культуры, ідэалогіі, камунікацыі. І хаця "паміранне" можа быць вельмі доўгім, справа не ў ім, а ў якасцях людзей і колькасці сярод нас "фанатаў" і аптымістаў. Бо аптыміст — гэта не толькі дужа малады ці кепска інфармаваны песіміст, а хутчэй чалавек, які мае больш веры і волі да перамогі. Калі ёсць вялікая мэта і жаданне яе дасягнуць, засвоіць камп'ютэрныя, тэлевізійныя, мас-медыйныя ды іншыя тэхналогіі можна лягчэй, чым навучыцца пісаць па-беларуску.

Такім чынам, асноўным, глыбінным фактарам застаецца вера і воля, таемная, непазнавальная крыніца якой нараджае думкі, жаданні, надзеі. А разумны песімізм — рэч, безумоўна, карысная як натуральны каталізатар мыслярства і саўдзельнік руху наперад. Ён не дае занадта высока ўзняцца, але і засцерагае ад магчымых падзенняў. Вялікі дзякуй яму за гэта. Аднак трэба рухацца далей...

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

ІМПРЭЗЫ

# Духоўнае адраджэнне — праз нацыянальную культуру

У светлы дзень Нараджэння Хрыстова, 7 студзеня, урад рэспублікі падрыхтаваў падарунак творчаму люду і ўсім жыхарам і гасцям нашай сталіцы. У Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета адбылося ўрачыстае духоўна-свецкае мерапрыемства, пра якое абвесціў на сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй 29 снежня 1997 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Менавіта да Калядаў, вялікага хрысціянскага свята, якое сімвалізуе духоўнае адраджэнне чалавецтва, было прымеркавана ўшанаванне тых творцаў, чыя дзейнасць, чый талент спрыяюць духоўнаму адраджэнню сучаснага грамадства. Прэміі, якія былі ўручаны ўжо другі раз, так і называюцца — "За духоўнае адраджэнне". І ўжо чацвёрты раз у рэспубліцы вызначаліся асобы, уганараваныя званнем "Чалавек года" за ўклад у развіццё айчыннай культуры.



Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт, прадстаўнікі духоўнай і свецкай уладаў, лепшыя творчыя калектывы Беларусі. Прэзідэнт Рэспублікі павіншаваў прысутных са святам, расказаў пра палітыку ўрада ў адносінах да духоўнай культуры — гэта перш за ўсё яе ўсебаковая падтрымка, імкненне да таго, каб кожная сям'я мела магчымасць далучыцца да высокай культуры, прэваліраванне маральных, агульначалавечых і хрысціянскіх каштоўнасцяў. Назваў Прэзідэнт і імёны лаўрэатаў. Сёлета высокім званнем "Чалавек года" ўшанаваныя пяць асобаў. Гэта Міхаіл Дрынеўскі, мастацкі кіраўнік Акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь, што з'яўляецца візітнай карткай нашай краіны; Таісія Міронава, кіраўнік хору хлопчыкаў пры Мінскім епархіяльным упраўленні Беларускай праваслаўнай царквы; Мікалай Кузьміч, мастак, які аднавіў найвялікшую святыню Беларусі, — Крыж святой прападобнай Ефрасінні Полацкай; народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік Рускага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага Барыс Луцэнка і Міхаіл Расолаў, рускі пісьменнік, доктар юрыдычных навук, прафесар, які на ўласныя сродкі пабудаваў у роднай вёсцы на Гомельшчыне храм св. архістраціга Міхаіла. Як заўважыў Прэзідэнт, усіх гэтых людзей аб'ядноўвае адно — любоў да нашай краіны, самаахвярнае служэнне маральным і хрысціянскім каштоўнасцям. На гэтай жа ўрачыстасці былі ўручаны медалі лаўрэатаў мінулага года — тады гэтыя медалі з выявай першаасветніка Францішка Скарыны яшчэ не былі выраблены.

Са словам да прысутных звярнуўся Найсвяцейшы мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт. Ён павіншаваў усіх са святам Ражства Хрыстова, а таксама асабіста павіншаваў Прэзідэнта Рэспублікі з тым, што яго пачынанні па адраджэнні духоўнай культуры краіны ўвасабляюцца ў канкрэтныя справы.

Былі ўручаны і прэміі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" ў розных намінацыях. У галіне музычнага мастацтва прэмію атрымаў народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар, кампазітар Дзмітрый Смольскі; у галіне тэатральнага мастацтва — заслужаная артыстка Беларусі, салістка беларускай оперы Наталля Кастэнка, якая знаходзіцца цяпер на замежных гастролях і не змагла атрымаць высокую ўзнагароду асабіста. У галіне крытыкі і тэатразнаўства прэмію "За духоўнае адраджэнне" атрымаў рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі. У галіне выяўленчага мастацтва лаўрэатам стаў старшыня Беларускага Саюза мастакоў Генадзь Буралкін. У галіне эстраднага мастацтва — мастацкі кіраўнік і дырыжор Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Міхаіл Фінберг; у галіне народнай творчасці — кіраўнік Саюза народных майстроў Яўген Сахута; у галіне літаратуры — дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі пісьменнік Георгій Марчук. У галіне архітэктуры прэмія "За духоўнае адраджэнне" ўручана Аляксею Андраюку, у галіне кінематографа — рэжысёру-пастаноўшчыку кінастудыі "Беларусьфільм" Юрыю Марухіну.

Прысутным была прапанавана цікавая канцэртная праграма. У ёй бралі ўдзел салісты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета, Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам М. Фінберга і яго салісты, ансамбль "Свята" пад кіраўніцтвам Васіля Купрыяненкі, узорны дзіцячы калектыў з Наваполацка "Камарыкі", Акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Дрынеўскага, лепшыя прадстаўнікі творчай моладзі.

Напрыканцы ўрачыстасці прагучаў запавет святой апякункі Беларусі, святой прападобнай Ефрасінні Полацкай. Словы прападобнай Ефрасінні, што заклікаюць да жыцця і духоўнай дзейнасці згодна запаветам Ісуса Хрыста, у любові да Бога і да бліжніх сваіх, прагучалі як лагічнае завяршэнне каляднай вечарыны.

**Н.К.**

*На здымку: А. Лукашэнка віншуе з прысуджэннем прэміі "За духоўнае адраджэнне" мастака М. Кузьміча.*

*Фота БелТА*

# Папулярны... прыгожа

(Працяг. Пачатак на стар. 1)

Талент у яго — песенны. Пявучыя мелодыі — існасць усіх твораў Валерыя Іванова. Нездарма яны часта "дзяжураць" у радыёэфіры: або запаўняюць двухмінутныя паўзы паміж перадачамі, або гучаць фонам, даючы эмацыйную настройку ўдзельнікам праграмы, яе вядучым і слухачам. Далёка не кожны слухач ведае тыя п'есы паводле назваў, але ж ведае паводле шчырых лірычных мелодый. Цымбаламі праспяваны "Спеў дуброў"; эпічны аповед народнага аркестра "Зямля бацькоў"; гарадскі "Рамантычны вальс"; лейтматыў ужо забытай кінастужкі "Ціхія троечнікі"... "Адажыо", "Блакітны світанак", "Настроі", "Полька-жарт" — не пералічваць жа ўсё!

Больш грунтоўныя, акадэмічныя партытуры Валерыя Іванова вядомыя досыць вузкаму колу спецыялістаў — такі ўжо ў нашым грамадстве лёс мастацтва. Хаця і непрафесійны меламан, калі б ён меў магчымасць рэгулярна слухаць філарманічныя праграмы беларускіх кампазітараў, адзначыў бы, відаць, сваёй увагай па-спеўнаму даходлівую творчасць Іванова: "Элегію аб чацвёртай бярозе" на вершы Максіма Танка — для саліста, чытальніка, хору ды аркестра; паэму "Прысвячэнне роднаму гораду"; сімфоніі; Канцэрт для трубы; фрэску-карціну "Салдацкае поле" і драматычную паэму "Сымон-музыка" для народна-інструментальнага складу...

Песенны талент — знак усёй разнажанравай творчасці Валерыя Іванова. Ці трэба казаць, якія гожыя ў яго самі песні! Розныя песні: "Будьте долгу верны" на словы Р. Гамзатава, "Засыпай, моя обида" на словы В. Гіна, "Тапаліны звон" на вершы П. Панчанкі, "Спатканне з даўняю вясной" на вершы Г. Бураўкіна, "Пахне чабор" на вершы П. Броўкі, "Я вярнуўся дадому" на словы Л. Пранчака... Песні пра міліцыю, пагранічнікаў, падводнікаў. Песні дзіцячыя і песні застольныя. Пра каханне, пра родны край. На вершы малавядомых "тэкставікоў" і такіх сур'ёзных творцаў, як А. Грачанікаў, У. Някляеў, С. Грахоўскі, У. Карызна, А. Разанаў і А. Сыс.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат прэміі ЛКСМБ, ганараваны сярэбраным медалём імя А. Аляксандрава кампазітар Валерый Іваноў справіў нядаўна сваё 50-годдзе. І (што пацвердзілі радыё- ды тэлеперадачы) — з добрым творчым набыткам, у росквіце прафесіяналізму і папулярнасці.

Мне сёння ўспомнілася адна ўжо досыць даўняя размова. Здавалася б, нязначны выпадковы эпізод, а ўсё ж... Тады, пасля канцэрта, што ладзіўся з нагоды чарговага з'езда кампазітараў, мы апынуліся на трамвайным прыпынку побач — Юрый Семяняка ды я. Праграма канцэрта складалася з песень, і знаны майстра гэтага жанру дазволіў сабе досыць з'едлівыя ацэнкі і нават абурыўся непераборлівасцю некаторых калег у падыходзе да песенных тэкстаў. З маладых імёнаў Юрый Уладзіміравіч вылучыў толькі адно: Валерый Іваноў. Ухваліў яго за некан'юнктурнасць на эстрадзе, адзначыў шчыры лірычны дар, мастацкі густ.

Безумоўна, штосьці збліжала гэтыя таленты: нездарма ж В. Іваноў напісаў у свой час аркестравы парафраз на тэмы папулярных песень Ю. Семянякі.

І хаця талент — гэта заўсёды непаўторнасць, і хаця "песеннай школы" ўвогуле няма — проста нараджаюцца песеннікі ад Бога, можна лічыць Валерыя Іванова прадаўжальнікам лепшых традыцый беларускай прафесійнай песеннай культуры. Таленавітым пераемнікам прыгожага. Адметным у сваёй даходлівай, пранікнёнай, цёплай размове са слухачом. Сур'ёзным і... неагрэсіўным у сваёй папулярнасці.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# Не з мітульгой, а з музыкай...

Здараецца іншым разам так, што дакладна памятаеш і час, і месца, дзе і калі спаткаўся ўпершыню з нейкім чалавекам, але ў штодзённым жыцці-быцці пра чалавека гэтага нават не згадваеш, проста вітаешся з ім пры выпадковай сустрэчы.

Дзе і калі пазнаёміўся я з Валерыем Івановым — не помню; ён здаецца, прысутнічае ў маім лёсе, калі так можна сказаць, паўсюль і заўсёды. Такое адчуваеш у адносінах зусім не да многіх людзей. Мяркую, што гэта ўласцівасць сяброўства.

Я ўдзячны Валерыю Іванову за сяброўства дастойнае, пазначанае не мітульгой, а музыкай, і віншую сябра з юбілеем.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

# "Трыумфальныя" Каляды

Адна з прэстыжных расійскіх незалежных прэмій "Трыумф" уручана на Каляды беларускай пісьменніцы. Гэтая прэмія прысуджаецца толькі тым асобам, чыя творчая дзейнасць, чый талент заслужылі ім трывалую папулярнасць і сапраўдную славу. Сёлета гэтую прэмію ў галіне літаратуры атрымала Святлана Алексіевіч. Вядомы рускі крытык Зоя Багуслаўская, якая ўручала лаўрэатам узнагароды, слушна заўважыла, што творчасць Святланы Алексіевіч узбагаціла не толькі беларускую, але і ўсю сусветную літаратуру. Творы пісьменніцы шырока перакладаюцца і выдаюцца ва ўсім свеце. Апошнім часам шырокі розгалас набыла яе кніга "Чарнобыльская малітва", у якой аналізуюцца падзеі і наступствы чарнобыльскай аварыі, ядзернага апакаліпсісу XX стагоддзя. Наколькі прэстыжнай з'яўляецца гэтая незалежная прэмія, сведчаць хаця б імёны яе лаўрэатаў. Сёлета сярод іх, акрамя Святланы Алексіевіч, такія асобы, як мастацкі кіраўнік знакамітага Расійскага Дзяржаўнага ансамбля песні і танца Ігар Маісееў і легендарны рок-музыкант Барыс Грабеншчыкоў, а да Святланы Алексіевіч прэмію ў галіне літаратуры атрымала Бэла Ахмадуліна.

**Н.К.**

і Тарэра ў "Кармэн-сюіце".

Партыя Хазэ — гэта перш за ўсё дуэт, пачуцці, перажыванні. Дуэт, аснашчаны цяжкімі падтрымкамі, кожная з якіх нясе дакладны, неабходны для спектакля сэнс. Усе новыя партыі Руслан рыхтуе з народным артыстам Беларусі Ю. Траянам. Работа над вобразам Хазэ — велізарная школа для маладога саліста. Гэта не проста шанцаванне, а падарунак лёсу: працаваць з педагогам — першым выканаўцам Хазэ ў спектаклі В. Елізар'ева.

Калі на прэм'еры "Кармэн-сюіты" ў выкананні Мініна мы бачылі Хазэ — стараннага вучня, які дакладна пераняў усю манеру выканання свайго настаўніка (нават прычоскай — шапкай валасоў — ён нагадваў Ю. Траяна), то ў наступных спектаклях пачала вызначацца свая лінія пабудовы вобраза, заснаваная на ўласных роздумах і назіраннях. І пакуль маладому Хазэ—Мініну не хапае жыццёвага вопыту, магчыма, зварот да іншых відаў мастацтва (навела Мерымэ, опера "Кармэн") дапамогуць глыбей пранікнуць у псіхалогію сталага мужчыны — салдата ў адстаўцы Хазэ.

Руслан Мінін — адзін з нямногіх салістаў балета, які ўсе свае рэпетыцыі праводзіць на поўную сілу, без адгаворак, што не хопіць сіл на вячэрні спектакль. Таму і надзвычай трывушчы і здольны атрымліваць задавальненне ад танца, якое ў канчатковым выніку перадаецца і гледачу.

Доказ таму — спектакль "Раймонда", не так даўно пастаўлены на мінскай сцэне Ю. Грыгаровічам. Абдарахман—Мінін, забіты ў II акце, "уваскрасае", выходзячы на паклон пасля заканчэння ўсяго спектакля. І... гром апладысментаў. Зала аддае перавагу адмоўнаму герою балета, захоплена вітаючы ягонае з'яўленне на сцэне.

Нечакана з'яўляючыся ў сярэдзіне 1 акта, усходні рыцар — Р. Мінін уносіць крыху містыкі і таемнасці, інтрыгуе залу. Рэальным чалавекам паўстае ён у II акце і заваёўвае яшчэ больш сімпатый гледача павышанай пачуццёвасцю, уласцівай людзям Усходу, спалучанай з палохаючай настойлівасцю, якая выключае адмову або выбар. Нягледзячы на поспех, работа над гэтай роллю заўсёды працягваецца. Абдарахману—Мініну можна папрацаваць над усходняй "кашэчай" пластыкай, звярнуць увагу на, здавалася б, другарадныя перасоўванні па сцэне. Не дарэмна ж кажуць: "Усход — справа тонкая".

"Мне падабаецца мая праца, і калектыў добры, ды вось нормы ў нас нейкія дзіўныя, — гаворыць Руслан, — дзевяць вядучых партый у месяц. А да кожнай жа ролі пэўны падыход. Для аднаго спектакля дастаткова рэпетыцый, для другога ўвогуле іх няма. А несці халтуру гледачу неяк не хочацца. Вось і выкручвайся як можаш. Я вось даўно хачу Альберта ў "Жызелі" падрыхтаваць, ды часу ўсё не хапае. І фінансава таксама не песцяць... А ўвогуле мы вясёлы народ. Нават на сцэне кур'ёзы здараюцца..."

Пракоф'еў, "Рамэо і Джульета". Цібальд—Р. Мінін у ярасці кідае шпагу ў Меркуцыо, а яна вазьмі ды завісні ў паветры над сярэдзінай сцэны (зачапілася за дэкарацыі). Цібальд абяззброены, Меркуцыо не забіты... Але не быў бы гэта Мінін, калі б не знайшоў эфектнае выйсце са становішча.

Прыходзьце, паглядзіце.

**Дана БАКУНЧЫК**

*На здымку: Руслан Мінін — Абдарахман ("Раймонда")*

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

---

зачаравана гледзячы на сцэну і сціскаючы свае поліэтыленавыя пакеты з абуткам. Сяргея публіка адразу неяк вылучыла сярод іншых удзельнікаў і палюбіла. Асабліва дзяўчынкі. Яны пісалі яму захопленыя лісты, фатаграфавалі...

**— Каб выйграць такі конкурс, напэўна, трэба мець нейкія асаблівыя якасці?**

— Сяргей вельмі таленавіты, артыстычны, надзелены самавалоданнем, вастрынёй успрымання, дасціпнасцю. Умее добра арганізаваць сваё прафесійнае жыццё, інакш кажучы, умее працаваць. І ў гэтым цяжка пераацаніць ролю ягонага першага педагога Я. А. Гарбуновай — так што я меў магчымасць пачаць нашу сумесную з Сяргеем работу адразу з падрыхтоўкі да міжнародных конкурсаў. Мае значэнне, безумоўна, і конкурсны досвед Сяргея, дзякуючы якому ён валодае вельмі значным — для свайго ўзросту — рэпертуарам.

Але цяпер ужо час думаць пра будучыню. Наперадзе — выпускныя экзамены ў каледжы і ўступныя — у Акадэмію музыкі, гастролі ў новым годзе ў Токіо і Кіёта, што прадугледжана для пераможцы ўмовамі конкурсу. Так што пажадаем Сяргею новых вялікіх творчых поспехаў.

**Вольга САВІЦКАЯ**

---

МАЙСТЭРНЯ

# Колер дняпроўскіх хваляў

Мастацкія працы Святаслава Федарэнкі я ведаю даўно, заўжды ўважліва сачыў за яго творчасцю. Мяне асабліва вабіў каларыт ягоных карцін. Блакітна-срэбраны, вытанчаны, мяккі, ён чамусьці выклікаў у мяне далёкія асацыяцыі з родным краем, са спакойнай плынню Дняпра на маім паўднёвым Палессі. Пазней даведаўся, што Святаслаў нарадзіўся ў Магілёве, на Дняпры — роднаснасць колераўспрымання стала зразумелай.



Але прывабнасць твораў С. Федарэнкі ў мінулым нярэдка і вычэрпвалася для мяне толькі іх каларыстычнымі якасцямі. Нельга было не заўважыць, што жывапісец крыху інертны і празмерна "памяркоўны" (а часам і заблытаны) у кампазіцыйнай будове сваіх карцін — асабліва фігурна-тэматычных. Асобным творам была ўласціва незавершанасць, эскізнасць, ды і мастакоўская — асноўная "свая" тэма — у іх не прачытвалася. Але сабраныя разам на персанальнай выставе, што экспанавалася летась у Мінскім Палацы мастацтваў, яго карціны нечакана высвецілі аўтара як мастака ўдумлівага і далёкага ад рацыяналізму; мастака, які ўвесь час — у пошуку, у творчым гарэнні. Шматфігурныя тэматычныя кампазіцыі ("Марш адзінства", 1973; "Контррэфармацыя", 1990; "Баль паэта", 1991 і інш.), партрэты ("Ганначка", "Максім Багдановіч", 1981; "Дума пра Беларусь" — партрэт Якуба Коласа, 1993), пейзажы ("Разліў Прыпяці", 1980; "Нясвіж", 1985 і інш.) уразілі мастакоўскім тэмпераментам, выдатным малюнкам, тонкім адчуваннем колеру. Гэта палотны менавіта прафесіянала, які не толькі выдатна валодае мастацкай формай, але і неабыякавы да праблем свайго часу, да лёсу Бацькаўшчыны.

С. Федарэнка належыць да мастакоў сярэдняга пакалення. Гэта творцы, якія прыйшлі ў мастацтва праз 10 год пасля так званых "шасцідзесятнікаў" (мастакі, што выступілі на мастацкай арэне ў 1960-я гады) і таму мелі магчымасць шырока выкарыстаць іх творчыя дасягненні: высокі прафесіяналізм, пашыраны дыяпазон "зыходных" мастацкіх традыцый, выразнасць мастацкай мовы і г.д. У С. Федарэнкі, што атрымаў выдатную школу (у 1966 г. скончыў сярэднюю мастацкую школу пры Інстытуце імя В. Сурыкава ў Маскве, а ў 1973 г. — Беларускую акадэмію мастацтваў), адзначаныя якасці вызначыліся асабліва яскрава.

Нарадзіўся ён 31 кастрычніка 1946 года ў Магілёве ў сям'і вядомага беларускага мастака Мікалая Федарэнкі. Першыя навыкі ў мастацтве атрымаў ад бацькі, пазней займаўся ў студыі выяўленчага мастацтва магілёўскага Палаца піянераў. Настаўнікамі ягонымі ў Беларускай акадэміі мастацтваў былі выдатныя майстры выяўленчага мастацтва В. Сухаверхаў, А. Казлоўскі, П. Крохалеў. У іх таленавіты юнак авалодаў майстэрствам малюнка, жывапісу, кампазіцыі, усёй выяўленча-вобразнай сістэмай мастацтва. Дыпломная праца мастака "Марш адзінства" была адзначана выдатнай адзнакай.

Адразу пасля заканчэння акадэміі мастак актыўна ўключаецца ў творчае жыццё, удзельнічае ў шматлікіх выставах — як у нашай рэспубліцы, так і за яе межамі. Карціны С. Федарэнкі знаходзяцца ў многіх галерэях і мастацкіх музеях, у прыватных зборах у Англіі, Галандыі, Германіі, Італіі, Іране, Швейцарыі, ЗША і многіх іншых краінах.

На мой погляд, мастак найбольш ярка выяўляе сябе ў жанры партрэта. Бліскуча напісаны мастаком Максім Багдановіч на фоне бяскрайняга мора. Мастак здолеў перадаць нязломны дух вялікага песняра, паказанага ў глыбокім роздуме над лёсам свайго народа. Партрэт выдатна скампанаваны (як, дарэчы, і іншыя творы), напісаны свежа і сакавіта.

С. Федарэнка працуе ў мастацкай манеры, якую сёння нярэдка называюць "традыцыйнай". Жывапісец прынцыпова выяўляе рэалістычнае адлюстраванне навакольнага. Некаторыя мастацтвазнаўцы часам робяць спробу супрацьпаставіць рэалізм так званай "сучаснай" манеры жывапісу, нярэдка паняццям "традыцыйная манера" або "традыцыйны стыль" мастацтвазнаўцы надаюць нават негатыўны сэнс. На мой погляд, такое супрацьпастаўленне не мае ніякіх падстаў. Бо абавязковай умовай традыцыйна рэалістычнага мастацтва, што ідзе, як вядома, ад антычнасці, еўрапейскага Рэнесанса і барока, рускіх перасоўнікаў і так званай Віленскай школы жывапісу (звязанай з беларускім мастацтвам канца XVIII і першай паловы XIX стагоддзяў), з'яўляецца высокая прафесійная культура. Такая культура ўласцівая і лепшым творам С. Федарэнкі.



Аднак ён не застаўся абыякавым да многіх пошукаў сучасных мастакоў. Пра гэта пераканаўча сведчаць яго тэматычныя карціны, у якіх шырока выкарыстоўваюцца прыёмы мантажу, кампазіцыйнага супастаўлення "разначасавых" падзей і фактаў.

Трэба адзначыць дынамізм пластычнай лініі ў карцінах мастака. "Сродкамі метафарычнасці мантажу, усім вобразным ладам жывапісу я імкнуўся перадаць хвалюючыя праблемы мінулага і сучаснасці, — гаворыць С. Федарэнка. — Мастак — гэта як бы нерв зямлі і таму ён не можа заставацца абыякавым да ўсяго, што хвалюе народ, сучаснікаў, да праблем Айчыны з яе болем, трывогамі і надзеямі".

Аналізуючы палотны С. Федарэнкі, нельга не заўважыць: ягоныя партрэты вылучаюцца прастатой кампазіцыйнай будовы, ясным і адкрытым "дыялогам" з гледачом, а ў фігурна-тэматычных кампазіцыях аўтар, на маю думку, часам празмерна ўскладнёны.

У карціне "Боль паэта" вобраз Максіма Багдановіча нечакана з'яўляецца сведкай чарнобыльскай трагедыі і афганскіх падзей. Карціна ў цэлым уражвае. Як заўсёды, аўтару найбольш удаліся партрэтныя вобразы: гаротныя маці ля цынкавых трун, трагічна-задуменны Максім Багдановіч. Суровы, трывожны каларыт палатна падкрэслівае трагізм падзеі. І ўсё ж гледача не пакідае ўражанне, што Максім Багдановіч "перанесены" жывапісцам у наш час, тут дадзены як бы "знарочыста". На мой погляд, агульны сэнс карціны "Боль паэта" не згубіўся б, калі б на ёй засталася згаданая маці ў роспачы, астатнія персанажы.



Вобраз Францыска Скарыны ў карціне "Контррэфармацыя" трапяткі і прывабны. Але ці не згубіўся ён тут сярод ксяндзоў, рыцараў, катаў, гледачоў сцэны экзекуцыі невядомай аголенай асобы на пярэднім плане?

Творчую работу Святаслаў Федарэнка спалучае з выкладчыцка-педагагічнай, выкладаючы малюнак, жывапіс, кампазіцыю ў Беларускім ліцэі мастацтваў. Ён падрыхтаваў нямала высокакваліфікаваных мастакоў.

Сваё пяцідзесяцігоддзе таленавіты жывапісец сустрэў у росквіце творчых сіл і таленту, узгадаванага роднай зямлёй. Імпульсы гэтага таленту ідуць ад сінечы дняпроўскіх хваляў і багатай гістарычнымі падзеямі Магілёўшчыны.

**Віктар ШМАТАЎ,**
**доктар мастацтвазнаўства**

*На здымках: С. Федарэнка (злева) у майстэрні з гасцямі з Англіі; працы С. Федарэнкі "Матрос нафтаналіўнога судна", "Партрэт А. Пысіна".*

---

# На сцэне будучыя медыкі

Прэм'ерамі тэатральны Мінск не здзівіш. Тым больш прэм'ерамі самадзейных творчых калектываў. Але тым, хто прыйшоў 16 снежня мінулага года на прэм'еру спектакля "Трыбунал" А. Макаёнка ў медвучэльні N 2, прыйшлося здзівіцца. Здзіўленне было прыемным: напэўна, мала хто чакаў ад самадзейнікаў — прадстаўнікоў прафесіі, такой далёкай да тэатра, добрага артыстычнага ўзроўню, добрага валодання беларускай мовай, сур'ёзнага, амаль прафесійнага падыходу да імпрэзы. Ініцыятарам спектакля была выкладчыца беларускай мовы і літаратуры вучэльні Валянціна Іванаўна Барташэвіч. Стварэнне яго адбылося дзякуючы дырэктару вучэльні Аляксандру Міхайлавічу Грушы. Добра справіліся са сваімі ролямі другакурснікі, будучыя медыкі Вольга Вітус, Аляксандр Лісіца, Святлана Царкун, Кацярына Кунская, Таццяна Храпко, Мая Лянцэвіч, Андрэй Рошчын, Максім Бандурка.

У вучэльні беларуская мова — на пачэсным месцы. Дзейнічае літаратурнае аб'яднанне "Пачатак", выдаецца аднайменны часопіс, у якім сябры аб'яднання друкуюць свае творы. Адбываюцца сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі.

**Н. К.**

## Прэмія імя А. Капусціна

У мэтах увекавечання памяці празаіка і публіцыста Аляксандра Капусціна (1924—1996) Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і Жлобінскі гарвыканкам устанавілі штогадовую літаратурную прэмію яго імя. Узнагароджваецца прэміяй (10 мінімальных зарплат) будуць літаратары Гомельшчыны, творы якіх апавядаюць пра родную зямлю і яе працаўнікоў, пра харастао тых мясцін, што завуцца бацькоўскім кутам.

Грошы выдзяляе Жлобінскі гарвыканкам. Лаўрэатам прэміі могуць быць як члены Саюза пісьменнікаў, так і маладыя аўтары, якія працуюць у жанры прозы і публіцыстыкі.

Матэрыялы на конкурс дасылаць на адрас: *246003, Гомель, Цэлегіна 17, аддзяленне СП Беларусі.*

## "Купава"



Арыгінальныя вырабы з саломкі і лазы Віцебскай фабрыкі мастацкіх вырабаў "Купава" карыстаюцца попытам не толькі ў жыхароў рэспублікі, а і за яе межамі. Не знаходзяць сабе роўных і трыкатажныя вырабы, якія выпускаюцца тут малымі серыямі.

*На здымку: работніцы фабрыкі Таццяна Стусь і Святлана Гайдукова з вырабамі прадпрыемства.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Колеры і арнаменты Украіны

У зале Галерэі нацыянальнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ўпершыню ў рэспубліцы адкрыта выстава "Украінская вышыўка", наладжаная Рэспубліканскім цэнтрам нацыянальных культур і Асацыяцый украінцаў Беларусі "Ватра". Больш за 20 майстрых, прадстаўніц украінскіх культурна-асветніцкіх таварыстваў з Брэста, Гродна, Маладзечна, Мінска і іншых мясцін, паказваюць сваё майстэрства. На выставе паказаны і старадаўнія украінскія вышыўкі 20—30-ых гадоў з Чарнігаўшчыны, Львоўшчыны, Цярнопальшчыны, Днепрапятроўшчыны.

Выстава арганізавана ў рамках падрыхтоўкі да II Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур.

У яе адкрыцці прынялі ўдзел старшыня Дзяржкамітэта па пытаннях рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь А. Білык, другі сакратар Пасольства Украіны ў РБ А. Муляр, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур В. Мацюшэнка, дацэнт кафедры сусветнай літаратуры Брэсцкага дзяржпедуніверсітэта, старшыня Украінскага навукова-педагагічнага саюза "Берагіня" Л. Дарошка. Адкрыў выставу прэзідэнт Асацыяцыі украінцаў Беларусі В. Гутоўскі, з уступным словам выступіла Г. Станкевіч — віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі, старшыня журы выставы.

Удзельнікаў выставы і гасцей вітаў канцэртны калектыў Цэнтра украінскай песні "Січ".

Н. КАЗАНСКАЯ

Душа

# Пошукі палітыкі, якой не было...

***Беларусь — адна з нешматлікіх постсавецкіх дзяржаў, не маючых значных этнічных і рэлігійных праблемаў. Ці захаваецца гэткі стан ў будучыні і якія захады да таго мусіць зрабіць урад — абмеркаванне гэтых пытанняў адбылося на нядаўнім пасяджэнні калегіі Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў.***

Паводле прадстаўленай на калегіі статыстыкі, рэлігійная сітуацыя ў канцы года мела наступны выгляд: колькасць зарэгістраваных рэлігійных супольнасцяў склала 2237 — на 117 больш, чым летась, і ў 2,6 разы больш, чым ў 1988-м годзе, калі дзяржава пачала пераглядаць сваё стаўленне да пытання свабоды сумлення, што дало магчымасць за апошнія дзевяць гадоў зарэгістраваць свае статуты 2149 рэлігійным аб'яднанням. Сёння ў краіне існуе шэраг агульнаканфесійных арганізацый: 34 рэлігійныя аб'яднанні з уласнымі цэнтрамі, 16 мужчынскіх і жаночых кляштараў, 9 брацтваў і 4 сястрынствы, 13 місій і 9 духоўных навучальных установ. Колькасць веравызнанняў і канфесій за згаданы час павялічылася з 8 да 26, а цэнтральныя і мясцовыя органы дзяржаўнага кіраўніцтва перадалі ім шэраг вольных і вызваленых культавых пабудоў, аказалі дапамогу ў набыцці і прыстасаванні для патрэб вернікаў камунальных будынкаў. За апошнія гады рэлігійным суполкам было перададзена 1527 культавых будынкаў і яшчэ 174 будуюцца.

Разам з тым занепакоенасць Камітэта выклікае дзейнасць у Магілёўскай, Віцебскай, Гомельскай і Брэсцкай абласцях шэрагу незарэгістраваных рэлігійных арганізацый і місій. На думку прадстаўнікоў урада, апарат Дзяржкамітэта не аказвае дастатковай дапамогі мясцовым уладам ў пытаннях выканання заканадаўства аб рэлігіях і цэрквах, у выніку чаго ў сталіцы і абласных цэнтрах не вядзецца дастатковай працы дзеля спынення дзейнасці дэструктыўных сектаў. Пытанне адсутнасці ў нацыянальным заканадаўстве тэрміна "дэструктыўная секта" і патрабаванняў барацьбы з ёй на калегіі не абмяркоўвалася.

Увагу прысутных прыцягнулі і праблемы, што вынікаюць з асаблівасцяў нацыянальна-культурнага складу насельніцтва дзяржавы. Было адзначана, што ў 1997 годзе ствараліся і ўдасканальваліся асновы сістэмы дзяржаўнага развіцця нацыянальных супольнасцяў краіны і рэгулявання міжнацыянальных стасункаў, а таксама кантактаў з беларусамі замежжа. Нягледзячы на тое, была адзначана наяўнасць асобных праблем у стасунках паміж часткаю нацыянальных аб'яднанняў і мясцовымі ўладамі.

Прычынамі адсутнасці поўнага вырашэння праблем нацыянальнага жыцця былі названы слабае інфармацыйнае і навуковае забеспячэнне дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, нязначнасць сродкаў, вылучаных дзяржавы на патрэбы нацыянальных супольнасцяў, адсутнасць моцнай, забяспечанай і добра падрыхтаванай сістэмы дзяржаўнага кіравання нацыянальнай палітыкай, якая мае быць актыўнай і навукова абгрунтаванай.

Апошняй часткай пасяджэння стала абмеркаванне вынікаў рэалізацыі дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце". Разам са станоўчымі вынікамі яе рэалізацыі быў адзначаны недастатковы характар і ўзровень сувязяў з суайчыннікамі за мяжою.

Калегіяй былі прыняты шэраг рашэнняў, якімі ў сваёй далейшай дзейнасці будзе кіравацца Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў. У прыватнасці, вырашана падрыхтаваць шэраг паправак да Закона аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацыях, а таксама новую рэдакцыю Палажэння аб парадку запрашэння і дзейнасці замежных святароў на тэрыторыі краіны. У сферы нацыянальнай палітыкі вырашана ўзгадніць і зацвердзіць канцэпцыю нацыянальна-культурнага развіцця этнічных супольнасцяў Беларусі ды падрыхтаваць канцэпцыю дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, якой, як можна зразумець, дагэтуль проста не існавала. Што да нашых суайчыннікаў за мяжою, дык ім у рашэннях калегіі была нададзена асаблівая ўвага. Новымі заданнямі Дзяржкамітэта сталі забеспячэнне лаяльнасці беларусаў замежжа да ўнутранай і знешняй палітыкі Беларусі ды выкарыстанне магчымасцяў іх аб'яднанняў для інфармавання сусветнай супольнасці аб падзеях у нашай краіне.

Апошняй урадавай ініцыятывай, скіраванай на падтрымку развіцця нацыянальных меншасцяў Беларусі, арганізацый беларусаў замежжа, а таксама на духоўна-маральнае адраджэнне грамадства, стала зацвярджэнне палажэння аб Ганаровай грамаце Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў. Ёю будуць адзначацца фізічныя і юрыдычныя асобы краю і замежжа, чыя дзейнасць будзе адпавядаць крытэрыям, вызначаным кіраўніцтвам Дзяржкамітэта.

У. П.

Фрагменты

# Думкі і азарэнні

***Шры Аўрабінда пражыў доўгае і незвычайнае жыццё. Атрымаўшы адукацыю ў Англіі і вярнуўшыся на радзіму, ён стаў адным з пачынальнікаў нацыянальна-вызваленчага руху ў Індыі. Разам з тым свет ведае яго як мысляра і філосафа, заснавальніка так званай супраментальнай ёгі — цэлай сістэмы дасканалення свядомасці чалавека, яго духоўнай эвалюцыі. "Чалавек — пераходная істота, — пісаў вялікі гуру. — Яго станаўленне не завершана". Асаблівасць светапогляду Шры Аўрабінда ў тым, што ў жыцці ён займаў актыўную пазіцыю і не лічыў выйсцем уцёкі ад рэчаіснасці.***

***Прапануем вашай увазе ўрыўкі з яго работ.***

●

Бываюць часіны, калі Дух жыве сярод людзей і дыханнем Гасподнім поўняцца воды нашага быцця; ёсць і другія часы, калі ён адступае, прадастаўляючы людзей іх уласнай сіле або слабасці. У першыя з названых нават сціплыя намаганні даюць вялікія плады і карэнным чынам змяняюць лёс; у другія — і значныя высілкі не прыносяць плёну. Але ж, папраўдзе, другія могуць падрыхтоўваць першыя, могуць быць тым ахвярным дымком, што, уздымаючыся да нябёсаў, выклікае лівень шчадротаў Гасподніх.

●

Тое, што не па сілах мне зараз, — адно ўказанне на нешта такое, што стане маёй справай у будучым. Усведамленне немагчымасці ёсць пачатак усялякай магчымасці. Менавіта таму, што гэты часовы сусвет быў і парадоксам, і чымсьці немагчымым, Вечнае сатварыла яго са сваёй існасці.

●

Перш за ўсё ўсведамляй сябе знутры, затым думай і дзейнічай. Любая жывая думка — гэта свет у яго прыгатаванні, любое рэальнае дзеянне — гэта праяўленая думка. Матэрыяльны свет існуе толькі таму, што аднойчы ў боскай самасвядомасці пачала сваю гульню нейкая Ідэя.

●

Напачатку чалавек шукае навобмацак і нават не ўсведамляе таго, што шукае ён сваё боскае "я", бо шлях яго бярэ пачатак у змроку матэрыяльнай Прыроды, і нават калі ён пачынае бачыць, яго яшчэ доўга слепіць святло, што ў ім разгараецца...

●

Увесь свет прагне свабоды, і ўсё ж кожная істота любіць аковы свае; у гэтым — найпершы парадокс і найскладанейшы вузел нашай прыроды.

●

Чалавек любіць абмежаванасць фізічнай істоты сваёй, аднак ён набывае свабоду свайго бязмежнага розуму і сваёй бессмяротнай душы. І штосьці ў ім дзіўным чынам імкнецца да гэтых кантрастаў; жаданых для яго ментальнай сутнасці. Не толькі нектар, але і атрута прыцягваюць нашу цікаўнасць.

●

Дасягнуўшы бязмежнага адзінства ў сабе, аддаць сябе свету — вось найвышэйшая свабода і абсалютная ўлада.

●

Душы, пазбаўленыя парыванняў, ёсць Божыя памылкі; Прырода ж рада ім, ёй падабаецца множыць іх лік, бо яны забяспечваюць устойлівасць яе існавання і прадоўжваюць яе ўладу.

●

Дзе б ні бачыў ты вялікае завяршэнне, ведай: гэта прыкмета вялікага пачынання. Як бы ні палохала твой розум суцэльнае, жорсткае разбурэнне, суцяшай сябе тым, што за ім немінуча прыйдзе вялікая і магутная стваральнасць.

●

Чаму Бог так бязлітасна пасылае свайму свету ўдар за ўдарам, топча і месіць яго, быццам цеста, чаму так часта кідае яго ў крываву купель і выпрабоўвае полымем пякельным? Таму што чалавецтва ў масе сваёй падобна на цвёрды, непадатлівы, невысакародны метал, інакш яго немагчыма ні расплавіць, ні надаць яму форму; які матэрыял, такі і метад...

●

Дух — існасць нашага быцця; розум, жыццё і цела як недасканалыя ёсць маскі яго; у ідэале яны павінны былі б стаць формамі яго выяўлення.

●

Калі пераўзыдзем чалавечае, зробімся Чалавекам. Была падмогай Жывёла, цяпер жа яна — перашкода.

●

Кожная з рэлігій дапамагала чалавецтву. Паганства падарыла чалавеку болей прыгажосці, узвысіла яго жыццё, расшырыла яго межы, спарадзіла прагу дасканаласці; хрысціянства дало яму бачанне боскай любові і міласэрнасці; будызм указаў яму шлях да большай мудрасці, мяккасардэчнасці, чысціні; іудаізм і іслам — шлях рэлігійнай вернасці ў дзеянні і шчырай адданасці Богу; індуізм адкрыў перад ім найшырэйшыя і найглыбейшыя магчымасці духу. Калі б усе гэтыя бачанні Бога маглі ахапіць адно адное і злучыцца адно з адным, адбылося б штосьці надзвычайнае. Аднак жа ўласцівыя кожнай веры інтэлектуальныя догмы і эгаізм перашкаджаюць гэтаму.

●

Рэлігіі ратавалі мноства душаў, але ніводная з іх дасюль так і не здолела духоўна перамяніць чалавецтва. Для гэтага патрабуецца не культ і не сімвал веры, а бесперапыннае і ўсеабдымнае намаганне, імкненне да духоўнай эвалюцыі.

ПОГЛЯД

# "Ружовы туман"

## РАЗДЗЕЛ З ГІСТОРЫІ ТАТАЛІТАРЫЗМУ

Магчыма, яшчэ не сёння, а з якой-небудзь іншаю "перастройкай", але беларускі народ абавязкова развітаецца з таталітарнай савецкай культурай, якая паўстагоддзя лічыцца ў нас культураю нацыянальнай. Так будзе, бо так адбылося ва ўсіх народаў, якія на нашых вачах вылузаліся з наменклатурнага камунізму. Але й сёння нам ужо дастаткова досведу, каб асэнсаваць гэтую з'яву.

Беларуская савецкая культура па сутнасці сваёй не мела нічога агульнага з нашай нацыянальнай культурай, заснаванай на глыбокіх традыцыях, падпарадкаванай нацыянальным інтарэсам і скіраванай да найвялікшае нацыянальнае мары — незалежнасці. Гэта быў яе сатанісцкі антыпод, які забіў і заглушыў беларушчыну, заняўшы ейнае пачэснае месца. Ілжывая вартасць уласна савецкіх твораў вытлумачвалася лжываю ідэалогіяй, хоць самі гэтыя творы не рабілі нам гонару ў шырокім свеце. Падступны амаралізм партыйнае палітыкі выяўляўся ў тым, што сацрэалістычная хлусня падавалася менавіта як беларушчына і менавіта як да беларушчыны, да яе выхоўвалася **любоў**. Ніякім іншым спосабам убіць гэта ўсё ў галовы людзей было немагчыма. І таму быў абраны самы каварны метад. Пры гэтым добрыя дзве трэціны твораў беларускае культуры давялося замоўчаць.

Што праўда, і ў гэтым каварстве людзі часта распазнавалі фальш. І тады з'яўляліся іранічныя трындушкі пра тое, што "Пятрусь Броўка піша лоўка" або пра тое, што "Добра трымаўся юнак на дапросе, усё расказаў — і што знаў, што не знаў. Вораг жандар дакурыў папяросу і камсамольскую руку пажаў"...

Але што заўтра мы мусім рабіць з усёй гэтай неабдымнай спадчынай сацрэалізму? Зразумела, мы не станем адмаўляць і хаваць яе так, як яна сама ў свой час адмовіла і схавала сапраўдную беларушчыну. Але мы мусім аднесці яе да адпаведнага ёй раздзелу **іншае** дысцыпліны — "Гісторыі таталітарызму ў Беларусі".

●

Сёння ў Вільні спрачаюцца вакол ідэі музея таталітарнае скульптуры. Адныя прапануюць паставіць усіх ленінаў і сталінаў у двары былога КДБ, у будынку якога размясціўся суд. Іншыя супраць. Іх галоўны аргумент такі: як людзі будуць даваць у судзе паказанні, бачачы ў вакне Леніна?

У гэткай палеміцы найвастрэй выявілася якраз тое, што сацрэалістычныя шэдэўры паводле ўздзеяння на чалавека — гэта не культура і з іх не можа вырасці новы, нармальны культурны кантэкст. Зразумела, фармалістычныя знаходкі могуць сустракацца і ў прадметах сатанісцкага культу, чым па сутнасці і была беларуская савецкая культура.

"Думаю, што многія з нас, савецкіх літаратараў, людзей партыйных, мараць калі-небудзь напісаць вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна, кожны ў сваім жанры."

Іван Шамякін

...Як можна даваць паказанні ў судзе, бачачы ў вакне каменнага Леніна? — уражана пытаюцца ў Вільні. Суд судом. Але як можна жыць, штодня сустракаючы каменных і бронзавых ленінаў проста на вуліцы і на пляцы? Як не зблытаць эпоху? Як выйсці з гэтага, паводле Васіля Быкава, ружовага туману?

Магчыма, Быкаў стаў тым пісьменнікам, які першы выйшаў з ружовага туману. Фігуральна кажучы, з Коласам беларуская літаратура ўвайшла ў гэтую хмару, надоўга згубілася ў ёй, а з Быкавым выйшла. Яшчэ не ўся. Надта цяжка ёй гэта даецца.

Натуральнае пытанне — а што ж рабіць з тымі сотнямі літаратараў і дзесяткамі класікаў, якія цалкам упісаліся ў савецкі перыяд? Выбіраць з іхнае творчасці тое, дзе не згадваюцца дыктатары? Але гэта немагчыма. Бо флюідамі таталітарызму прасякнутыя нават кнігі тых аўтараў, на якіх учора гадаваліся сённяшнія незалежнікі і дэмакраты. Не сакрэт, што ў савецкія часы нават паэма "Ленін думае пра Беларусь" магла выклікаць нацыяналістычныя пачуцці.

Пакінуць усё на водкуп чытачу? А школьныя праграмы, дзе й цяпер поўна чалавечных бальшавікоў, якія вяршаць свае акты справядлівасці — раскулачванне, выкрыццё шпіёнаў і сабатажнікаў, хвацкія расстрэлы?..

*На золаце — ўзняты Кастрычніка сцяг,*
*Просторы бязмежныя, ясныя,*
*Да сонца шырокі пралажаны шлях,*
*Багатыя нівы калгасныя...*

Максім Танк

Пакінуць усё на водкуп рынку? Але з выдаленнем савецкага кантэксту многія матывацыі ўчынкаў ды й проста рэаліі становяцца незразумелымі сучаснаму чытачу. Рынак адкідае гэтую літаратуру. А як быць з яе відавочным амаралізмам, няшчырасцю або перавернутым разуменнем свету?

*Камуністы — гэта слова, як са сталі,*
*Камуністы — гэта слова, як з агню.*
*Маркс і Энгельс нам імя такое далі*
*Сто гадоў таму назад упершыню.*

Аркадзь Куляшоў

Эстэтычна гэта сапраўды не літаратура, а прадметы сатанісцкага культу. І зусім неабавязкова, каб там пісалася пра сацыяльныя чысткі. Калісьці Анатоль Сідарэвіч сказаў мне па сакрэце, што далі б яму волю, ён бы з дзевяці тамоў Броўкі выбраў некалькі дзесяткаў "крэпкіх" вершаў і атрымаўся прыстойны зборнік. Але ён казаў мне тое гадоў пятнаццаць назад. Сёння, думаю, трэба было б зноў адбіраць — ужо з таго выбранага зборніка. Заўтра — з сённяшняга. І так — да нуля.

Калі мы разумеем гэта, дык навошта займацца гэтымі пераборкамі?..

*Дык хто мы?*
*Песняры ці хлусняры?*
*Я добра жыў:*
*Пакутваў і спагадваў,*
*Я веру Леніну*
*З дзіцячае пары...*
*Няхай агнём бязлітасным гарыць*
*Свет бюракратаў, махляроў і гадаў.*

Пімен Панчанка

Амаралізм у генах, у крыві гэтага антымастацтва. Вы можаце чытаць пра вясковыя сантыменты або сцэны кахання, захапляцца лёгкасцю пяра, празрыстасцю апісання, але пры гэтым атрымліваць тыя самыя метастазы сатанізму. Бо оды Сталіну, чэкістам і партыі — гэта не маскіроўка або недаразуменне гэтых пісьменнікаў. Гэта іх шчыры стан душы, нават у момант замілавання прыродай. Гэта ружовы туман.

Апаненты звычайна кажуць, што адбор прывядзе да збяднення літаратуры. Але гэта збядненне для тых, хто сумуе па савецкай іерархіі. Адсюль непапулярнасць літаратуры, яе разбэрсанасць, нявыстраенасць і некантавертабельнасць. Яна, поўная "дарагіх усім" імёнаў, нікому непатрэбная. Прычым творцы ружовага туману пераблытаныя ў ёй з сапраўднымі класікамі і разбураюць тую сапраўдную іерархію, якая мусіць выбудоўвацца сёння.

У самай апошняй анталогіі беларускай паэзіі, якая выйшла ў 93-м годзе цытаваныя вышэй вершы выдрукаваныя ў адным томе з творамі Генюш. Вершы забітых чаргуюцца з вершамі апявальнікаў забойства. Няма ніякай іерархіі.

Збядненне літаратуры — міф. Калі яно й ёсць, то выяўляецца ў замоўчванні або стрымліванні рэальных шэдэўраў. Ніхто не будзе сёння чытаць усяго Коласа, але дасавецкі Колас складаецца з патэнцыйных бестселераў. Колькі ні выдаюць "Вянок" Багдановіча ў адным шэрагу з кнігамі савецкіх паэтаў, а "Вянка" не купіць. Гэты, дарэчы, галоўны бестселер беларускай літаратуры XX ст. проста не выдаецца адпаведнымі накладамі. Як і шмат чаго іншага.

Абсалютна чысты пісьменнік Максім Гарэцкі, ніяк не падпалы ружоваму туману. Пасля ягонага расстрэлу цэлы перыяд беларуская літаратура хавалася на эміграцыі, да выдатных твораў якой нашая крытыка толькі падступаецца. Нічога не вылушчыш з кніг Броўкі, Глебкі і нават яшчэ блізкіх Мележа, Танка... Там паўсюль ёсць або няпраўда, або метастазы сатанізму, ачалавечвання бесчалавечнасці. Разумею, што сказанае надта не супадае са стэрэатыпамі згаданых творцаў, але раю перачытаць іхнія кнігі. Калі вы самі выбраліся з савецкага кантэксту, з ружовага туману, вам гарантаванае суцэльнае расчараванне.

Сёння пакутліва выбіраецца адтуль і Янка Брыль, для якога гэты найважнейшы акт прыпадае на час, калі пісьменнік ужо стаў жывым класікам.

Калі казаць пра маладзейшых літаратараў, то іх выбар таксама вырашаецца сёння. Нехта з іх ніколі не пісаў пра самага чалавечнага чалавека, а нехта, магчыма, толькі збіраецца гэта зрабіць. Няпэўнасць сітуацыі і панаванне рэжыму, які дэкларуе вяртанне СССР, слабейшых уводзіць у спакусу. Менавіта таму для гісторыка літаратуры сёння вельмі добра відзён пачатак хваробы — уваходжанне ў зону каламуці, але яшчэ такі мала выразны канец — выхад з гэтае зоны.

У Савецкай Беларусі былі свае спосабы "пераацэнкі каштоўнасцяў". Вымаліся, напрыклад, усе вершы Купалы, прысвечаныя Сталіну. Але тут ніхто не казаў пра збядненне Купалы. І каго гэта сёння хвалюе, акрамя пяці спецнавукоўцаў. Паводле гэткае логікі, цяпер мы мусім выняць Леніна з ягонымі паплечнікамі, кампартыю з яе роляю, прычым выняць як з тэксту, так і з кантэксту. Але такая "зачыстка" — гэта таксама метад таталітарнага рэжыму. У нашым жа выпадку даводзіцца сцвярджаць, што ўся беларуская савецкая літаратура — гэта не раздзел беларускай літаратуры, а раздзел іншае дысцыпліны. Мы мусім не выбіраць, а зрабіць свой адзіны маральны выбар. Развесці па розных кнігах.

Яшчэ адзін міф беларускай савецкай літаратуры — гэта яе эстэтычныя здабыткі. "Пахне чабор", "Сцяг брыгады", "Атланты і карыятыды"... Але перачытайце гэтыя творы сёння. Зразумела, што ў свой час, калі існавала адпаведная сітуацыя для ўспрымання такой эстэтыкі, гэтыя творы па-свойму выдатна дапаўнялі "Марш энтузіястаў" і Пастанову аб далейшым паляпшэнні палітыка-выхаваўчай работы. Але сёння гэтага кантэксту няма ці, дакладней, амаль няма. І ўжо нічога не вытлумачвае тыя або іншыя пачуцці Броўкі, або Пысіна, або Панчанкі. Выраз "Ленін думае пра Беларусь" успрымаецца як крываваe фатальнае таўро на нашай гісторыі XX ст.

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

Ліст у рэдакцыю

# "Ці не занадта гэта..."

У "ЛіМе" за 31 кастрычніка была змешчана рэцэнзія Алы Сямёнавай на кнігу Яна Чыквіна "Блізкія і далёкія". У гэтай рэцэнзіі згадваецца і мая сціплая асоба. Справа ў тым, што паважаны рэцэнзент не можа пагадзіцца з ацэнкай майго літаратурнага даробку, дадзенай Чыквіным у ягонай кнізе "Блізкія і далёкія". Рэцэнзента непакоіць (цытую): "...высокая ацэнка Яна Чыквіна: "непераўзыдзены". Адразу ж хачу зазначыць: нідзе, паўтараю, нідзе ў сваім артыкуле пра маю паэзію Ян Чыквін не карыстаўся тэрмінам "непераўзыдзены". Гэты тэрмін прыпісала яму спадарыня рэцэнзент. Мала таго, рэцэнзенту захацелася высвятліць прычыны, якія маглі штурхнуць Чыквіна на такую "высокую" ацэнку, і тут пайшлі славеса спекулятыўнага характару: можа, на Чыквіна падзейнічала мая "жыццястойкасць", можа, мая "вернасць беларускаму слову", можа, нарэшце мая "асабістая абаяльнасць", але (цытую): "...хоць памры, не магу знайсці сутнаснага пацвярджэння таму месцу на беларускім Парнасе, куды настойліва ўзносяць яго (г. зн. мяне) калегі-літаратары". У іншым месцы рэцэнзіі Сямёнавай мы чытаем і такое: "Масей Сяднёў — літаратар, да якога проста цягнуцца журналісты і даследчыкі".

Што мяне дзівіць, дык гэта нераўнадушнасць рэцэнзенткі да мае сціплай асобы, непераборлівае выкарыстоўванне такіх моўных сродкаў, як "хоць памры, не магу знайсці...", "узносяць", "цягнуцца", дзівіць нейкае пагардлівае ці што стаўленне да сваіх жа калегаў — "журналістаў" і "даследчыкаў", быццам тыя і на самай справе не могуць разабрацца, што да чаго.

Ці не занадта гэта, Спадарыня Сямёнава?

**М. СЯДНЁЎ**

*1997, Глен Коў, ЗША*

ЗАМЕЖЖА

# Польшча хоча сябраваць з усходнім суседам. Але пад парасонам НАТА

Расія нязменна цікавіцца Польшчай, але і палякі не застаюцца ў даўгу. Пра гэта гаварыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Расійскай Федэрацыі Анджэй Залуцкі ў эксклюзіўным інтэрв'ю "Литературной газете" (N 38). На пытанне карэспандэнта, ці так ужо радыя палякі незалежнасці, якую яны атрымалі пасля распаду сацыялістычнага лагера, Анджэй Залуцкі не без гонару адказаў, што пачуццё любві да свабоды ўвогуле тыповае для свядомасці палякаў. "Да гэтага нас прывучыла гісторыя, — патлумачыў ён. — Наша краіна размясцілася ў такім рэгіёне на карце Еўропы, які заўсёды быў транзітным для ваенных паходаў з Захаду на Усход і з Усходу на Захад. Так, былі ў нас перыяды незалежнасці, але былі і такія, калі Польшчы ўвогуле не існавала на карце. Былі гады, калі на польскай зямлі нават размаўляць па-польску забаранялася. Польская нацыянальная культура тады дзейнічала ў падполлі. Зразумела, гэта наклала свой адбітак на псіхалогію палякаў. Краіну агароджвалі чужыя платы — прускі, аўстрыйскі, расійскі, а потым гітлераўскі, а потым савецкі. У перыяды падзелаў Польшчы народ падвяргаўся то германізацыі, то русіфікацыі. А ўсё ж мы нязменна заставаліся палякамі". Анджэй Залуцкі лічыць, што ў гэтым перш за ўсё дапамог касцёл. Менавіта ён адыграў агромністую ролю ў абароне нацыянальнай культуры. Ён дапамагаў захоўваць традыцыі, вобраз мыслення, родную мову.

"А яшчэ, — падкрэсліў польскі дыпламат, — у гэтым зберажэнні адыграла вялікую ролю традыцыйная польская сям'я, якой у нас надаюць вырашальную ролю ў нацыянальнай самасвядомасці. А ў сям'і найперш — жанчына. Са старажытнымі калыханкамі ў вушы дзетак уваходзілі наша мова і наша самабытнасць".

На пытанне, ці ўзнікае зараз перад насельніцтвам краіны, якая пасля вайны фактычна была сатэлітам Савецкага Саюза, праблема ўваходжання ў еўрапейскі вобраз мыслення, менталітэт, а таксама чаму Польшча гэтак імкнецца ў Паўночна-Атлантычны саюз (НАТА), няўжо па-ранейшаму баіцца традыцыйных імперскіх амбіцый Расіі, польскі дыпламат адказаў, што яго краіна ўвогуле была звязаная з Захадам здаўна. Часам нават каралёў мела агульных. А падзелы Польшчы ў дадатак яшчэ і нязменна пашыралі польскую эміграцыю — у Францыі, ЗША, Канадзе. Нямала палякаў пакінулі радзіму пасля таго, як у краіне запанаваў прасавецкі рэжым, але ж і тады духоўныя сувязі не парываліся. Што да боязі суседа на Усходзе, заўважыў Анджэй Залуцкі, то сапраўды, гэта ў свядомасці палякаў існуе. Старэйшыя пакаленні добра памятаюць, як камандавала Масква. Савецкія танкі пастаянна знаходзіліся на зямлі "брацкай Польшчы"... Зараз іншым разам гавораць пра русафобію ў Польшчы, працягвае ён, так, яна сустракаецца... Вядома ж, палякі не маглі спакойна бачыць па тэлевізары кадры дымных руін Грознага. Думалі: а гэтак жа могуць і ў нас!

Што да НАТА, сказаў Анджэй Залуцкі, то не трэба думаць, што тут нейкая прыхаваная агрэсіўнасць, у Польшчы ўвогуле цывільны міністр абароны, а парламент строга кантралюе фінансавыя сродкі на армію. Знаходзячыся ў сістэме Варшаўскага дагавора, Савета Эканамічнай Узаемадапамогі, Польшча падобных дэмакратычных заходаў не магла сабе дазволіць і блізка. А НАТА — адзіная еўрапейская структура, якая можа даць рэальную гарантыю і нацыянальнай бяспекі, і многіх іншых магчымасцей для развіцця краіны на сучаснай цывілізаванай аснове, зазначыў польскі пасол у Расіі. У той жа час ён падкрэсліў вялікую каштоўнасць культурнага і навуковага абмену Польшчы з Расіяй. Трэба ўстанаўліваць і новыя кантакты дзеячаў культуры, журналістаў, пісьменнікаў. Дзве ж суседнія культуры здавён узбагачалі адна адну. Навошта ж ад гэтага адмаўляцца? Тое ж і эканамічныя сувязі: яны павінны стаць больш шырокімі, упэўнены польскі пасол.

**Падрыхтаваў У. А.**

## "Над Дняпром, Дзяснойі Сожам"

Пад такой назвай на гомельскай зямлі адбылося літаратурнае свята. Яно з'яўляецца сімвалам дружбы паміж суседзямі — жыхарамі палескага краю. У Гомель прыехалі пісьменнікі з Бранска Мікалай Пасной і Уладзімір Селязнёў, з Чарнігава —Станіслаў Рэп'ях, Пётр Куцэнка і Мікола Малы. У свяце ўдзельнічалі мінчане Алесь Пісьмянкоў і Анатоль Зэкаў, а таксама гомельскія літаратары.

Свята пачалося вечарам у ГДУ імя Ф. Скарыны. Пісьменнікі сустрэліся з кіраўніцтвам вобласці, а потым выступалі ў школах і працоўных калектывах Рэчыцы і Добруша. Наведалі яны і радзіму Івана Шамякіна — вёску Карма Добрушскага раёна.

Да свята падрыхтавала літаратурны выпуск абласная газета "Гомельская праўда".

Н.К.

## "Мастацтва", N 12

Чакае свайго часу кніга пра выдатнага тэатральнага дзеяча К. Саннікава. Укладальнік яе А. Станюта ў артыкуле "Чалавек тэатра", якім адкрываецца апошні леташні нумар часопіса "Мастацтва", выкарыстаў старонкі гутаркі з былымі вучнямі К. Саннікава, а цяпер знакамітымі рэжысёрамі Б. Луцэнкам і В. Раеўскім. Т. Арлова ("Тры рэцэнзіі на выбраныя спектаклі") дзеліцца ўражаннямі ад такіх пастановак, як "Крывавая Мэры" Д. Бойкі на Малой сцэне Нацыянальнага тэатра імя Я. Купалы, "Цяжкія людзі, або Жаніх з Іерусаліма" Іосіфа-Бар-Іосіфа на сцэне Акадэмічнага Рускага тэатра імя М. Горкага і "Брат мой Сымон" У. Рудава ў Тэатры-лабараторыі "Вольная сцэна". Штрыхі да творчага партрэта віяланчэліста А. Алоўнікава прапануе Л. Ляшчэвіч ("Музыкант — гэта бясконцая здольнасць удасканальвацца"). Н. Галаўніцкая ("Быць камертонам музычнага мастацтва") гутарыць з Г. Праваторавым пра сусветна вядомага Д. Шастаковіча. Д. Падбярэзскі ("Вялікі славянскі базар") запрашае вярнуцца на адно з найбольш шырока разрэкламаваных мерапрыемстваў мінулага года. П. Васілеўскі ("Patria eterna" — "Радзімая вечная") разважае пра творчасць мастакоў суполкі "Пагоня". У дзевятым нумары "Мастацтва" расказвалася пра здымкі на кінастудыі "Беларусьфільм" 13-серыйнага тэлесерыялу "Зала чакання". Тады слова было дадзена рэжысёру Д. Астрахану і сцэнарысту А. Данілаву, цяпер — акцёрам ("Другое дно мыльнай оперы"). Гутарку з імі зрабілі Ю. Барысевіч і А. Дзмітрыеў. Т. Габрусь ("Сэрца Палесся") запрашае ў старажытны Пінск, якому споўнілася 900 гадоў. Апублікавана заканчэнне даследавання У. Конана "Славянская міфалогія ў кантэксце беларускай культуры".

## Фіналіст "Зорнай ростані"



Фіналістам II адборачнага тура конкурсу "Зорная ростань" у Лідзе стаў віцебскі школьнік, вучань 11 класа Ягор Чуб. Ён — лаўрэат "Тэлебома" і конкурсу "Песні юнацтва нашых бацькоў".

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

КНІГАРНЯ

# "...Нараджаюцца не ў кожнае стагоддзе"

Перафразуючы вядомае выказванне Фёдара Цютчава пра Аляксандра Пушкіна, адносна нашага М. Багдановіча можна сказаць: "Беларусі першая любоў". І тым растлумачыць такую цікавасць да яго кароткага жыцця і неўміручай творчасці. Цікавасць чытацкую найперш, але і даследчыцкую — таксама. Калі сабраць разам кнігі, напісаныя пра М. Багдановіча, атрымаецца ладны стос. У розны час пра яго пісалі М. Барсток, А. Бачыла, Р.Бярозкін, Н. Ватацы, М. Грынчык, І. Замоцін, А. Кабаковіч, М. Ларчанка, А. Лойка, С. Майхровіч, Я. Міклашэўскі, М. Стральцоў — усіх і не пералічыш. Не кажучы ўжо пра аўтараў асобных даследчыцкіх і літаратурна-крытычных артыкулаў.

Асоба М. Багдановіча па-ранейшаму прыцягвае новых даследчыкаў. Пацвярджэнне таму і кніга народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі "Максім Багдановіч", якая летась пабачыла свет у выдавецтве "Беларуская навука". Не лішне нагадаць, што Іван Якаўлевіч апошнім часам паслядоўна, мэтанакіравана падступаецца да постацяў слынных творцаў, сапраўднага гонару нацыі. Прынамсі, раней выйшлі яго кнігі пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Змітрака Бядулю. Прытым І. Навуменка не проста прачытвае мастакоўскую спадчыну пэўнага аўтара з пазіцыі сённяшняга дня, а і, як правіла, звяртае ўвагу на моманты, якія палярэднімі даследчыкамі не закраналіся, а калі і закраналіся, дык мімаходзь. У прыватнасці, у кнізе пра Змітрака Бядулю шмат акцэнтаў зроблена на ранняй творчасці гэтага майстра нацыянальнай прозы і пераканаўча паказана, наколькі моцныя ў ёй элементы імпрэсіянізму.

Гэтым жа шляхам І. Навуменка ідзе і ў новай працы. Ці не ў самым пачатку кнігі ён зазначае: "Гаворачы пра Багдановіча, мы ўвесь час як бы падцягваем ягоную творчасць, як і творчасць Купалы, Коласа, пад рэалізм. Але гэтым самым збядняем беларускую паэзію. Бо быў у ёй рамантызм, значны пласт якога ўтрымлівае ў сабе творчасць Купалы, істотныя праявы імпрэсіянізму знаходзім у Бядулі, вэлюмам імпрэсіянізму і сімвалізму як бы ахінута паэзія Багдановіча". І тут жа даследчык, уважліва перачытваючы паэзію М. Багдановіча, намацвае, кажучы яго словамі, шляхі-пуцявіны, што вялі М. Багдановіча да згаданых плыняў.

Перад намі не проста даследчыцкая праца, а праца-роздум, глыбіня аналізу ў якой спалучаецца з пошукам аўтарам ісціны, а ісціна, як вядома, не бывае ў гатовым, скандэнсаваным выглядзе. Яна часам знаходзіцца на перакрыжаванні розных думак, меркаванняў, а ў дадзеным выпадку шлях да яе — гэта і шлях да спасціжэння усяго М. Багдановіча як аднаго з найвыдатнейшых беларускіх паэтаў. А М. Багдановіч быў, ёсць і застаецца М. Багдановічам найперш таму, што гэта паэт БЕЛАРУСКІ. І пра гэта І. Навуменка згадвае неаднойчы: "...сярод тагачасных пісьменнікаў, уключаючы Янку Купалу і Якуба Коласа, не было другога літаратара, які б лепш, глыбей, чым Багдановіч, ведаў гісторыю роднага краю, працэс складання беларускай пісьменнасці са старажытных часоў да сучасных пісьменніку дзён", "...можна без перабольшання сказаць, што на пачатку веку не шмат было людзей, якія мелі такія універсальныя веды пра Беларусь, як меў іх Максім Багдановіч. І не толькі беларусамі цікавіўся, а ўсімі славянамі, асабліва тымі, што стаялі на парозе Адраджэння".

Беларускасць М.Багдановіча, як відочна, ва ўсім ім, ва ўсёй ягонай душы. І тут не правамоцна М. Багдановіча-паэта аддзяляць ад М. Багдановіча-даследчыка, літаратуразнаўца. Падобнай думкі і прытрымліваецца І. Навуменка, а згаданыя высновы ў яго з'явіліся пасля ўважлівага знаёмства з трохтомным Зборам твораў паэта і пасля перачытвання такіх артыкулаў М. Багдановіча, як "Глыбы і слаі", "Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці", "За сто лет"... А напрыканцы кнігі знайшлося месца і іншай высновe, якая, магчыма, каму-небудзь падасца ў нечым катэгарычнай, аднак, відаць, правільней усё ж прыслухацца да меркавання такога аўтарытэта, якім з'яўляецца І. Навуменка: "Скажам колькі слоў пра Багдановіча-крытыка. Лепшага, чым ён, не было ў беларускай літаратуры ні ў дарэвалюцыйную пару, ні нават у савецкі час. Маецца на ўвазе выключная эрудзіраванасць, зацікаўленасць у прадмеце гаворкі, тонкі эстэтычны густ. Пра літаратуру пісаў не паважаны прафесар, які, па выразу Льва Талстога, спісваў у сшытак цытаты са ста кніг, а кроўна зацікаўлены ў развіцці літаратуры чалавек, што бачыў у ёй сэнс уласнага жыцця". І далей таксама немалаважнае: "За спіной Багдановіча была вялікая школа: руская паэзія, яе "сярэбраны век" — Фет, Цютчаў, нарэшце, паэзія сімвалістаў — Блок, Брусаў. Праз гэтую досыць пярэстую паласу Багдановіч прыходзіць да Пушкіна, да яго простага і адначасна шматслойнага верша. Як крытык, Багдановіч у першую чаргу глядзіць не на тое, пра што піша паэт, а як піша. На якасць, на паэтычнасць, на тайну паэзіі".

Максім Багдановіч — паэт беларускі, але ён жа, калі глядзець шырэй, творца, літаратар — еўрапейскага ўзроўню. І ў гэтым у нацыянальнай паэзіі яму не было роўных. Але, арыентуючыся на еўрапейскі, на сусветны ўзровень, ён, як аддany сын Бацькаўшчыны ("...творчасць Багдановіча была прыведзена ў рух вялікай, па-грамадску значнай ідэяй. Ідэяй Беларусі"), канечне ж, дбаў не толькі аб тым, каб самому пісаць годна, як пішуць у свеце іншыя. І пра нацыянальную літаратуру клапаціўся пры гэтым. Не мог не клапаціцца. А ў тых жа сімвалістаў было чаму павучыцца. І М. Багдановіч вучыўся ў іх віртуознасці верша, яго музычнасці. Ды толькі відочна і іншае: "Паэзія сімвалістаў была для яго прыступкай, падняўшыся на якую ён лепей бачыў патрэбы беларускай

# З трывогай за чалавечнасць

У кароценькай прадмове аўтар так вызначае свае тэмы, сваіх герояў:

"Школа, вучні і настаўнікі, бацькі і дзеці... Яны — асноўныя героі большасці з прапанаваных апавяданняў. І яшчэ адна тэма ідзе побач, час ад часу перасякаючыся з галоўнай: вёска, бацькоўская зямля... Нельга гаварыць пра гэта без болю. У памяці вобразы спрацаваных жанчын, нашых старэючых маці, для якіх да гэтага часу шэрыя аднастайныя хусткі, чорныя плюшавыя жакеты і гумовыя боты не перасталі быць нацыянальным вопраткай".

Сапраўды, зборнік апавяданняў і мініяцюр Міколы Сянкевіча "Усё як было" — сустрэча з цікавымі героямі, глыбокімі і мудрымі людскімі характарамі. Аўтар расказвае нам пра наша жыццё, углядаецца, услухоўваецца ў яго. Праз большасць мініяцюр і апавяданняў праходзіць абаяльны вобраз настаўніка, сына сялянскай сям'і, інтэлігента ў першым пакаленні, вобраз, які аўтар без агаворак дазваляе лічыць аўтабіяграфічным. Гэты герой — наш сучаснік, вясковец у душы, які па волі абставін і лёсу стаў гараджанінам. Моцна трымаючыся роднай бацькоўскай зямлі, у якую трывала ўрос каранямі, ён не можа жыць, не думаючы: дзеля чаго наша існаванне, што будзе потым, калі нас не стане... Ці будуць наступныя пакаленні лепшымі, чым былі мы... Свой чалавечы неспакой і філасофска-творчы пошук М. Сянкевіч увасабляе ў вобразе інтэлігента-думанніка, як у М. Гарэцкага, у дапытлівым абліччы настаўніка, як у Я. Коласа, якому грамадства даручыла выхоўваць пакаленні для будучыні. Герой М. Сянкевіча не перастаў лічыць, што ўсё пачынаецца з дзяцінства. Таму для яго дзіцячы боль — найвялікшы. Безабаронна шчыраму, бясконца даверліваму маленству патрэбны наша дарослая любоў, клопат і дапамога. Гэта — пераканание аўтара. Расказваючы пра сваіх малых герояў, ён расказвае і пра нас, дарослых: не толькі пра нашу мудрасць, дабрыню, але і пра нашу адчужанасць, абыякавасць, эгаізм... Пра гэта — апавяданні "Сябры", "Цяжкі выбар", "Лялька на дрэве", "Міхаська", "Верачка", "Таіса"...

Аўтар добра ведае псіхалогію дзяцей — сказваецца не толькі педагагічны, але і ўласны бацькоўскі вопыт. Таму вобразы яго герояў — хлопчыкаў і дзяўчынак — такія пераканальныя, жывыя. Празаіку ўдаецца знайсці трапную дэталь, гаваркі штрых, узнавіць адметную жыццёвую сітуацыю.

Шчымлівы абразок "Чужая брытва", герою якога шасцігадоваму Алёшу не доліла зведаць бацькоўскай апекі і пяшчоты, кранае да слёз. Хлапчана цягнецца да чужых сямейных мужчын, з якімі апынуўся ў бальнічнай палаце. Алёша не ведае, што такое брытва. "Я даў Алёшу патрымаць брытву ў руках, дазволіў папстрыкаць выключальнікам. І салёны камяк міжволі падкаціўся да горла: як гэта горка, як гэта крыўдна, ненармальна, калі шасцігадовы хлопчыкі бяруць у рукі чужую, не тату брытву".

Аўтабіяграфізмам вызначаецца вобраз героя-апавядальніка ў абразках і апавяданнях "Вечар настаўніка", "Адплываем пры ўмове", "Юбілей", "Дзякуй, Сцяпанавіч", "Мае тапалі", "Віна", "Кніжнік"...

Мы і дзеці... Блаславёнае маленства, шчырае, непасрэднае, — таму і шчаслівае... Чалавечая сталасць у большасці выпадкаў перахадзіць у жыццёвую стомленасць, абыякавасць. Над гэтым і многім іншым разважае ў сваёй кнізе М. Сянкевіч. Яму ўдаецца ў істотных, вызначальных абрысах сказаць і пра наша зменлівае на палітычныя сухавеі жыццё: "Прызвычаіліся мы не заўважаць партрэтаў. А дзеці... Добра, што яны хоць нас заўважаюць, вітаюцца..." ("Партрэт").

Абвостраны драматызм сучаснага жыцця, роздум аб недаравальна, незаслужана прыніжаным становішчы інтэлігенцыі, настаўніцтва ў нашым грамадстве па-мастацку дасканала ўвасоблены ў вобразе сталай настаўніцы Ларысы Сяргееўны з апавядання "Страшна заставацца..." Ім істотна дапаўняецца мастацкі вобраз настаўніка-шукальніка, гуманіста-рамантыка ў прозе М. Сянкевіча. Старая настаўніца пачынае ўсведамляць, што яна абкрадзена людзьмі і грамадствам, абыдзена лёсам. Дзяржава вельмі запазычылася ёй. Самаахвярная праца Ларысы Сяргееўны наўрад ці мела сэнс, хоць яна шчыра і старанна выхоўвала заказаныя школе дзяржавай мараль і этыку ў многіх пакаленняў. Толькі зараз да былой настаўніцы прыходзіць глыбокі запознены одум: ці правільна яна рабіла, ці варта было шчыраваць, каб дажываць свой век у адчужанасці, жабрацтве, самоце, непатрэбнай ні ўласным дзецям, ні вучням. Як напаўусвядомленыя пратэст і помста ўспрымаюцца дзівакаватыя, надарэчныя ўчынкі гераіні: у вясковым магазіне яна пацікуе крадзе слоік з кансервамі, халат, дамашнія тапкі, марынаваныя буракі. Старая настаўніца разважае, апраўдваючы сябе: "Дык яны ўсе павінны гэтую марскую капусту насіць мне на кватэру і дзякаваць..." Хто гэта — "усе яны"? Найперш — дзяржава як увасабленне вялікага злодзея і зладзейскіх адносін да сваіх шчырых працаўнікоў. "Забылася дзяржава, абаронцаў якой яна выхоўвала, забылася грамадства, па высокім маральным кодэксе якога яна рыхтавала іх жыць".

Цынізм і абыякавасць да чалавека працы згадваюцца мне, калі чытаю абразкі і апавяданні М. Сянкевіча пра вясковых працаўніц, любімых гераінь аўтара, вобразы якіх у пераважнай большасці ён "спісваў" са сваёй маці ("Юбілей", "Шклянка мёду", "Гасцінец", "Віна"). Гераіні гэтых твораў сагрэты аўтарскім спачуваннем, балючым пачуццём віны перад немаладымі жанкамі, на спрацаваных, трывушчых руках і плячах якіх трымаецца сённяшняя вёска. Стомленыя, знямоджаныя фізічна, часта абдзеленыя лёсам, яны, аднак, багатыя прыгожымі душамі. Нястомная працаўніца, захавальніца хаты, гаспадаркі, адносная вясковага дабрабыту і народнай маралі і этыкі, жанчына-маці, сялянка апаэтызавана і ў вершах М. Сянкевіча.

***З маленства так вадзілася:***
***У працы — не адступіць...***
***Усё жыццё круцілася,***
***Цяпер суставы круціць.***

***Ноч — на таку, да раніцы...***
***Світанне стрэне ў полі...***
***Былое адклікаецца***
***У руках нясцерпным болем.***

І зноў жа, разважаючы аб цяжкай жаночай долі, аб становішчы сучасніцы-сялянкі ў нашым грамадстве, празаік не баіцца выказацца ад уласнага "я". Зацікаўленая, зма-

*Мікола СЯНКЕВІЧ. "Усё як было". Мініяцюры і апавяданні. "Бібліятэка часопіса "Маладосць", 1997.*

паэзіі, што яшчэ не ўмела ці недастаткова ўмела выдзяляць свет асобы, тонкія нюансы чалавечых перажыванняў, характва прыроды, злучанасці чалавечай душы са светам прыроды". Прыступка ж, якой бы значнай яна ні была — неабходна да пары да часу. Каб узняцца вышэй, каб зрабіць пэўны крок, а калі ён пройдзены, патрэба ў ёй адпадае. Таму М. Багдановіч сімвалістам не стаў: "Гэта замінала аддацца роднай "беларусіцы" з яе цвярозым народным поглядам на свет".

Сачыць за ходам разваг І. Навуменкі — адно задавальненне. Ён не з тых літаратуразнаўцаў, якія будуюць такія моўныя канструкцыі, што толькі на першы погляд падаюцца прывабнымі, а на самай справе хутка высвятляецца, што яны лёгка "развальваюцца". Бо зроблены з нетрывалага матэрыялу. Бо мала свайго, вынашанага, належным чынам абдуманага, асэнсаванага, а ўсё ўзята напавер. Вытыркаецца кастрыбаватасць фразы, не ўспрымаецца ўяўная глыбіня, якая пры ўважлівым уніканенні ў сэнс сказанага паўстае не чым іншым, як звычайным наборам "правільных", з прэтэнзіяй на "мудрасць", высноў. У І. Навуменкі ўсё паўстае заканамерным вынікам пераасэнсавання і яшчэ больш удумлівага перачытвання творчасці М. Багдановіча, якая, у чым лёгка заўважыць з кнігі, яму падабаецца і як звычайнаму чытачу.

А яшчэ, што важна ў кнізе, — жаданне ў гаворцы не прапусціць нічога важнага (а хіба ў дачыненні да такой маштабнай АСОБЫ, як М. Багдановіч, можа быць нешта другаснае, не вартае ўвагі?!), што тычыцца жыцця М. Багдановіча і яго творчасці. Зрабіць жа гэта было не так і проста — памер кнігі невялікі, крыху больш за восем уліковавыдавецкіх аркушаў. Аднак І. Навуменку ўдалося належным чынам паразважаць пра розныя аспекты жыцця Максіма-Кніжніка, тактоўна падысці і да такой праблемы, як пытанне асабістага шчасця "бальнога, бяскрыдлага паэта". І, вядома ж, па-новаму пагаварыць пра творы, цыклы, якія даўно сталі хрэстаматыйнымі, а таксама пра тыя, якія прэтэндуюць на гэтую ролю, але чамусьці знаходзяцца як бы "збоку" таго галоўнага, што напісана М. Багдановічам.

Перад намі манаграфічнае даследаванне, таму і ўспрымаць кнігу трэба цэласна. Тым не менш, не магу не вылучыць тое месца ў ёй, дзе гаворка ідзе пра знакамітую багдановічаўскую "Пагоню". У І. Навуменкі па сутнасці атрымалася эсэ пра адзін твор. Пра твор, які на сённяшні дзень прыхільнікамі Адраджэння ўспрымаецца ў мастакоўскай спадчыне М. Багдановіча адным з галоўных. Канечне ж, не без падстаў на гэта, бо менавіта ў "Пагоні" нацыянальная ідэя знайшла сваё надзвія яркае выражэнне. "Пагоня" — верш-гімн. І з адпаведным гучаннем. Невыпадкова І. Навуменка адносіць яго да "паэтычнай публіцыстыкі" М. Багдановіча. Але не гэта асноўнае ў яго даследчыцкіх развагах, а асэнсаванне самога духу твора, высвятленне ўсіх аспектаў аўтарскай думкі, пакладзенай у аснову. І да меркаванняў І. Навуменкі зноў нельга не прыслухацца, бо яны дазваляюць пазбавіцца вузкага, аднабаковага разумення і ўспрымання гэтага, безумоўна, важнага ў мастацкай спадчыне М. Багдановіча твора.

Не абышоў даследчык увагай і стасункаў паэта з бацькам. А, як вядома, яны былі складанымі. Тым не менш не магу цалкам пагадзіцца з высновамі І. Навуменкі. Як на маю думку, ён у сувязі з гэтым празмерна катэгарычны ў ацэнках: "Адам Юр'евіч не веры́ў па-сапраўднаму ні ў беларускую справу, ні ў адраджэнне роднага краю", ці: "...не заўважыў Адам Юр'евіч у родным сыне вялікага паэта". Яно так, ды не ў нечым і... не так. А этнаграфічная дзейнасць А. Багдановіча? Хіба яна не працавала на гэтую самую беларускую справу, на адраджэнне роднага краю? А тое, што, калі ішла грамадзянская вайна, Адам Ягоравіч паклапаціўся, каб зберагчы рукапісы свайго сына — хіба не разуменне ім, што значаць яны для беларускай літаратуры!

Сваю чарговую працу Іван Якаўлевіч завяршае такім падагульненнем: "Талент паэта, як кажуць, ад Бога. "Божую іскру" знаходзім у большасці твораў Багдановіча. Бо ён Майстар, паэт, якія нараджаюцца не ў кожным стагоддзі.

Будзем радавацца, ганарыцца, вечна памятаць, што ў нас ёсць такі паэт, як Максім Багдановіч!"

З чым нельга не пагадзіцца. Як нельга яшчэ раз не выказаць задавальнення ад з'яўлення кнігі "Максім Багдановіч". Дарэчы, наколькі вядома, Іван Якаўлевіч цяпер падступаецца да яшчэ аднаго класіка нацыянальнай літаратуры — Кузьмы Чорнага. Застаецца толькі пажадаць у гэтай працы яму поспеху.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

цыянальная аўтарская прысутнасць успрымаецца як наяўнасць у творах яшчэ аднаго героя — героя-апавядальніка, праз занепакоеную, далікатную і зычлівую душу якога прапушчаны лёсы і падзеі. "Даўно карцела напісаць пра гэта, ды ўсё адкладваў — асцерагаўся, што атрымаецца саладжавая вясковая ідылія. І ўсё ж час ад часу перад вачыма паўставаў воблік немаладой вясковай жанчыны, маці Васіля, майго найлепшага сябра. Бы ўбачавідкі ўяўляў яе пакурчаныя ад працы пальцы, згадваў словы непрывыклых да выступленняў на людзях вясковых жанчын у дзень яе нараджэння, цудоўны настрой душэўнага яднання і разумення..." ("Юбілей").

Герой-апавядальнік М. Сянкевіча спагадлівы да людзей, яму балюча і сорамна за ўсё нялюдскае (апавяданне "Віна").

Са светлым сумам згадваецца ў кнізе першае каханне ("Марына"). Жанчына заўсёды была, застаецца і будзе носьбітам душэўнай светласці, увасабленнем сямейнай утульнасці і ўладкаванасці, спадзяваннем на шчасце. Таму аўтару і сорамна, і балюча бачыць маладую, але ўжо абыякавую жанчыну, якая жыве "ад загула да загула". І як мерка яе чалавечай існасці — раўнадушша да дзіцяці ("Таіса"). Аўтару "...горка, невыносна крыўдна... за гэтую нашу спрадвечную беднасць, за гэтую ўбогасць.

Зусім інакш павінны жыць нашы людзі!"

Апошні працытаваны аўтарскі радок — не больш як дэкларацыя. Як павінны жыць мы, сучаснікі? Празаік толькі спрабуе знайсці адказ на гэтае пытанне.

Перагортваючы старонку за старонкай, зноў і зноў адчуваеш патрэбу і нагоду гаварыць аб асобе апавядальніка. Ён прамаўляе ад імя свайго пакалення вясковых хлопцаў, што займелі прыстойную адукацыю і з'ехалі ў горад. Аднак невядома — ім пашчасціла ці не. "...Без бацькі, без талакі" атрымалі "харомы" — трохпакаёвую кватэру. Добра ці не, але яны ў адрозненне ад сваіх бацькоў не зведаюць прыніжэнняў ад мясцовага брыгадзіра, у якога "каня дапрасіцца — жыць не захочаш". Ад імя гэтага вясковага пакалення гараджан аўтар у сваіх творах нібы просіць прабачэння ў вёскі і яе рупліцаў, такіх, як дзед Апанас ("На ўваходзінах"). "Было адчуванне віны перад чалавекам, які столькі часу імкнуўся да вартага жыцця. А яно, жыццё, мінае і спадзявацца на лепшае няма сіл і няма ўжо калі".

Трапна і слушна гучыць думка М. Сянкевіча: якім па-чалавечы неўладкаваным, адчужаным з'яўляецца гэта гарадское жыццё былых родзічаў-аднавяскоўцаў... Імі ўжо страчана адчуванне каранёў — роду, кроўнага сваяцтва. У тым жа абразку "На ўваходзінах" пра гэта сказана лапідарна, але ёміста, змястоўна і з балючай іроніяй: "Разыходзячыся, напаўзнаёмыя стрыечныя браты і сёстры мяняліся адрасамі і тэлефонамі, каб пасля ніколі не напісаць і не пазваніць..."

Душа немітуслівага чалавека, гатовага бараніць ад гвалту старога і малога, адчуваецца за кожнай старонкай зборніка "Усё як было". Яна, гэтая душа, шукае паратунак, пакутуе, захлынаецца ад несправядлівасці, марнасці жыццёвых высілкаў: "Ці не так і мы на павадку чужых інтарэсаў, чужой дурноты, на павадку дробязных клопатаў пра кашулю і хлеб на кожны дзень. І як гэта кепска адчуваць сябе на павадку любой даўжыні, хто б яго ні трымаў.

Як гэта невыносна — быць на павадку!.."

Вельмі часта вобразы героя ў М. Сянкевіча падсвечаны далікатнай іроніяй, тонкім гумарам. Каларытнымі, адметнымі народнымі характарамі — тыповымі і выключнымі адначасова — героі М. Сянкевіча ўяўляюцца сучаснымі спадкаемцамі ніжнебайдуноўцаў Я. Брыля. Гэта — Шчыры Рыгор ("Манё! Дождж!"), Іван Максімавіч ("Універсітэты Івана Максімавіча"), героі твораў "На фальклорнай практыцы", "Юбілей" і інш.

Прага гарманічнага суіснавання асобы з людзьмі, з прыродай, сусветам, мужчыны з жанчынай вызначае першую, але даволі сталую кнігу М. Сянкевіча. Прыемна ўражвае мова твораў, густоўная, ашчадная, сціслая, дзе кожнае слова, кожнае выслоўе ўжыта дарэчы, да месца. За кожнай старонкай паўстаюць людскія лёсы, звычкі, уклад жыцця, наша народная мараль і этыка з заканамернасцямі і парадоксамі праяў беларускага нацыянальнага характару ("Гасціннасць", "Мясцовая славутасць", "Язык у трубачку", "Хоць крыху начальнік").

Хочацца верыць, што гэта добры знак: з'яўленне ў нашым друку мініяцюр і апавяданняў Міколы Сянкевіча заўважыў і высока ацаніў сам Майстра — Янка Брыль. У нататках "З людзьмі і сам-насам" ("Полымя", 1996г., N 5) пра апавяданне свайго маладога калегі "Страшна заставацца...", якое друкавалася ў "Звяздзе", знакаміты празаік пісаў: "Не ведаю, хто гэта, а вобразы маладой прадаўшчыцы сельмага і старой самотнай настаўніцы бачацца жывымі, а сам аўтар — чалавекам з душой і думкай".

**Зоя МЕЛЬНІКАВА**

КРЫТЫКА

# Гармонія між сабой і сусветам

Кніжкі (артыкулы, нататкі, эсэ, рэцэнзіі) літаратуразнаўцы, пісьменніка Алеся Бельскага ведаюць многія чытачы — школьнікі, настаўнікі, спецыялісты-філолагі. Эфект нечаканасці ходу думкі, яе неардынарных паваротаў заўсёды прысутнічаў у працах А. Бельскага. Апошняя па часе — кніжка "Жывая мова краявідаў. Пейзаж у беларускай паэзіі" — не стала выключэннем з агульнага правіла. Аўтар зноў арыгінальны і непаўторны, зноў нечага шукае, спасцігае, чым прымушае і чытача шукаць, спасцігаць, думаць. Даследчык даводзіць чытачу масаваму і чытачу-спецыялісту, што пейзаж — гэта, гаворачы словамі незабыўнага Кузьмы Чорнага, "цэлы свет", у якім адбіваецца чалавечы лёс, заключаецца "эстэтыка прыгожага, цудоўнага, драматычнага і іншых праяў чалавечага духу". Даследчык пры дапамозе і статыстычных выкладак (не паленаваўся падлічыць, што ў 10320 тысячах твораў звыш 150 паэтаў пейзаж вясны сустракаецца 978, восені — 908, зімы — 615 разоў) і канкрэтнага аналізу асобных твораў аб прыродзе Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, сучасных аўтараў пераканальна даводзіць, што пейзажная лірыка даўно склалася як самастойны жанр (мы б сказалі — жанравастылявая плынь). Пейзаж стаў магутным сродкам філасофскай ацэнкі жыцця, набыў "сінтэтычны характар", і грэх лічыць пейзажную лірыку, як гэта рабілася ў 30-я гады і пасляваенные дзесяцігоддзе, нейкай пабочнай з'явай, даважкам да грамадска-публіцыстычных выказванняў паэтаў пра жыццё і чалавека ў ім. У кніжцы, прапанаванай чытачу, імпануе і яшчэ адна глыбокая думка — пра нацыянальна-беларускі характар нашага пейзажнага мастацтва слова, выяўленне ў ім "свядомасці народа", здольнага раскрыць свае патаемныя пачуцці і настрої на ўлонні прыроды.

У канцэпцыі пейзажу, прапанаванай Алесем Бельскім, на першае месца ставіцца эстэтычны крытэрый. Невыпадковы ў сувязі з гэтым выхад аўтара кнігі на паралельны аналіз слоўнага, выяўленчага і музычнага мастацтваў. Шэраг тонкіх, яркіх назіранняў рассыпаны ў раздзелах "Пейзаж у паэзіі і жывапісе", "Пейзаж у паэзіі і музыцы", з якіх можна даведацца, што нашы паэты былі аднача́сова і мастакамі-жывапісцамі і музыкамі, шанавалі фарбы і гукі так, як шануюць іх калегі з сумежных відаў эстэтычнай творчасці. Асабліва імпануюць мне старонкі пра жывапісна́сць і музычнасць Коласавых і Купалавых пейзажаў.

У многіх выпадках А. Бельскі ўзнімае і канкрэтныя, да канца так і не высветленыя праблемы, прыадчыняе заслону над такімі паняццямі, як "гарадскі пейзаж" і "пейзаж экзатычны", з непрыхаванай скрухай піша пра адлюстраванне нашай літаратурай апаленага атамным выбухам чарнобыльскага пейзажу. Хіба можна застацца раўнадушным, напрыклад, вось да гэтых балючых і чулых слоў аўтара: "Пейзажны жывапіс на тэму Чарнобыля адлюстроўвае тую глыбокую мяжу адчужанасці, якая пралегла паміж чалавекам і прыродай. Паэзія, якая заўсёды светла, узнёсла апявала неба і дождж, раку і сонца, на гэты раз выявіла экалагічны сіндром сучаснага чалавека, што зведаў "страх неба роднага і роднае зямлі". Вельмі добра, што ў дадзеным канкрэтным выпадку цытуюцца творы не толькі знакамітых беларускіх аўтараў, а і маладзейшых, што ўвага даследчыка скіраваная да тых творцаў, што вымушаны былі зведаць боль вяртання да забруджанага "вытокаў крыніц", да дому, апаленага сполахамі радыеактыўнага агню. Сярод іх — Мікола Мятліцкі, Яўгенія Янішчыц, Леанід Дранько-Майсюк, Міхась Рудкоўскі і многія іншыя. Можа, як ніхто, менавіта Яўгенія Янішчыц востра, балюча, адной з першых у нашай нацыянальнай літаратуры адчула, што чалавек не ўмацоўвае сувязь паміж сабой і прыродай, а парушае гармонію паміж сабой і сусветам, і пайшла ад нас, устрывожаная да бязмежнасці, наскрозь працятая неўміручым болем. Той жа больклопат пра тое, каб захавалася гармонія ўзаемаадносін паміж чалавекам і прыродай, і ў сэрцы самога даследчыка пейзажнай лірыкі, а таму асобныя старонкі яго кнігі ўспрымаюцца падчас як боль спакутаванай па радасці душы. Нераўнадушша аўтара ўражвае. І тут ён набліжаецца па манеры пісьма да Уладзіміра Калесніка — чалавека, настаўніка, навукоўца, юбілей якога нядаўна адзначаўся.

Адметная класіфікацыя пейзажнай лірыкі ў кнізе Бельскага. Цалкам заканамерна вылучаць у асобныя ідэйна-тэматычныя групы і вясковы, і урбаністычны (гарадскі), і незвычайны, дзівосны (экзатычны) пейзаж, разважаць пра стылявую адметнасць кожнага з іх. Імпануе чытачам і аргументаваная, па-інтэлігенцку далікатная палеміка з іншымі даследчыкамі пейзажнай творчасці. У сувязі з гэтым варта спасла́цца хоць бы на палеміку даследчыка з Генадзем Шупенькам наконт вартасцей прыродаапісальнай паэзіі Рыгора Барадуліна. Аўтар кнігі надае ўвагу новым імёнам, у тым ліку — імёнам паэтаў-эмігрантаў. Адны з самых цікавых у кнізе — старонкі пра лірыку Наталлі Арсенневай і Масея Сяднёва.

Думаецца, што можна было б зрабіць больш шырокім, аб'ёмным, а значыцца, — больш грунтоўным раздзел пра экзатычную лірыку за кошт назіранняў над марыністыкай Змітрака Астапенкі, згаданага вышэй М. Сяднёва. Можна было б паспрабаваць заняцца падлікам ужывання колераў, іх частотнасці ў розных пластах пейзажнай лірыкі ці ў творчасці асобных паэтаў. Так, напрыклад, жоўты колер — колер пераважны ў даваеннай лірыцы Н. Арсенневай, а ў першыя месяцы пасля вайны, у час вандроўкі да чужых берагоў ён канчаткова выцясняецца шэрым. М. Сяднёў-марыніст спалучае блакітны, сіні і чорны колеры і толькі зрэдзь карыстаецца белым і зялёным. Можна было б... Але і зробленага А. Бельскім дастаткова для таго, каб вынесці канчатковы вердыкт: у яго асобе мы маем даследчыка — не халоднага і бясстраснага "акадэміста", а зацікаўленага, шматгранна мыслячага. Працы ж, падобныя той, пра якую мы расказваем чытачам, закладваюць падмуркі новага, сінтэтычнага літаратуразнаўства.

**Мікола МІШЧАНЧУК**

КНІГАПІС

## Ідучы ад жыцця

Герой аповесці Івана Пяшко "Сцэнарый сямідзесятых" (яна стала дзесятай кніжкай "Бібліятэкі часопіса "Маладосць" за мінулы год) — вясковы настаўнік Іван Птушко. Як можна здагадацца нават па гэтым прозвішчы, у творы відочныя аўтабіяграфічныя моманты. Больш таго, гэты персанаж спрабуе свае сілы ў кінамастацтве, а сам І. Пяшко ў свой час скончыў Вышэйшыя сцэнарныя курсы ў Маскве.

Увогуле, І. Пяшко — чалавек немаладзы. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Лішчыцы Гродзенскага раёна, вучыўся ў Скідзельскай сярэдняй школе, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы ў Гродне, служыў у арміі, скончыў гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Ды і не адну прафесію змяніў: працаваў электрамантажнікам, быў настаўнікам Каменскай сярэдняй школы Шчучынскага раёна, дырэктарам Грамавіцкай васьмігодкі, парторгам саўгаса. Цяпер ён — намеснік рэдактара шчучынскай раённай газеты "Дзянніца". Друкаваўся ў перыядычным друку, аўтар кніг прозы "Чырвоная клубніца" і "Марго з Казарэзаў". І ў сваёй новай аповесці І. Пяшко ідзе ад жыцця, стварае праўдзівы вобраз аднаго з тых, хто настойліва, пераадольваючы няўдачы, шукае ў ім сваё месца.

## У серыі "Паэты Пухаўшчыны"

Выходзіць гэтая невялічкая бібліятэка ў горадзе Мар'іна Горка. Аўтарамі яе з'яўляюцца ўраджэнцы тутэйшых мясцін. Нядаўна ў серыі пабачыў свет зборнік вершаў Уладзіміра Рунцэвіча "Голас чалавека на зямлі". Аўтар родам з вёскі Дайнава, працуе рабочым ільнозавода, а паэзіяй захапляецца даўно, прымае актыўны ўдзел у рабоце літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі раённай газеты. Друкаваўся не толькі на яе старонках, а і ў "Чырвонай змене", "Мінскай праўдзе", а таксама ў "ЛіМе". У. Рунцэвіч быў удзельнікам семінара маладых літаратараў Міншчыны. Прадставіла У. Рунцэвіча чытачу пухавіцкая паэтка Вольга Савасцюк, у якой, дарэчы, залетась у гэтай жа серыі выйшла кніжка "Сустрэча".

## На паклон да песняра

Яны, відаць, тут не былі ніколі. І, вядома ж, наведацца ў гэты святы куток беларускай сталіцы сталася для кожнага падзеяй, асабліва ў юбілейны год народнага паэта. Юныя творцы са школ Мінскага раёна, што ўваходзяць у літаратурную суполку "Купалінка", парашылі сваё чарговае пасяджэнне правесці ў Коласавым доме. А гэтак распарадзіўся іх апякун Мікола Чарняўскі, які носіць высокі сан прэзідэнта згуртавання.

Напачатку госці азнаёміліся з экспазіцыяй музея з дапамогаю загадчыка аддзела Марыі Далідовіч. Затым у былой Коласавай гасцёўні слухалі купалінцы голас вялікага песняра з магнітафоннай стужкі. Пачыталі свае вершы, замалёўкі аўтары. Не ўсе, зразумела. Бо налічвае суполка нешта каля 40 чалавек. Пачыталі творы і настаўніцы, а таксама Мікола Чарняўскі, сакратар суполкі Эльвіра Ярчак. Выступіў з гумарэскамі і старшы навуковы супрацоўнік музея Іван Курбека.

На заканчэнне злёту ўсе з асалодаю паслухалі магнітафонны запіс песні "Мой родны кут" у выкананні Данчыка.

Наталля ЖЫГАДЛА

## "Роднае слова", N 12

Адзначаючы 60-годдзе У. Гніламёдава, часопіс змяшчае яго артыкул "На шляху да "Брамы неўміручасці", у якім разглядаецца творчасць К. Крапівы і яе роля ў беларускай літаратуры. А ў сувязі з 75-годдзем А. Васілевіч і 70-годдзем М. Яфімавай прапануецца дыялог юбілярак "Няхай не пакідае нас надзея!". Да 50-годдзя А. Разанава прымеркаваны артыкул Е. Лявонавай "Палову жыцця падаюся ў свет, палову — варочаюся са свету...", а таксама версэты юбіляра. І. Навуменка ("Заварожаны вячэрняй цішынёй...") працягвае гаворку пра творчасць М. Багдановіча. Змешчаны артыкулы А. Майсейчыка "Адам Міцкевіч у мастацкім свеце Якуба Коласа", Г. Сінілы "...Ды сэрца разарвана папалам..." (пра Г. Гейнэ), М. Крыўко "Паронімы і сінонімы ў мове", А. Герцыка "Анарэ дэ Бальзак і яго навела "Габсек", працяг артыкула Т. Шамякінай "Культура Кітая". Часопіс прадаўжае рубрыку "Род блізкі і далёкі". Можна пазнаёміцца з песнямі на вершы В. Шымука і чарговай старонкай "Анталогіі беларускага раманса" (В. Скорабагатаў расказвае пра вакальны накцюрн-элегію М. Равенскага "Менск"), удакладніць асобныя моманты біяграфіі Я. Барычэўскага дзякуючы матэрыялам, уведзеным ва ўжытак Р. Платонавым ("З працы ў Акадэміі зняць..."), адгарнуць першыя старонкі "Календара знамянальных датаў і падзей на 1998 год" Я. Саламевіча. І ці не ўпершыню ў "Родным слове" з'явілася паленіка. У артыкуле І. Бурлыкі, М. Даніловіча, Н. Памецькі, П. Сцяцко "Ці няма ў артыкуле Паўла Шубы беларусафобства?" выказваецца нязгода з меркаваннямі гэтага аўтара, выказанымі П. Шубам у артыкуле "Польскі ўплыў на мову беларускіх сродкаў масавай інфармацыі", змешчаным ў дзесятым нумары "Роднага слова" за 1997 год.

## "Беларускі гістарычны часопіс", N 4

Апошні ў мінулым годзе нумар штоквартальніка адкрываецца артыкулам В. Кушнера "І з'езд настаўнікаў Беларусі". Змешчана заканчэнне матэрыялу В. Шматава "Спадчына, якую трэба ратаваць" — гаворка ідзе аб багаццях народнай творчасці, што патрабуюць асабліва ўважлівага да сябе стаўлення. І. Ігнаценка па-новаму асэнсоўвае падзеі 80-гадовай даўнасці — "Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі". У раздзеле "Усеагульная гісторыя" прапануюцца артыкулы У. Быкава "Эканамічныя прычыны феадальнай раздробленасці Старажытнай Русі" і Р. Лялько "Праблемы заключэння польска-савецкага саюза ў 1938—1939 гг."

Выкарыстоўваючы розныя гістарычныя крыніцы, Э. Іофе ("Колькі ж яўрэяў загінула на беларускай зямлі ў 1941—1945 гг.") дае сваё вытлумачэнне гэтай трагедыі. Зацікавяць аматараў нацыянальнай даўніны і такія матэрыялы, як "Дваранства на Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX стст." Г. Туміловіч, "Царкоўны раскол і стараверы на Беларусі ў другой палове XVII — першай палове XIX стст." А Гарбацкага, "З гісторыі Гомельскага парку А. Бабковіч, "Чыстка і кансервацыя" музейных і калекцыйных дробных металічных экспанатаў" Ш. Бекцінеева. Змешчаны шэраг метадычных парад выкладчыкам гісторыі.

ПАЭЗІЯ

Алесь БАДАК



# "У цішы запаветнага краю..."

### Аблокі

*Да згоды было нам далёка,
І ты, уздыхнуўшы, сышла,
А мне падарыла аблокі,
Сказаўшы:
"Каб памяць жыла!"*

*Не новая гэта насмешка!
Ды толькі — з чаго выбіраць?!
І я за аблокамі пешкі
Па свеце пайшоў вандраваць.*

*Я ветра прасіў на каленях,
Каб воблакі моцна не гнаў.
І быў я замучаным ценем.
І ён мяне пашкадаваў.*

*Ішоў я па свеце, і трэба
Было мне так мала цяпер.
Ішоў, пазіраючы ў неба,
Шчаслівы, што помню цябе.*

*Планета малая на дзіва.
Той знае, хто ўсю абышоў.
Я ззаду пакінуў Радзіму,
А ўперадзе зноўку знайшоў.*

*Сышліся канец і пачатак
На краі апошняй вярсты.
І раптам з пакінутай хаты
Насустрач мне выбегла ты.*

*І шчасця, і слёз не хавала,
Якім немалая цана.
"Ну, дзе прападаў ты?! — спытала. —
Я так сумавала адна!"*

*А ў небе, далёка-далёка, —
Было іх амаль не відно —
Плылі і знікалі аблокі,
Што ты мне дарыла даўно.*

### Падземныя воды

*Прыпадзі да зямлі, каб суняць
Вечны сум і адпрэчыць нягоды,
І адчуць у цішы, як шумяць
Пад табою падземныя воды.*

*Прабіваючыся праз пясок,
Кропля кроплю пакутна шукае.
Чуеш — гэта падземны паток.
А здаецца — зямля ажывае.*

*І цякуць тыя воды здаля
У падземныя рэкі і моры.
Пад табою хіснецца зямля —
Гэта ім не хапае прастору.*

### Флейта

*Стала атрутным віно,
Стала бясконцым расстанне.
Птушка разбіла акно,
І палілося змярканне.*

*І паліліся ў пакой
Гукі чароўнае флейты.
Цяжка паблытаць з любой
Іншай мелодыяй гэту.*

*І ад яе ў цішыні
Стала навокал так светла!
Гэта заззялі агні
Сцежкі ад раю да пекла.*

*Д'ябал падаў мне руку:
— Пойдзем ад краю да краю,
Пойдзем, чакае пакуль
Там цябе жонка чужая.*

*Толькі анёл мне шапнуў:
— Ты яго асцерагайся!
Лёгка крыламі махнуў —
Разам агні ўсе пагаслі.*

### Запаветныя словы

*Я забыў запаветныя словы,
Што збліжалі з табою заўжды.
Ты была
З краю свету гатова
Днём і ўночы вяртацца сюды —*

*У сырыя, халодныя сцены,
На разбіты, старэнькі парог,
Да скрыпучай і цвёрдай пасцелі,
Але хмельнай, нібыта мурог.*

*Тут даўно ўжо не тыя парогі,
І пасцелі, і сцены — даўно.
Тут парадак паўсюль цяпер строгі,
І тут п'юць дарагое віно.*

*Колькі з неба скацілася поўняў!
Колькі сонцаў нам намі ўзышло!
Я забыўся зусім, я не помню
Запаветных і шчырых тых слоў!*

*Закрычу табе праз далячыні:
— Я хачу цябе зноўку вярнуць!
Ды пачуюць другія жанчыны
І здалёку вяртацца пачнуць.*

### Сустрэча

*Як цябе зразумець мне, скажы,
Мой даверлівы, ціхі народзе.
Можа, я не разгледзеў мяжы
І не ў тым апынуўся стагоддзі?..*

*Я пайду, я пайду нацянькі
Невядомымі іншым шляхамі,
Нібы жыта, сівыя вякі
Прад сабою развёўшы рукамі.*

*І назад панясуцца гады,
Пераблытаўшы лёгка ўсе даты.
І тады ўпершыню, вось тады
Я сустрэну далёкага брата.*

*— Ты куды, — я спытаю, — ідзеш,
Да крыві пазбіваўшы ўсе ногі?
Не дарэмна, відаць, у бядзе
Перасекліся нашы дарогі.*

*Скажа брат:
— Я стаміўся чакаць —
Па зямлі гэтай шчасце не ходзіць.
Паспрабую яго пашукаць
У далёкім —
дваццатым стагоддзі.*

### Бабулька

*Хварэе цэлы месяц.
Стамілася чакаць —
Ні літасці, ні смерці
Не хоча Бог паслаць.*

*Баліць усё і ные.
А ноччу векавой
На небе ўсе святыя
Галосяць разам з ёй.*

*Задумнымі вачыма
Глядзіць —
Нібы праз дым,
І свет ёй,
Быццам здымак —
Нязменлівы зусім.*

### Адзінота

*У цішы запаветнага краю
Я ні гора, ні шчасця не знаю.*

*— Як жывеш? — сам сябе запытаю.
— Як жыву? Нібы кнігу гартаю.*

*Ні падманных ні волі, ні раю,
А спакою ды веры шукаю.*

*Чуеш, крык падымаецца зноўку?
Перагорнем і гэту старонку...*

### Самота

*Такіх зажураных вачэй
На белым свеце вельмі мала.
Я іх самоту сем начэй
Піў, каб вясёлаю ты стала.
Я піў да самага відна,
А сам дарыў табе пяшчоту.
Але была мацней віна
Незразумелая самота.
— Да дна, — шаптала мне ўдава,
Навек забыўшы слова "годзе".
І захмялела галава,
Ды так, што хмель той не праходзіць.*

*...Хаджу па свеце сам не свой,
Парады слухаю цярпліва.
Ківаю сумна галавой.
А ты ўсміхаешся шчасліва.*

### Вёсны

*Плывуць мае вёсны,
што воблакам сталі,
У сінюю далеч,
у шлях незваротны.
Я з імі паплыў бы
над краем журботным
Далёка-далёка —
каб крылы былі.
Адкрыўся б мне свет,
што не бачны з зямлі
Ні людзям, ні зверу —
нікому, ніколі.
І крыжам мой цень
слізгануў бы па полі,
Зямлю абдымаючы
перад расстаннем.*

З ПОШТЫ

Анатоль ВУЛАХ

# "Хвілінай зорнаю і чорнаю..."

●

*Дзяцінства чыстая крыніца
Б'е скрозь зямлю і праз гады.
Я да яе іду напіцца
Маленства слодычнай вады.*

*Перада мной, як зіхаценні
Мінулых ветлівых часін,
Былога паўстаюць імгненні,
Дзяцінства мілага ўспамін.*

*Хоць памяць страціла нямала
На сцежках і шляхах жыцця,
Але пара дзяцінства стала
Часінаю без забыцця.*

●

*У краі, дзе буслоў нетаропкіх чарга
Па-над вольнаю плынню лунае,
Дзе з душы адыходзіць маркота-туга,
Новы дзень на зары пачынаю.*

*Шмат пабачыў я розных прыгожых мясцін,
Іх у свеце бялюткім нямала,
Але гэта зямля мне з малечых часін
Дарагою і любаю стала.*

*Зноў прайду па яе неаглядных лугах,
Дзе вярба запляла свае косы,
Дзе блішчаць, як слязінкі ў дзявочых вачах,
Прамяністыя, чыстыя росы.*

*Са знаёмай крыніцы нап'юся вады
І адчую яе асалоду.
Я нібыта ў юнацтва вярнуся сюды,
Каб застацца ўжо тут назаўсёды.*

●

*На золку я сцяжынкай роснаю
Праз поле жытняе пайду
І адшукаю там пад соснамі
Яе сцюдзёную ваду.*

*Пяе крыніца песню чыстую,
А ты паслухай, зразумей,
Пад гэту музыку празрыстую
Усё вакол гучыць святлей.*

*Хвілінай зорнаю і чорнаю,
У ясны час і ў час бяды
Іду з душою непакорнаю
Да светлай, да жывой вады.*

●

*Душы сваёй асэнсаванне
З нялёгкіх вызначу задач:
Перажывеш выпрабаванні,
Пачуеш сэрца горкі плач.*

*І пойдуць доўгія гадзіны,
А іншым разам і гады,
Пакуль, судзіць сябе павінны,
Вядзеш ты гэткія суды.*

*Яны і з болем, і з крывёю,
Яны з пагардай да сябе
У спробе стаць самім сабою
З самім сабою ў барацьбе.*

*Але ж у гэтай горкай цішы
Душа ўваскрэсне, і ў той час
Святло духоўнай боскай вышы
Аднойчы з'явіцца да нас.*

ВІНШУЕМ!

# Алегу Ждану — 60

**Алег Аляксеевіч — родам са Смаленска, з сям'і настаўнікаў. Жыў і вучыўся ў Мсціславі. Скончыўшчы ў 1955 годзе дзесяцігодку, паступіў на гісторыка-геаграфічны факультэт Магілёўскага педінстытута. Атрымаўшы ў 1960 годзе дыплом аб вышэйшай адукацыі, не спяшаўся ўладкоўвацца па спецыяльнасці, — працаваў слесарам, інжынерам-дыспетчарам на будаўніцтве Карагандзінскага металургічнага камбіната, на Брацкім лесапрамысловым комплексе. На гэты час прыпадае і пачатак творчай дзейнасці. Першае апавяданне А. Ждана "Санька, Туся і брыгадзір" было апублікавана ў 1963 годзе ў штотыднёвіку "Литературная Россия".**

**У 1963 годзе пераехаў у Мінск і ўладкаваўся на працу на трактарны завод. Пасля быў старшым рэдактарам Беларускага тэлебачання, рэдактарам кінастудыі "Беларусьфільм". Завочна скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве (1969), сцэнарнае аддзяленне Вышэйшых двухгадовых курсаў сцэнарыстаў і рэжысёраў (1978). Цяпер А. Ждан — рэдактар аддзела грамадскага жыцця часопіса "Нёман". Доўгі час пісаў па-руску. У Мінску і Маскве выйшлі яго кнігі прозы "Во время прощания" (1975), "В гостях и дома" і "Знакомый" (абедзве ў 1977), "Черты и лица" (1985), "По обе стороны проходной" (1987), "Самостоятельная жизнь" (1990)... А. Ждан з'яўляецца аўтарам сцэнарыяў фільмаў "Сумленны, разумны, нежанаты" ("Мосфильм"), "Хочаце любіце, хочаце не" ("Беларусьфільм", разам з В. Чарных). Паспяхова выступае ў галіне драматургіі. Прынамсі, адна з яго п'ес "Калітка" адзначана прэміяй на конкурсе "Чалавек і час", які праводзіла летась Міністэрства культуры Беларусі, перакладае творы беларускіх пісьменнікаў на рускую мову. Апошнім часам А. Ждан і сам пачаў пісаць па-беларуску, што засведчылі, у прыватнасці, яго публікацыі ў часопісе "Полымя", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва".**

**З днём нараджэння, шаноўны Алег Аляксеевіч! Новых вам жыццёвых і творчых поспехаў!**

Алег ЖДАН



# ДУША

АПАВЯДАННЕ

У суботу раніцаю памёр Сымон Рыбачок...

Гэта няпраўда, што душа чалавека адлятае з апошнім дыханнем ды гойсае потым немаведама дзе. Насамрэч яна тут жа, побач, а адлятае пасля пахавання. Душа Сымона знайшла сабе месца над вялікім фікусам у драўлянай кадушцы, што стаяў на покуці святліцы, і адтуль пазірала на людзей. Уся радня і сваякі, як заведзена, сядзелі ля труны з жалем на тварах, а жонка і цешча проста-такі бедавалі ды пакутавалі. Яна, душа, не надта давала веры іх жалю: абедзве яны моцна і дружна прыпякалі Сымона, колькі жылі. А вось дачка, якая, папраўдзе, адна толькі і шкадавала яго, быццам не вельмі бедавала — адно ціха плакала.

Прыемней за ўсё ёй, душы, было пазіраць на самога Сымона. Быў ён невысокі, плечы — як у падлетка, і труну яму збілі амаль дзіцячую. Ляжаў спакойна, бы паслухмяна — што ж зробіш, калі гэтак вырашыў лёс? — а нязручнасць, мажліва, адчуваў толькі ад новага касцюма, у які жонка з цешчаю запіхнулі яго. Яму б ляжаць у сваім старым, лапленым, але ж цёплым, швэдары, ды — не прынята, самага простага чалавека па завядзёнцы хаваюць, як вялікага начальніка. Вядома, начальнікі спадзяюцца, што і там будуць з пасадамі, у мяккім крэсле, ну а Сымону да гэтай пары ніколі нічога не свяціла, — тое ж будзе і там...

Хаваць Сымона збіраліся сёння: зранку неслі кветкі, жалобныя стужкі, а на кухні суседкі гатавалі памінальны абед. Паколькі ягоная душа вызвалілася з цела нядаўна, жыла яна пакуль па ранейшых законах, — вось стала цікава, што яны там гатуюць, хаця сказаць, што быў Сымон вялікі аматар смачна паесці, нельга. Еў тое, што давалі жонка з цешчаю, а не давалі нічога — трываў. Выбраўшы момант, як дзверы адчыніліся, душа яго выплыла ў пярэдні пакойчык, а затым на кухню. У пакойчыку, праўда, яна затрымалася: менавіта тут, на жалезным ложку ля акна, прайшло яго, Сымонава, сямейнае жыццё. Цяпер ён прывольна ляжаў у светлым і вялікім пакоі, у святліцы — яго звалі гасцінай, а пры жыцці яго туды рэдка пускалі. Не, не праганялі, але ж... Нават тэлевізар ён глядзеў адсюль, трохі прачыніўшы дзверы. Цешча казала, што яе цягне на ваніты ад паху табакі, жонка — ад піва і віна.

На кухні завіхаліся суседкі Алена, Каця і Маша. Алена ляпіла катлеты, Каця разлівала ў паўміскі халадзец, Маша гатавала куццю. Усё выглядала прыгожа, смачна, аднак аніякіх пахаў не адчувалася. І не дзіва, паколькі — душа. Тут жа, пад сталом, стаяла вялікая сумка, а ў ёй пляшак дзесяць гарэлкі ды столькі ж віна. Для яе, душы, і віно, і гарэлка, нават піва — што для праваслаўнага мусульманскі намаз, а ўсё ж прыемна: не паскупіліся жонка з цешчаю, будзе на стале і выпіць, і закусіць. І тут яна, Сымонава душа, успомніла пра былых прыяцеляў, Міхася ды Антося. Пара б ім ужо з'явіцца, пахаванне без прыяцеляў — цень на жыццё чалавечае. І хаця яе цяпер чакала зусім іншае існаванне, не хацелася, каб людзі дрэнна думалі пра Сымонава зямное жыццё. Антось, вядома, прыйдзе, гэты ніколі не праміне халяву, а Міхась? Ды — што здарылася? "Глянь, глянь! — раптам усклікнула Алена. — Што гэта?" І, сарваўшы з галавы жалобную хусцінку, яна махнула там, дзе была Сымонава душа: мусібыць, яна ўсё ж мела нейкі колер ці што іншае. "Дзе, што, якое?" — спалохаліся Каця і Маша. "Ды вось яно, вось! У дзверы вылецела! Залацістае!" — "Сонца гэта з-за воблака". — "Якое сонца? Я ж бачыла! У дзверы, потым..." Алена нават услед кінулася, пастаяла на ганку, азіраючыся. Выйшлі да яе і Каця з Машай. "Ведаеце, што гэта было?" — задуменна прамовіла Алена. — "Што?" — зноў спалохаліся. "Не, не можа быць. Відаць, здалося мне..."

Эх, Алена. Кожны чалавек напрыканцы і нават у сярэдзіне жыцця ведае, з якой жанчынаю яму трэ было б жыць, і кожная жанчына ведае, з якім мужчынам ёй было б найлепей. Вось і Алена з Сымонам ведалі. Прынамсі, дазналіся пра гэта яны даўно, да сярэдзіны жыцця было яшчэ далёка. Папрасіла яна яго абагнаць бульбу, бо палоскі побач. Пляшку віна прынесла на поле, катлету. Зірнуў ён на яе, рыжанькую, кругленькую, рабенькую, як спелы сланечнік, — а за яе спінаю сонца заходзіць. "Як жа мне далей жыць?" — падумаў. Не, пра гэта ён падумаў тады, як сонца ўжо апусцілася за небакрай, а яна, Алена, моўчкі паднялася, спаднічку кароценькую разгладзіла. Як жа гэта здарылася ў іх? Ён жа нічога такога і ў галаву не браў... Палоскі каля лесу, а ў лесе ручай — чысты, звонкі. У гэтым, відаць, і справа. "Як жыць?" Здавалася — ніяк, а вось і пражыў, і памёр без яе.

Вядома, часу для душы няма, людзі ёй непатрэбны, тым не менш праз гадзінудзве Сымонава душа зноў усхвалявалася: Антося і Міхася не было. Цела, дарэчы, не можа хвалявацца, яно — жывы посуд, вялікая колба, у якой да свайго часу жывевыспявае душа. Выспее — адляціць, у каго раней, у каго пазней. Гэта яго, цела, асноўная роля. Людзям здаецца, нібыта чалавек памірае ад таго, што хварэе — на галаву там, на страўнік... Насамрэч усё значна прасцей: то выспеўшая душа просіцца на волю. У харошых люзей яна часцяком выспявае хутчэй. Нездарма ж каталікі кажуць: харошыя людзі патрэбны пану Богу.

Між іншым, каб у людзей былі ўважлівыя вочы, убачылі б, што душа ў Сымона неблагая, а значыць і чалавек ён быў харошы. Бо як душа кепская, то не залацістая, а — сінявата-шэрая ці чорная, часам вільготная, нават ліпкая.

Трывога рабілася неадольнаю, і яна — бо людзі заўважаюць яе колер ці святло — дачакаўшыся сонечнага промня, выплыла ў адчыненую фортку. Людзям не трэба бачыць яе, каб не збіцца з панталыку ў штодзённым побыце.

Не, каля хаты іх не было. Яна паднялася вышэй, каб убачыць гарадок цалкам, а галоўнае — тыя мясціны, дзе яны, бывала, збіраліся з палучкі ды авансу: піўбар "Рамонак", магазін "Каласок" і пень ад ліпы ў старым гарадскім парку, на які можна было ўладкаваць не толькі пляшку "Пшанічнай", тры піва, селядца ды хлеб, а і шмякнуць, каб было, палову свінні. Не, не было. Яшчэ трэ было б палятаць над ускрайкам горада — там, дзе амаль кожную суботу-нядзелю яны ўтрох рабілі ў людзей: каму дах, каму падмурак, каму хлеў ці пуню. Але ж раптам яе, быццам сонечным ветрыкам, пацягнула да могілак.

Так, Міхась і Антось былі тут, капалі яму магілу. А яшчэ з імі быў Грышка Махавы, непастаянны член іх кампаніі. Грышка — чалавек прыезджы, са Смаленшчыны (жонка-беларуска спалохалася, што будзе дзяржаўная мяжа, перацягнула сюды), таму і боўтаўся ён між людзей, не знаходзячы пастаяннага прытулку. Мужык ён быў неблагі, але ж пляшкі нават на траіх малавата, і запрашалі яго адно як ужо — край.

Аднак, відаць, і ён займеў цяпер сваё месца.

Магіла была амаль што гатовая, з ямы тырчэла толькі Антосева галава. Месца яны выбралі добрае, з відам на рэчку. Тут, на гэтым баку, па схіле былі маладыя бярозкі, на тым — хваёвы лес. Прыемна будзе ў добры дзень прыйсці сюды, адпачыць, памянуць.

— Ніяк не ўцямлю, чаго ён памёр, — сказаў з ямы Антось. — Жыў-жыў і на табе.

— Смерць прыйшла, вось і памёр, — адазваўся Міхась.

— Быццам не хварэў.

— Гэта нам невядома.

— Жонка ягоная казала — а сёмай гадзіне. Якраз я прачнуўся. Падняўся, думаю — нешта не тое: бы ветрыкам у хаце пацягнула.

— Ты работаць будзеш ці не? — раптам злосна сказаў Міхась. — Дванаццаць хутка.

— Нешта рукі баляць, — заклапочана адказаў Антось. — Не ведаеш, у Сымона не балелі?.. Можа, і я пamру.

— Чорт цябе, гультая, не возьме. Усіх перажывеш.

Аднак — такі вось чалавек Антось. Хоць плюй у вочы — як стаяў, абапершыся на рыдлёўку, так і стаіць. Трэба сказаць, што зямля тут была глiністая, цяжкая. Затое магілка атрымаецца акуратная, з роўнымі сценамі, не аб'едзе, як пачнуць апускаць труну. Пад канец нават давялося біць ломам. Лепш за ўсіх біў і капаў Грышка, яно й зразумела: новы член садружнасці, павінен сябе праявіць.

— Вось тут, ля локця, баліць. Раніцаю — не разагнуць... І чаго так жыццё ўстроена? Жывеш-жывеш... Несправядліва. Я лічу, раз ужо чалавек нарадзіўся на свет, няхай жыве.

— Будзеш ты работаць ці не?

— Ідзі ты са сваёй работай... Усе як ачмурэлі: работай, работай! Мо Сымон і памёр ад таго, што працаваў за двух... А жыць? Як жыць, калі нічога, акрамя работы?..

На гэты раз Міхась прамаўчаў. Праўду кажа Антось: нічога ў іх жыцці, акрамя работы. Мо і насамсправе Сымон памёр ад работы: кідаўся, калаціўся, біўся ўсё жыццё, што рыба аб лёд. Дзеля чаго? Адзінае свята — як трохі вочы зальеш...

— Папраўдзе, баюся я, хлопцы, у яме стаяць, — нечакана вінаватым голасам прамовіў Антось. — Быццам сабе капаю. Яшчэ як уверсе — нічога, а як з галавой... Аж ногі стынуць. Я нават у свой пограб баюся хадзіць.

— Ладна, давай я, — міралюбна сказаў Грышка і скочыў у яму. — Чаго тут баяцца, зямля і зямля.

Дзень быў харошы, ясны. Павуцінне серабрылася на кустах, бярозкі залаціліся. Ціша — ад зямлі да неба, сусветны спакой.

— Пашанцавала Сымону памерці, — прамовіў Антось.

— То нам пашанцавала. Яму цяпер — хоць дождж, хоць снег, ён цяпер вольны чалавек. Ні жонка яму, ні начальства. Заробак не выдалі — хрэн з ім.

— Адно кепска: як дадуць — не атрымае, а месяц адпрацаваў. Несправядліва.

Грышка ў гэтым абмеркаванні ўдзелу не прымаў. Па-першае, не гаварун, па-другое, камусьці трэба капаць.

Антось лёг на траву, заціснуў у зубах цыгарэту.

— Што гэта будзе на зямлі гадоў праз дзвесце? А праз трыста? Страшна падумаць... — І раптам ўскочыў, загаласіў, паказваючы некуды ўверх, на вярхушку маладой бярозкі. — Глянь, глянь! Што гэта, што гэта?

— Дзе?

— Ды во яно, во яно!

Голас быў такі, што нават Грышка выскачыў з ямы.

— Бачылі, бачылі? Было й няма!.. Празрыстае такое, залацістае... Што ж то было?

Доўга ўсе трое разглядалі бярозку, пазіралі ў неба над галавою.

— Можа, чыя душа пралятала, — сказаў Антось. — Могілкі ўсё ж.

І ніхто такое меркаванне не абвергнуў. Але ж ніхто не здагадаўся пра тое, што душа — Сымонава.

Пахаванне было прызначана на тры гадзіны. Дзень вольны, надвор'е цудоўнае — людзей сабралася чалавек пяцьдзесят, а мо і болей. Тут яшчэ ў тым прычына, што даўно ніхто не паміраў з гэтага канца вуліцы, тым больш — маладыя мужчыны. Канечне, па-сапраўднаму мала хто шкадаваў-спачуваў, большасць прыйшла проста паглядзець, падзівіцца: смерць, што ні кажыце, галоўная цікавасць у чалавечым жыцці. На пахаванні ніхто не адчувае сябе госцем, наадварот, кожны — раўнапраўны, а можа, і галоўны — пасля самога нябожчыка — удзельнік самотнай урачыстасці: хто ведае, каму і калі прыгожа зайграе залатая труба?

Калі труну з целам Сымона панеслі да выхаду, душа, счакаўшы хвіліну, паплыла следам. Усе позіркі былі скіраваны на нябожчыка і радню, так што можна было не баяцца залішне ўважлівых вачэй. Ну, а як выйшлі з хаты, яна паднялася высока ў неба, прымасцілася да краю белага воблачка і гэтак лунала аж да могілак.

Могілкі былі недалёка, і ўся жалобная працэсія ішла пешкі, на машыне раскашаваў толькі нябожчык. Звычайна па дарозе колькасць людзей змяншаецца, а тут — не, нават пабольшала. З хат уздоўж вуліцы, што вяла да могілак, выходзілі людзі пацікавіцца, хто памёр і чаму, а ўбачыўшы столькі народу, таксама далучаліся да шэсця. Да брамы прыйшла такая калона — бы дэманстрацыя на 1 мая, толькі музыка гучала іншая ды не было сцягоў і транспарантаў.

Міхась з Антосем, як убачылі гэтую калону, вырашылі, што валакуць да Сымонавай магілы нейкага вялікага гарадскога начальніка, яны нават схапілі рыдлёўкі і паімчалі насустрач, каб адваяваць месца вечнага спачыну для сябра. Куды прэцеся? На могілках — дэмакратыя! Але ўбачылі, што ўсё правільна: гойдаўся над галовамі, як паплавок у сусветным акіяне, іх сябрук.

— Ну і ну, — сказаў Міхась.

— Не слаба, — дадаў Антось.

Потым было шмат гаворкі пра тое пахаванне. Хто ўспамінаў, якую прамову выдаў чалавек з камунгаса, дзе ўсё жыццё працаваў Сымон (маўляў, цяпер усё, канец камунальнай гаспадарцы раёна); хто — як іграў аркестр (паспелі хлопцы мэкнуць па сто пяцьдзесят ды і надвор'е адметнае) адзін жалобны марш за другім, нават дамоў вярталіся — гралі; хто пра тое, як спрытна Міхась, Антось і Грышка са Смаленшчыны апусцілі сябра ў магілу. Характар, колер ці, так бы мовіць, імпрэсія ўспамінаў залежалі ад таго, былі ўспамінальнікі на памінках альбо не. А памінкі атрымаліся добрыя. Дзеля такіх памінак можна і памерці. Не, не так. Болей бы такіх памінак — можна было б жыць.

Між іншым, як на магільны грудок паклалі вянкі і кветкі, і людзі пачалі разыходзіцца, Антось напаўголаса сказаў Міхасю: "Бачыў? Зноў яно было тут". — "Што?" — "Гэтае, залацістае. То за гэтую бярозку зачэпіцца, то за тую". — "Мо і праўда — яго душа? — выказаўся Міхась. — Цікава, дзе яна цяпер?"

А душа Сымонава ў гэты час ужо імчала па сіняму небу кудысьці туды, дзе жывуць іншыя вольныя душы. Яны там, у паднябессі, як вядома, раніцаю спяваюць хорам, а ўвечары водзяць карагоды вакол навічкоў. Яна спадзявалася, што прымуць яе ахвотна: жыццё пражыла з чалавекам, які... Які шчасця сабе не знайшоў дый не надта шукаў, а значыць, асаблівай шкоды нікому не нарабіў.

Злева і справа, спераду і ззаду, унізе і зверху ляцелі іншыя вольныя душы. Былі сярод іх залацістыя, былі і зялёныя, сінія, блакітныя, ружовыя, нават чырвоныя, некалькі чорных. Ну, зразумела: блакітныя і ружовыя — гэта дзеткі. Яны і трымалі сябе адпаведна: насіліся, бы дурэлі, то сюды, то туды. А вось чорныя з чырвонымі... ды і зялёныя з сінімі... Ясна было адно: залацістыя былі самыя спакойныя.

Усе, вядома, спадзяваліся на добрае. Але ж магло атрымацца інакш. Там, у Паднябессі, маглі і не прыняць, адмовіць у вечным прытулку. І што тады?

Набліжаліся. Ужо ніхто не выбіваўся са свайго месца, нават дзеткі. Нейкі гул, ціхі плёскат даносіліся адтуль...

## Гучы, бардаўская песня!

**Сярод маладзёжных арганізацый сёння вылучаецца студыя “Ліцвіны” — дзецішча творчага калектыву, у які ўваходзяць і былыя сябры літаратурна-мастацкай суполкі Задзіночання беларускіх студэнтаў. Ад гэтай арганізацыі студыя атрымала ў спадчыну і эмблему былой літаратурна-мастацкай суполкі — васьміканцовую зорку, рассечаную маланкамі, з намаляванай на ёй літарай “Л”. Сярод праектаў, якія правяла студыя (па словах прадзюсера, былога старшыні вышэйзгаданай суполкі Кастуся Елісеева), найбольш вядомыя Нацыянальныя фестывалі бардаўскай і самадзейнай песні Мінск-95 і Мінск-96. Чарговы фестываль павінен адбыцца ў пачатку 1998 года. Тут сабрана і апрацоўваецца фанатэка бардаўскай і фальклорнай песні. Выдадзены поўны збор твораў Андрэя Мельнікава (87—96 гадоў), альбомы Вальжыны Цярэшчанкі, Зміцера Бартосіка, Данчыка, Вольгі Акуліч, Сержа Мінскевіча, касеты рок-музыкі. Апроч таго, рыхтуецца выданне відэатэкі беларускіх культурных імпрэзаў. У хуткім часе ў Польшчы павінны выйсці кампакт-дыск “Хрэстаматыя беларускіх бардаўскіх фестываляў”. Праводзяцца камерцыйныя праекты “Славянскія паліграфічныя сістэмы”, рыхтуецца да выдання навукова-папулярная і мастацкая літаратура.**

**А. Т.**

## Сіметрыя творыць мастацтва

**Менавіта так можна перайначыць вельмі трапную і шматсэнсоўную назву экспазіцыі Антаніны і Генадзя Фалеяў. Нягледзячы на блізкасць ідэйна-мастацкіх поглядаў, дуэт Фалеяў у творчым сэнсе прынцыпова асіметрычны. Маючы за плячамі аднолькавую прафесійную адукацыю — аддзяленне дызайну Віцебскага тэхналагічнага універсітэта, кожны з мастакоў ідзе ў мастацтве сваім шляхам.**

**Генадзь даўно і паспяхова працуе ў адным з самых пашыраных ва ўсе часы на Беларусі рамёстваў — ткацтве. Яго габелены — гэта даволі сучасныя інтэрпрэтацыі тэхнікі, што склалася на працягу стагоддзяў. Ведаючы народную традыцыю, мастак свядома выбірае сярод матэрыялаў лён, а кампазіцыі — будуе на рытмічнай арганізацыі прасторы. У ягоных творах пануе строгая геаметрыя арнаменту, у першую чаргу простага, клятчастага, некалі асабліва распаўсюджанага ў Паазер'і і Панямонні. Карыстаецца мастак даволі абмежаванай колернай гамай, аснову якой утвараюць бела-шэрыя, бела-карычневыя, зрэдку чорныя фарбы. Да таго ж ён чаргуе адбеленыя кужэльныя і неадбеленыя суравыя льняныя ніці.**

**Аснову экспазіцыі складае кампазіцыя з трынаццаці габеленаў Генадзя. Вертыкальнасць паралельных ніцяў быццам падкрэслівае прыроду ткацкага матэрыялу, нагадвае аб яго трываласці і грунтоўнасці. Парныя кампазіцыі “Травень-1" і “Травень-2”, як і габеленавы “квартэт” пад назвай “Гульня”, хоць і ўяўляюць сабой варыяцыі адной арнаментальнай тэмы, вылучаюцца адметным кампазіцыйна-рытмічным ладам.**

**Антаніна зусім нядаўна ладзіла ў Віцебску персанальную выставу графікі, а ў гэтай экспазіцыі паказвае “эксперыментальны тэкстыль”, вынік яе “супрацоўніцтва” з камп'ютэрам. Знайшоўшы даволі цікавы і выразны модуль, Антаніна з дапамогай некалькіх восяў сіметрыі паўтарае яго. Захапляючыся самім працэсам, мастачка, здаецца, і не імкнецца пераканаць гледачоў у бездакорнасці сваіх твораў. Яна адмовілася ад падрыхтоўкі тэкстыльнага малюнка. Нібы “гуляючы” з малавядомым “мастацкім матэрыялам”, Антаніна падкрэслівае адносную выпадковасць сваіх тэкстыльных праектаў.**

**Гэта першая сумесная экспазіцыя мастакоў, для якіх традыцыя і наватарства, рацыянальнае і эмацыянальнае, вечнае і імгненнае перапляліся. У такой еднасці антаганістычных паняццяў, злучанасці белага і чорнага (як сведчыць адна з канцэптуальных тэкставых кампазіцый Антаніны Фалей) і бачыцца творцам сіметрыя рэальнага свету. Менавіта так, як і было пазначана на афішы іх сумеснай выставы: “Сіметрыя творыць падзею”.**

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**

БАЛЕТ

# “Марыш пра ролю — і атрымліваеш яе”

“Працы Мініна” — так падпісаў свой рэферат па гісторыі 16-гадовы навучэнец Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча Руслан Мінін, цяпер вядучы майстар сцэны Нацыянальнага тэатра балета Беларусі. Руслан ніколі не пакутаваў на адсутнасць пачуцця гумару, а ўпэўненасць у сабе — ягоная асноўная якасць, якой ён паспяхова карыстаецца як у жыцці, так і на сцэне.

У балеце Руслан апынуўся невыпадкова. Ягоныя бацькі — салісты балета — былі асноўнымі натхняльнікамі сына ў выбары прафесіі і галоўнымі ягонымі памочнікамі на працягу васьмі гадоў навучання. Але гэта не значыць, што будучы артыст быў адмежаваны ад усялякіх цяжкасцяў і праблем абранай прафесіі, бо выконваць балетныя па даводзілася яму самому. І тое, што Р. Мінін стаў сёння лідэрам, самым тэхнічным танцоўшчыкам трупы, артыстам з яркай індывідуальнасцю, — заслуга ў першую чаргу яго асабістая.

У школьным касцюме, у акулярах, сур'ёзны і задуменны, Руслан быў падобны на маленькага вучонага. Але гэта было толькі знешняе падабенства. Прыхільнік Барышнікава, ён быў далёкі ад рашэння матэматычных задач, яго не цікавілі правілы дапасавання і рэльефы на геаграфічных картах.

Затое ў балетнай зале ён быццам абуджаўся ад летуценняў і паступова, крок за крокам, ажыццяўляў іх. Бо мара была, і Руслан ішоў да яе ўпарта і мэтанакіравана.

Педагог А. Калядэнка, які вырасціў цэлую плеяду зорак беларускага балета: Ю. Траяна, У. Камкова, У. Іванова і інш., даў добрую школу яшчэ аднаму пакаленню артыстаў балета. Гэты педагог заўсёды трымаў клас у рамках праграмы класічнага танца, не дазваляючы раней часу выконваць “трукі”, складаныя падыходы да вялікіх падскокаў, што практыкуюцца на сцэне ўжо вялікімі майстрамі балета. Руслан, у сваю чаргу, запоўніў гэты “прагал”, займаючыся дадаткова з бацькам — Я. Мініным, які перадаваў сыну ўсе свае веды і ўмельствы.

Сцэнічная знешнасць, добрыя фізічныя дадзеныя, велізарнае жаданне танцаваць дазволілі Руслану прыйсці ў тэатр не проста выпускніком вучылішча, а дыпламантам 1 Міжнароднага конкурсу імя Дзягілева.

Руслан не танцаваў у кардэбалеце. Яму адразу пачалі даручаць сольныя месцы. Не выклікаў вялікага здзіўлення і той факт, што яму даверылі партыю Базіля ў “Дон Кіхоце”.

Дэбютант упэўнена заявіў пра сябе як пра здольнага маладога саліста, талент якога відавочны, толькі яшчэ ў няразвітай, нераскрытай форме. Руслан паступова апраўдваў спадзяванні, рос, мацнеў у прафесійным сэнсе проста на вачах. Але і Фартуна не абдзяліла яго сваёй увагай. “Няма ў мяне любімых роляў, — гаворыць артыст, — марыш пра ролю, атрымліваеш яе, працуеш, танцуеш і загараешся наступнай...”. За 5 гадоў працы ў тэатры Руслан станцаваў 18 вядучых партый!



Творчы працэс у кожнага артыста працякае па-свойму. Некаторыя загадзя прадумваюць кожны крок, жэст, паварот галавы. Руслан у гэтым сэнсе непрадказальны. Які ён будзе сёння? Гэтае пытанне бессэнсоўна задаваць Р. Мініну перад выхадам. Адказ лепш убачыць, чым пачуць.

Гучыць уверцюра да балета Хачатурана “Спартак”. Крас — Р. Мінін. Будзе ён самазадаволеным, уладарным патрыцыем або жорсткім палкаводцам, які змятае ўсё на сваім шляху, а можа бесклапотным сладастраснікам, які з радасцю ідзе на вайну па славу і забавы?..

Вядома, у працэсе дзеяння вобраз развіваецца. Зусім не залежачы ад тэхнічных складанасцяў, Руслан можа дазволіць сабе імправізаваць і ўносіць нечаканыя характарыстыкі ў вобраз свайго героя. Гэта надае свежасць успрыманню, захапляе гледача натуральнасцю паводзін на сцэне. Стварае вастрыню пачуццяў паміж партнёрамі, пастаянна “казыча нерв”, прымушаючы быць уважлівымі тых, хто яго акружае.

Як артысту шырокага амплуа, яму часта даводзіцца выконваць супрацьлеглыя партыі ў спектаклях. Гэта Спартак і Крас у “Спартаку”, Ланкедэм і Конрад у “Карсары”, Хазэ

МУЗЫКА

# Віншуем, Сяргей!

***Пераможцам вярнуўся з Японіі 17-гадовы вучань выпускнога класа Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі Сяргей Смірноў, які заваяваў Гран-пры і першую прэмію на V Міжнародным конкурсе вышэйшых школ музыкі і вытанчаных мастацтваў у горадзе Такасакі. Прапануем увазе чытачоў гутарку з ягоным педагогам, дацэнтам кафедры спецыяльнага фартэпіяна, дэканам фартэпіяннага факультэта Беларускай акадэміі музыкі Уладзімірам НЕХАЕНКАМ.***

**— Уладзімір Мікалаевіч, калі я не памыляюся, прадстаўнік нашай краіны ўпершыню з'явіўся на гэтым конкурсе?**

— Так. І гэта прыемна, бо конкурс у Такасакі не толькі вельмі прэстыжны, але і унікальны па арганізацыі, накіраванай на найбольш шырокае прыцягненне маладых музыкантаў з усяго свету. У спаборніцтве ўдзельнічалі выканаўцы розных спецыяльнасцей з 29 краін: піяністы, вакалісты, скрыпачы, духавікі, у асобную намінацыю быў вылучаны электраарган. Першыя два туры конкурсу кожны раз праходзяць у розных краінах. (У мінулым годзе гэта была Венгрыя). Першы — адборачны — тур праводзіўся па аўдыёзапісах у Кракаве. Тамсама, але перад публікай і журы, адбываліся і выступленні другога тура. Беларусь была прадстаўлета сямю піяністамі, але па выніках праслухоўвання ў фінал прайшоў толькі Сяргей.

А ў Японіі нас чакаў сюрпрыз. З прычыны вялікай колькасці канкурсантаў (30 чалавек і з іх 13 японцаў) фінал падзялілі на два туры. Кожны з новай жараб'ёўкай і новым журы! Так што абодва выступленні пачыналіся як быццам з “чыстага аркуша”, мінулыя заслугі не ўлічваліся. Аднак Сяргей здолеў “перайграць” усіх: ён атрымаў не толькі Гран-пры, дарэчы, прысуджаны ўпершыню за ўсе гады існавання конкурсу, але і першую прэмію. Наогул, журы было надзвычай аб'ектыўнае. Японскія музыканты, што ўваходзілі ў яго склад, зусім не імкнуліся любой цаной “працягнуць” сваіх, і заключны тур атрымаўся чыста еўрапейскім. Лаўрэатам ІІ прэміі стаў румын Мацей Варга, а ІІІ прэмію падзялілі пецярбуржцы, студэнт ІІ курса Аляксандр Плоткін і ліцэіст Аляксандр Піражэнка.

**— Для Сяргея Смірнова гэта быў ужо не першы сур'ёзны конкурсны іспыт?**

— Гэта для яго дзесяты конкурс. І пяты толькі за час нашай сумеснай працы. За апошнія паўгода ён стаў уладальнікам дзвюх першых прэмій. Але кожны конкурс мае свой непаўторны “сюжэт”. У Японіі канкурсанты былі пастаўлены ў вельмі жорсткія ў прафесійных адносінах умовы: рэпетыцыя ў зале — тры мінуты, разыгрыванне ў класе перад канцэртам — трыццаць мінут. І ў той жа час уся конкурсная атмасфера была дзівосна цёплая і зычлівая. Канцэрты праходзілі пры аншлагах, у вялікай, сучаснай, прыгожа аздобленай і, галоўнае, з цудоўнай акустыкай зале Цэнтра мастацтваў. На заключным канцэрце, каб у залу патрапіла больш народу, палова крэслаў была прыбрана, і моладзь пасела проста на падлогу. Звычайна японцы пры ўваходзе ў памяшканне здымаюць абутак і пакідаюць яго за парогам. Але тут арганізатары, відавочна, спужаліся непазбежнай гары туфляў, і было вельмі нязвыкла і нават кранальна назіраць, як усе сядзелі,

## На ніве ўзаемасувязяў

ВАЛЯНЦІНЕ ГАПАВАЙ — 75

Сярод тых, хто плённа працуе па асэнсаванні сувязяў беларускай літаратуры з іншымі літаратурамі, — В. Гапава. Валянціна Ігнатаўна нарадзілася 4 студзеня 1923 года ў вёсцы Малая Чэрніца цяперашняга Віцебскага раёна. Пасля заканчэння ў 1940 годзе сярэдняй школы паступіла на філалагічны факультэт Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта. У гады вайны стала медыцынскай сястрой, прымала ўдзел у абароне горада на Няве. Універсітэт скончыла ў 1946 годзе і паступіла ў аспірантуру. З 1949 па 1954 год выкладала ў гэтай вышэйшай навучальнай установе польскую літаратуру і вяла курс славянскіх літаратур. З 1954 года Валянціна Ігнатаўна звязала лёс з Мінскам, пачала працаваць старшым выкладчыкам педінстытута імя М. Горкага. З 1959 года — малодшы, з 1960-га — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. У інстытуце працавала да 1986 года, калі пайшла на заслужаны адпачынак.

З першымі артыкуламі В. Гапава выступіла ў друку ў 1952 годзе. Даследуе праблемы параўнальнага славянскага літаратуразнаўства (сувязі беларускай, рускай і польскай літаратур), а таксама беларускую паэзію дваццатых гадоў. У В. Гапавай выйшлі кнігі "Эліза Ажэшка. Жыццё і творчасць" (1969), "Зменлівае і спрадвечнае. Вопыт тыпалагічнага даследавання беларускай і польскай вясковай прозы" (1975), "Пімен Панчанка" (1977), "Белорусско-русское поэтическое взаимодействие" (1981), "Перачытваючы "Спадчыну" Янкі Купалы" (1983). З'яўляецца адным з аўтараў "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" (т. 2, 1966), "Истории белорусской советской литературы" (1977), падручніка для вышэйшых навучальных педагагічных устаноў "Беларуская савецкая літаратура. 1941—1980" (1983).

З 75-годдзем, шаноўная Валянціна Ігнатаўна! Доўгіх год жыцця Вам і новых творчых поспехаў!

## Любіла свой край...

Вядомая беларуская паэтэса Канстанцыя Буйло з 1923 года жыла ў Маскве. Ды і нарадзілася яна ў Вільні, дзе на той час яе бацька Антон Аляксандравіч працаваў конюхам у князя Гагарына. Толькі тады, калі дзяўчынцы споўнілася два гады, сям'я пераехала ў вёску Вішнева на Валожыншчыне, дзе бацька стаў арандатарам, лясным аб'ездчыкам. У 1914 г. К. Буйло скончыла кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы ў Вільні. Настаўнічала на Лідчыне, загадвала беларускай кнігарняй у Полацку. Пасля рэвалюцыі працавала статыстыкам у Валакаламскім павятовым выканкаме рабочых і салдацкіх дэпутатаў, бухгалтарам у саўгасе "Данілкава". І ў Маскве займала пасады зусім "непаэтычныя" — працавала на заводзе "Аграном", была начальнікам збыту палітэхлабарсаюза, начальнікам апаратыўнага аддзела, затым выконваючай абавязкі дырэктара цэнтральнай канторы ветэрынарнага забеспячэння трэста Саюзветзабпрам.

А з паэзіяй не развіталася на працягу ўсяго свайго доўгага жыцця (нарадзілася 14 студзеня 1893 года, памерла 4 студзеня 1986-га). Дэбютавала вершамі ў 1909 годзе на старонках "Нашай Нівы". Першая кніга К. Буйло "Курганная кветка" з'явілася ў Вільні ў 1914 годзе. Яе адрэдагаваў Янка Купала (у 1989 годзе выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла факсімільны выпуск гэтага выдання). К. Буйло — аўтар кніг "Світанне", "На абноўленай зямлі", "Май", "Роднаму краю", зборнікаў для дзяцей "Юрачка", "У бляску зор", "Вясной", п'ес "Кветка папараці" і "Сягоннняшнія і даўнейшыя" (апошняя была пастаўлена ў 1921 годзе). Многія вершы К. Буйло пакладзены на музыку. Асаблівую папулярнасць набыла песня "Люблю наш край", якая стала народнай. А пра яркае, цікавае і складанае жыццё Канстанцыі Антонаўны можна даведацца з кнігі Д. Чаркасавай "Люблю", што ў 1978 годзе выйшла ў "Бібліятэчцы газеты "Голас Радзімы".

У 1989 годзе К. Буйло назаўсёды вярнулася на Бацькаўшчыну — урна з яе прахам была прывезена ў Вішнева і пахавана на мясцовых могілках. Імя К. Буйло прысвоена мясцовай школе, а на будынку яе ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

ПАЭЗІЯ

# Самы раз служыць малебен...

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ



### І доктар ёсць як долі знак...

В. Я. РАБЕКУ

*Шаноўны доктар мой Рабека,*
*Прызнайцеся, які пейзаж*
*Убачылі вы ў чалавеку,*
*Калі зажмурыліся аж...*
*Душа паэтава на месцы*
*Была? Не адвяла пагляд*
*Ці тут жа збегла да каленцаў,*
*А потым і да самых пят?*
*Хаця... Хто ведае жыхарства*
*І не паэтавай душы,*
*Якое трэба ёй лякарства,*
*Каб доўга жыць і не грашыць.*
*Хай застанецца паміж намі*
*Таемнасць беднага нутра*
*У Вамі абнаўлёнай раме.*
*Ну а душа — агонь кастра,*
*Які запалены адночы*
*І не патухне аніяк,*
*Пакуль глядзяць у неба вочы*
*І ёсць хірург, як долі знак.*
*Няхай жа не звядуць нас сцежкі*
*Ізноў ля белага стала,*
*А толькі тосты, толькі ўсмешкі*
*У схове цёплага жытла.*

### Вал бед

*Пад ваду сплывае мацярык.*
*Узыходзіць сонца над вадою*
*Як адзін крывава-чорны ўскрык,*
*Што спазніўся ўсплыць перад бядою,*
*Што не папярэдзіў анічым*
*На зямлі разумнікагаловых,*
*Заблудзіўся пасярод Айчын*
*Рознамоўных, рознакаляровых.*
*Як шкада, што голас мой слабы*
*Разбудзіць людзей тады не здолеў...*
*Рваць бы правады, ламаць слупы,*
*Болем ратаваць ад большых боляў.*
*У паўпрывідным сціхотным сне*
*Сведка я, на жаль, бездапаможны*
*І па акіянскім змрочным дне*
*Коціцца вал бед непераможны...*

*...Недзе ён вакол зямлі другой*
*Абаўецца, як удаў сусветны,*
*І нікому не паможа Ной —*
*Гэты божы ратаўнік сакрэтны...*
*Святары ўсё спішуць на грахі*
*У расходнай кнізе нашых жыццяў.*
*Рокат валу ўчуў мой кот глухі*
*І насустрач выпускае кіпці.*

### Няма больш сіл...

*У люда простага ўсё проста:*
*Пасплю, памыюся, паем,*
*Прашпацырую да пагоста —*
*Вось і дасягнуты Эдэм.*

*Не трэба аніякіх схем*
*Пра генетычныя наросты,*
*Пра нашу рабскую каросту, —*
*На свеце многа лепшых тэм.*

*Работа... яна ёсць работа,*
*А не распяцце на крыжы,*
*Людзей не страшыць толькі потам,*
*Рэвалюцыйныя мужы.*

*Каб ген гультайства не ўваскрэсіць,*
*Што рана лёг і позна ўстаў,*
*Павыў на ўлады і на месяц*
*І... зноўку сну сябе аддаў.*

*Дык адрачэмся ад фарпостаў!*
*Дурноты скончаны ліміт.*
*У люда простага ўсё проста,*
*Як люду голаў ні тлумі.*

*Дзяды і нашыя бабулі*
*Ідуць з настроем у нябыт,*
*Як сённяшнія ўнукі ў гулі.*
*Няма больш сіл для барацьбы.*

•

*Тачы нарог, ары сваю дзялянку*
*І помні, што, адкрыўшы і Парыж,*
*Прыманка славай — усяго прыманка*
*Для чалавека шэрага, як мыш.*

*Багаты мы не рэчамі, а рэчывам*
*І розуму, і сэрца, і душы,*
*Якое ў полі зроку чалавечага,*
*Бы ў чэрапе, у зорным у кашы.*

•

*Як сабака,*
*шукаю ўсё больш адзіноту,*
*Каб чарговыя раны ў траве залізаць,*
*Не губляю надзею вялікую ўпотай:*
*Жарабка свайго лёсу*
*яшчэ закілзаць.*
*І... была-не была...*
*Пад капытамі вёрсты,*
*А з бакоў паддаюць ахвоты вятры,*
*Дзікі прысмак пагоні*
*і потны і востры*
*Каламуціць збалелае цела ўнутры.*

•

*Жыццё — гэта чаканне смерці.*
*І там, дзе пекла, там, дзе рай,*
*Для нас заўжды адкрыты дзверцы.*
*Табе якія? Выбірай!*
*І выбіраем на каленях*
*Ці іншых ставячы на іх...*
*З праклацямі альбо з маленнем*
*На Бога.. Д'ябла? Перадых*
*Сабе на старасці дазволім,*
*Як раптам пойдзем на нажы...*
*Калі няма ні сілы волі,*
*Ні проста сілы болей жыць.*

•

*З гадамі высветліў я, што*
*Вышэйшы свет — не чалавечы,*
*І не аддам я з рэчкай вечар*
*За вечароў іх тлумных сто.*

*Са свечкай, з камнем у руцэ*
*У гэтым хітрым карагодзе*
*Люд божы з д'яблам шашні водзіць...*
*Мне лепш між зорак на рацэ.*

*З цяжкой халоднасцю, бы ртуць,*
*Там разальюць пачуццяў хвалі...*
*Ізноў не лепшага пахваляць,*
*Не горшага зноў аблююць.*

### Балеснае

*За хвастом каня з "Пагоні"*
*Адклубіўся думак пыл...*
*Коннік больш не абароннік,*
*Ён з канём сасланы ў тыл.*
*Там, у тыле, не на віле*
*Моўчкі лёс яго абняў.*
*Нават пену не абмылі*
*Служкі з файнага каня.*
*Зноў чакаць ім... Год каторы*
*У гісторыю ўрастаць,*
*Так, што можа крыкам, шпорай*
*На пагоню не падняць.*
*Да славутых выяў-шыяў*
*Прыпадзе адно паэт*
*Не стрыножаны... Павые...*
*І зляціць у белы свет.*
*У краіне, дзе патрэбен*
*Больш, чым годнасць, срэбны звон,*
*Самы раз служыць малебен*
*Пра не лепшасць нашых дзён.*
*За паўсюль мудрагаловых*
*Чаркі з краю ў край трупяцяць.*
*На плячах жа адмысловых*
*Найчасцей тырчыць кульця.*
*Лепш бы сведак горкай з'явы*
*Затаптаў "Пагоні" бег*
*На баразнах на крывавых...*
*...Белы снег як белы грэх.*

### Радкі

*Яны прыходзяць са слязамі*
*Альбо са смехам сярод слёз.*
*Не верце, што радкі вазамі*
*Вывозіць з ночы творца-бос.*
*У час тварэння ён падлетак,*
*І ад збалелае душы*
*Сто раз ён стопча свой палетак,*
*Гукне сабе: "Лепш не пішы!"*
*І — вернецца сляпым прарокам,*
*Каб угледацца ў сэрцы зноў,*
*Бо ён падключаны да току*
*І родных душ... І родных слоў...*

УГОДКІ

# Радзіму ён збярог...

Верш, які даўно стаў хрэстаматыйным:

*Ніколі не ехаць*
*Хлапцу маладому*
*Да блізкага гаю,*
*Да роднага дому.*

*Над ім асыпаюцца*
*Слуцкія краскі,*
*Абсмалены колас*
*Схіліўся да каскі.*

*Ляжыць ён, як віцязь,*
*У стоптаным жыце.*
*Маці спаткаеце —*
*Ёй не кажыце...*

Называецца гэты твор проста і стрымана — "У стоптаным жыце". Аўтар яго Мікола Сурначоў — адзін з тых, хто, кажучы словамі М. Маёрава, пайшоў з жыцця "не долюбив, не докурив последней папиросы". Але здарылася тое на самым схіле вайны. Верш жа пісаўся ў 1941 годзе, на Заходнім фронце, калі да Перамогі было яшчэ далёка і вельмі трывожна на душы з-за няўдач, адступленняў. М. Сурначоў знаходзіўся на пярэднім краі барацьбы з фашызмам. Як пісаў А. Вялюгін, "усе яго вершы стварaліся на полі бою — у траншэях над Дняпром, у бліндажах на Каўказе і Румыніі, на лясных прывалах Беларусі і Польшчы, у шпіталях глыбокага тылу".

Перад вайной, як ці не ў кожнага з яго пакалення, у М. Сурначова жыла мара аб радасным, шчаслівым жыцці. Былі, канечне, у краіне рэпрэсіі, але, насуперак усяму, верылася ў лепшае. Пасля скончэння сельскагаспадарчага тэхнікума М. Сурначоў працаваў аграномам на роднай Рагачоўшчыне (нарадзіўся ў вёсцы Слабада), потым перайшоў у раённую газету "Камунар", а затым на працу двух гадоў вучыўся на літаратурным факультэце Гомельскага педагагічнага інстытута, з якога ў 1939 годзе пераведзены ў Мінскі педінстытут імя М. Горкага. Вучобу спалучаў з працай у рэдакцыях газет "Звязда" і "Чырвоная змена". У 1941 быў прызваны ў армію.

Друкавацца М. Сурначоў пачаў яшчэ ў 1933 годзе ў рагачоўскай раённай газеце. Выдаць сваю першую кнігу не паспеў. А ў час ваенных будняў заставалася толькі марыць пра яе, хоць з пяром і не развітваўся. Жыў, як і іншыя — ад бою да бою. З той хіба розніцай, што адказваў і за жыцці салдат, якімі камандаваў. Старшы лейтэнант М. Сурначоў паказваў і асабісты баявы прыклад. Некалькі разоў цяжка паранены, ён не пакідаў армейскі строй. І з наступаючымі часцямі ўсё набліжаўся і набліжаўся да фашысцкага логава. А пасля...

Трагічная вестка аб гібелі М. Сурначова прыйшла на Беларусь акурат у дзень Перамогі. Аднапалчане пісалі: "Да Берліна заставаліся лічаныя кіламетры. У жорсткім баі Міколу паранілa ў руку. Раненне было цяжкім, але наш адважны камандзір адмовіўся ехаць у шпіталь і працягваў весці бой. І вось у ноч з 19 на 20 красавіка мы непрыкметна пагльбіліся далёка ў тыл і напалі на адступаючую калону нямецкіх войск. Завязаўся жорсткі бой, які перайшоў у рукапашную. Перамога была за намі. Толькі не было ўжо Міколы. Нямецкі фаўстпатрон трапіў у яго. Смерць прыйшла імгненна. Міколу пахавалі ў брацкай магіле за 8 кіламетраў ад Берліна..."

Першая кніга М. Сурначова "На сурмах баравых" выйшла толькі ў 1946 годзе. Пасля з'явілася "Барвовая зара" (1959). Былі і публікацыі ў калектыўных зборніках, у тым ліку і ў "Крывёю сэрца", якому ў 1967 годзе было наканавана адкрыць серыю "Бібліятэка беларускай паэзіі" і дзе творы М. Сурначова прадстаўлены поруч з іншымі беларускімі паэтамі, што не вярнуліся з той вайны. Найбольш поўна творчая спадчына М. Сурначова прадстаўлена ў кнізе "Апошні спеў" (1986). У гэтым зборніку змешчаны таксама ўспаміны пра яго і лісты з фронту.

Напрыканцы мінулага года М. Сурначову споўнілася б 80 гадоў...

А. М.

ЗГАДКІ

# Тры постаці

Марыя ПАНКОВА

## САД ПАМЯЦІ

Што такое талент? Талент — гэта загадкавы Сад, увайшоўшы ў які, сам расцвітаеш, як сад! Талент — гэта бязмежны акіян любові, выкупаўшыся аднойчы ў якім, адчуеш і сам бязмежную любоў да свету, да зямлі, на якой нарадзіўся, вырас.

...Даўно збіраюся напісаць пра Віктара Казько, дзіўнага, непаўторнага, таленавітага Творцу, акрыленага самім Богам, мабыць. Даўно збіраюся перачытаць усё, што выйшла з-пад яго пяра, што даўно перапаўняе душу, ды ўсё з-за нейкай мітусні прозы адкладаецца на пасля... Не хачу, не магу параўноўваць яго ні з кім, ён — не такі, як усе. Не падобны ні на таго, ні на другога, ні на трэцяга. Ён — Віктар КАЗЬКО! Не ўвабранае ні ў якія модныя псеўданімы Імя, Асоба, Чалавек, Талент! Уся яго проза — глыбока псіхалагічная, лірычна-драматычная, яе чакаеш, яе хочацца перачытваць і, вядома ж, светла хочацца пагаварыць-пазнаёміцца з ім самім!

О, як развярушыў мае думкі пра Віктара Казько прагляд тэлевізійнага фільма, зробленага па яго ж, мабыць, сцэнарыі (уключыла тэлевізар не на самым пачатку фільма). О, гэты "Сад" Віктара Казько! Прабачце мне, шаноўныя стваральнікі цудоўнага лірычнага фільма, ад рэжысёра да апаратара, да акцёраў! Усім вам вялікі дзякуй, але самая вялікая ўдзячнасць — яму, аўтару "Саду"! Бо каб не яго радкі — не было б гэтае радасці адкрыцця людзей, сапраўдных людзей нашай зямлі, не было б і тугі па іх сёння... І маёй, мабыць, — асабліва, бо і я, і я ж — спрычынена, правільней, маю нейкае дачыненне да "Саду" Віктара Казько. Хай сабе яно й ледзь-ледзь, недзе ў глыбінях душы святлееца, але ж яно ёсць, ёсць і гарыць, нібы таямніца-свечачка, у самым сэрцы і час ад часу кліча, заве да сябе...

І раптоўная роспач, і жаль-шкадаванне абрынуліся раптам на душу. Гэта ж я магла б пахадзіць некалі па тым Садзе Віктара Казько, магла б пасядзець і пад ягонай яблынькай, і пад яблынькай высакароднай настаўніцы Вольгі разам з Міронам Апанасавічам Сарокам, з тым дзядзькам Міронам, якога шанаваў, любіў пісьменнік усё сваё жыццё, памяці якога — і гэты светлы фільм. Той сад — сад найперш яго, высакароднага чалавека і настаўніка Мірона Апанасавіча Сарокі з вёскі Вільча Жыткавіцкага раёна (памяць не магла здрадзіць мне ні ў назве вёскі, ні ў імені героя Віктара Казько!). Бо нейкім таямнічым праменем свайго жыцця закрануў мяне Мірон Апанасавіч Сарока, запаў у душу, будзячы, часам, маю памяць, і хочацца ляцець птушкаю ў тую Вільчу, пакружыць над яго магілаю...

Так, я была знаёма з Міронам Апанасавічам. У 70-х гадах я працавала ў Жыткавіцкай раённай газеце. І вось сярод сваіх аўтараў аднойчы заўважыла Мірона Апанасавіча Сароку, а не заўважыць яго проста было немагчыма: ён прыслаў мне аднойчы цёплы ліст, прыемнасць якога чую душой і па сёння (чамусьці ён прарочыў мне лёс пісьменніцы, вітаў мяне шчыра і светла, жадаючы шчаслівай дарогі ў літаратуру). Тады я нічога не ведала пра яго самога, не ведала, якой радаснай повяззю злучаны ён навек з нашым таленавітым празаікам Віктарам Казько. А паколькі чалавек гэты быў задужа сціплым, не набіваўся, не навязваўся сам ні на якія сустрэчы, не ўзнікаў часта перад вачыма (помню толькі адну сустрэчу ў рэдакцыі, самую звычайную — забег, каб аддаць свой сціплы допіс у газету), то мы й перакінуліся з ім усяго некалькімі словамі, і я, помню, паабяцала яму заскочыць да яго ў вёску, але... Але закруціла-завірыла жыццё, і тыя адкрытыя мной ужо дарогі, якія вабілі мяне, не адпускалі. І не падумалася нават, што я абкрадаю сябе на цэлы сад, які пасадзіў, выпеставаў сваімі рукамі гэты чалавек, абкрадаю на шчымлівую песню, на светлае сэрца, на пранікліву душу, на мноства людзей, узгадаваных гэтым сэрцам, гэтай душою!

Ах, Мірон Апанасавіч! Каб вы ўзняліся раптам сёння з зямелькі — я стала б перад вамі на калені і памалілася б, як перад святым. Якое сапраўды вялікае сэрца білася ў вашых грудзях! Колькі дзяцей вы ўратавалі ў часы ліхалецця, галечы, колькі ўзгадавалі іх сумленнымі, высокадухоўнымі людзьмі! Яны — вашы прыёмныя дзеці — па ўсім ранейшым Савецкім Саюзе... І сярод іх — самы любімы: Віктар Казько, ваша перастворанная, абноўленая свежым ветрам жыцця душа, у якой не памыліліся вы калісьці!

Чуеце, як шуміць над вашай магілаю сад? Не, ён не ўчарнеў, не высах з гадамі, не засынаўся попелам радыяцыі. Чуеце, як набрыньваюць сакавіцкім цяплом пупышкі, як прыпадаюць да іх цікаўныя сінічкі ды верабейкі? Вось яно — неабдымнае красавіцкае, а затым маёвае неба! Якія фарбы, якая шырыня сінечы, якія абноўлена-чыстыя, як выпаласканыя, вымытыя ліўнямі аблокі! Я закідваю рукі ўгору, разлягаюся на самым пухкім з іх — і плыву, плыву ў вечнае вашае лета! Мне хочацца пахадзіць па тым загадкавым, Боскім Садзе, дзе толькі Дабрыня, Святло, Пяшчота і Музыка! А не ўдасца пахадзіць — то палятаць: птушкаю, аблачынкаю, пярынкаю? Дакрануцца да вас то крылом, то песняю, якую вы калісь пачулі ўва мне. Падзякаваць вам — о не, не словамі — боскімі гукамі, якія нараджаюцца толькі ў выпакутаванай душы. Ах, як рассунулася неба, якую дарогу да вас высцеліла мне сонца! Расступіліся беласнежныя, выпеставаныя сонцам аблокі, якія на лузе ўспыхнулі краскі! О, як заззялі яны ў маіх вачах! Нешта знаёмае з маленства праступіла ў іх і, разам з тым, загадкавае, таямніча-незнаёмае. Няўжо я й сапраўды сягнула ў нязнаныя дасюль нябёсы? Дзе вы, Мірон Апанасавіч, абгукніцеся-я! Жаль, што я не прывеціла вас калісьці так, як вы таго заслугоўвалі, што зацягнула мае вочы плёнкай горкага туману. Я думала: будзе яшчэ час пагаварыць з вамі, напісаць пра вас, усё ў Тураў ляцела, усё пра тураўлян спявала. Ах, Мірон Апанасавіч, ну чаму ж вы не сказалі мне пра лёс свой, пра Сад свой тады? Чаму, чаму я так позна пра яго ўведала?

І раптам — ашаламляльная здагадка паласнула па сэрцы: гэты Сад — Сад Віктара Казько!.. Ты яго ніколі не зразумееш, не адчуеш так, як чуе, разумее ён, прыёмны сын Мірона Апанасавіча! І не крыўдуй тут, і не шукай таго, што знайсці немагчыма...

Зашчымела сэрца. Так заўсёды шчыміць яно па недасяжна-далёкім, тваім — не тваім... Так заўсёды гукае яно роднае, блізкае сабе — то яблыньку ў садзе, то вярбінку над ракою, то адзінокую хаціну, згубленую ў глыбіні неспазнаных яшчэ лясоў жыцця. Так вяртаецца боль — па страчаным, але не забытым, вечна жывым у душы. Так вяртаецца слова, якое аднойчы знямела ў грудзях. Так вяртаецца і жалоба...

Колькі часу прайшло-праляцела з таго дня, калі і я назаўсёды развіталася з вамі, кінуўшы жменьку зямлі на вашу труну, Мірон Апанасавіч! Колькі чаго змянілася ў нашым жыцці! І не ў лепшы бок. Нават калі-нікалі цяпер думаю: гэта добра, што вы не дажылі да жахлівага землятрусу, добра, што вы не бачыце, што сталася з людзьмі, на якія лагеры падзяліліся мы. Для вас, былога воіна-франтавіка, гэта сталася б невыноснаю драмай. Вам, з вашай лірычна-ціхай душой, ці магчыма было б перажыць, пагадзіцца з нечым? Думаю, цяжка б маўчалі, прысеўшы пад адной з яблынь вашага вялікага саду...

Але — пад той яблынькаю я адна сёння. Апусцілася проста з пухкага воблака, проста з неба! Ці бачыце мяне, Мірон Апанасавіч? У высях — не дагукалася вас, можа б, тут абгукнуліся мне? О, што ты, аб чым ты, яблынька, мая — не мая?.. Гэта яна, здагадка, вяртае мяне ў той жалобны, пахавальны дзень, калі я гаварыла нейкую прамову над вамі. Як цвіла на мне, нібы луг, светлая льняная спаднічка-вышыванка! І я нібыта зрывала з яе краскі і кідала вам пад голаў, пад рукі, пад ногі... Я чула свой голас і — не пазнавала сябе. Ад імя рэдакцыі — гаварыла і гаварыла пра тое, што дужа многа страцілі мы, штатныя супрацоўнікі газеты, з вашай смерцю: страцілі жывы голас вільчанскага краю, аператыўны голас, які паведамляў нам аб усіх яго навінах заўсёды сцісла і ясна...

О, тыя словы! Як мне хочацца іх сцерці з памяці і — заплакаць там, над вашай магілаю! Так, як сёння пад вашай яблынькай плачу... Вунь жа, вунь жа, воддаль ад мяне, ад маёй "прамовы" — стаіць збялелы Віктар Казько, разгублены Віктар Казько... Вунь яго жонка — таксама паніклая, разгубленая... О, не шумі так, яблынька, нада мною, даруй мне, калі ласка, тую лёгкую прамову! Я чую цяпер, чую і бачу — хто ёсць хто... І — дзе я, і чаму іменна тут...

## АКТРЫСА

Яна стаяла, задуменная і адзінокая, ля самай Свіслачы павярнуўшыся да яе спіной. Яна сачыла за сабакам, за пушыстым пудлікам, які не адбягаўся ад яе далёка, а быў тут, побач. Яна ж усё роўна сачыла за ім, як сочаць маці за малымі дзецьмі.

Я была паблізу яе з дачушкай. Даша гуляла ля яе сабачкі, заварожана назірала за ім. А я — за ёю, Актрысай, якую ведаю, пазнаю ў твар усе, хто хоць аднойчы пабываў у тэатры або паглядзеў фільм з яе удзелам.

Галіна Макарава! Яна нібы прыйшла да нас з самае старажытнае вёскі, дзе кожны дзед, кожная бабуля — самабытны талент! Толькі народ, у маім разуменні, мог нарадзіць такую Актрысу! Толькі ён мог надзяліць яе такой адметнасцю таленту! Колькі роляў ёю сыграна, пражыта на сцэне іменна такімі самабытнымі бабулямі-жанчынамі! І якой мовай! Не, яна не іграла, яна жыла на сцэне натуральным, зразумелым ёй, мне здаецца, з самага маленства, жыццём! Кожны зрух яе цела, яе душы быў натуральным, ненадуманым, калі яна пражывала жыцці простых людзей. А якая, яшчэ раз падкрэсліваю з захапленнем, яе мова! Так гаварыла мая маці, так гаварыў мой бацька, усе, каго я ведала, чула з маленства ў роднай вёсцы. Не, гэткаму вымаўленню не вывучыш у горадзе! Я, напрыклад, чуйна рэагую, як прамаўляюць артысты. Нават самыя слынныя, самыя таленавітыя спатыкаюцца, бывае, на нечым у сваёй гамане са сцэны...

Галіна Макарава!.. Я бачыла яе перад смерцю (у хуткім часе яна сапраўды памерла). Стомлены, спярэшчаны ўжо маршчынамі твар, на якім — сляды, мабыць, бяссоннай начы і глыбокага одуму, развагі над жыццём Я не была з ёй асабіста знаёма і нічагусенькі не ведала пра яе лёс. Але як не пазнаць яе, як не пакланіцца яе таленту? І — сама таго не разумеючы нават, як тое сталася, я — сапраўды пакланілася ёй, а следам за мной, капіруючы маму, — і мая Дашутка. І — твар яе ажыў, засвяціўся, яна злёгку ўсміхнулася і — таксама лёгка пакланілася!

...Мінуў час. Леты, зімы, восені, вёсны, дажджы і грамы, градабоі і завеі пранесліся нада мной, над маім дзіцем і той ракою, ля якой мы стрэліся з ёю, вядомай, любімай усімі Актрысай. Але (вось дзіва) стрэча тая не забываецца. Кожны раз, калі я іду па парку Горкага, калі падыходжу да Свіслачы, я нязменна бачу там, на тым жа самым месцы, Галіну Макараву! Светла, трошкі зажурана ўсміхаецца яна мне, злёгку ківае галавой, вітаючыся са мной... Правяду рукой па вачах, нібыта здымаючы з іх туман сваёй адзіноты, а на далонь, як раса, скоціцца сляза. Памахаю тады ці чайцы над сабой, ці чародцы жураваў у небе, ці, калі зіма, сняжынку злаўлю, хукну на яе...

Галіна Макарава... О, як бы я хацела сустрэцца з ёю там, у завоблачных высях, калі праб'е і мой час адыходу з зямлі! Як зазыўны агеньчык у душы — той паклон яе мне...

## СВЕТЛАЕ ІМЯ

Дзіўна: праз 20 гадоў, толькі праз 20 гадоў узнікла гэтае светлае жаданне — успомніць ягоную душу ўслых. Хоць часта я ўзгадвала пра яе, але вось такога неадольнага жадання — напісаць — не было. Мы ж не былі асабіста знаёмымі, я ніколі не бачыла яго, нідзе з ім не сустракалася, і тая ягоная кніжка, якую купіла некалі ў краме (здаецца, "Людзі-суседзі"), згубілася недзе. Але як, якім чынам ацалела ягонае пасланне да мяне? Я й не берагла яго, як берагуць асабліва дарагое, асабістае, не захоўвала, а яно — захавалася!

Уздрыгнула нават: няўжо паштоўка Васіля Праскурава да мяне? Так, Ганцавічы, вул. Камуністычная... І подпіс — прыгожа-роспісны: Васіль Праскураў.

І ўскалыхнулася памяць... Хіба ж можна забыць час, калі стаяла на роскрыжы дарог, выбіраючы сабе пуцявіну? І туды хацелася пайсці, і туды... Але было так важна для мяне, каб побач былі духоўна блізкія людзі! І я выбрала: Ганцавічы! Калі ісці — то куды! Калі бегчы — то туды! І ляцець, ехаць — туды! Там жа быў і таленавіты паэт Віктар Гардзей! І я напісала Васілю Праскураву, што хацела б пераехаць пад яго ахоўнае крыло, што надакучыла мне побач з вечнай шэранню, што хочацца разумення, адкрытасці ва ўсім, дабра і цяпла, каб спявала душа, каб тужыла сэрца, гублюючы! А то вось — не затужыць, хоць і збіраецца ў вырай, наадварот, парадуецца, што адлятае, што стомлена прысядзе недзе ля жураваў у небе і будзе плакаць-плакаць, сваё на зямлі гукаючы...

Помніцца, як, паслаўшы той ліст, на наступны дзень жахнулася: Б-б-ожа, што падумае Васіль Праскураў пра мяне? Мусіць, толькі адно: дурніца нейкая... І я тут жа паслала другі ліст, больш сухі, больш спакойна-разумны — такі, якія пішуць, бадай што, усе нармальныя цвярозыя людзі.

Вось тады і прыйшоў адказ Васіля Праскурава:

"Дарагая Марыя! Даруйце, калі ласка, што я затрымаўся з адказам на Вашы лісты. Быў вельмі і вельмі заняты. Давялося многа ездзіць, сустракацца з родзічамі і проста з неабходнымі людзьмі. Але гэта не апраўдвае мяне, таму — даруйце.

Цяпер наконт Вашай просьбы. У гэты час месца вакантнага ў нас няма. Яно можа быць пазней, і я згодзен узяць вас да сябе ў рэдакцыю. Чаму? Сам не ведаю чаму. Падабаюцца мне такія шчырыя людзі, як вы. Нічога лішняга Вы не напісалі мне, так што няма чаго залішне турбавацца. Чытаў Вашы вершы ў "ЛіМе", але гэта было даўнавата, нават забыўся ўжо, адкуль Вы, дзе вучыліся. Ды і гэта, зрэшты, не галоўнае. Самае галоўнае — Вы хочаце пісаць. І я зычу Вам у гэтым поспехаў. Калі змагу, рады буду дапамагчы. Віншую Вас са святамі! Усяго Вам добрага! З павагай Васіль Праскураў."

Перачытала і — зашчымела сэрца, зажалкавала: а яго ж самога Васіля Праскурава, ужо няма на свеце, і некаму паслаць ужо ў Ганцавічы ліст, хай сабе й позна. А гэтак хацелася б паслаць! Я ж больш не напісала яму, больш не прасілася да яго ў газету, знайшліся іншыя дарогі, іншыя песні. То чаму ж так забалела ўва мне тая неажыццёўленая дарога, чаму так захацелася прайсці па ёй і, як у той даўні маладосці час, даверыць мары свае Васілю Праскураву: "Я пісаць хачу, хачу пісаць, хачу многа бачыць і чуць, і расказваць, і радавацца так, як ніхто на свеце да мяне, і адпачываць у стоме, пасля гулкіх дарог, з блізкімі па душы людзьмі!?"

О максімалісцкая маладосць! Але ж, мусібыць, толькі ў маладосці і цягнешся так адкрыта да родных табе людзей, і гукаеш іх гэтак шчыра, і спадзяешся на іх гэтак, вядома, толькі ў маладосці! О, я б хацела вярнуцца ў той час! Я б павярнула, абавязкова павярнула яшчэ раз тады свае сэрца на Ганцавічы, каб паглядзець, паслухаць той легендарна—пявучы край, які наталіў і душу таленавітага паэта і празаіка Віктара Гардзея, і столькі даў яму, нашаму вядомаму нарысісту Васілю Праскураву! А маё вось сэрца не піло з тае зайздроснай крыніцы! І так захацелася птушкаю пераляцець у той старажытны край! І вялізная, як неба, гаркота абвалілася на мяне: хацела павітацца з Васілём Праскуравым, хацела ўслых выгукнуць яго імя, ды... імя па бацьку забылася! І шкадаванне, і горыч агарнулі душу. І прыйшло горкае разуменне: ці не так і ўсе мы: пакуль жывём, пакуль бачым-чуем, помнім? Штосьці я не чула пра яго, патрыёта роднага краю, ні па радыё, ні ў газетах хоць бы колькі слоўцаў-радкоў... Няўжо мы так аглушэлі сёння, што сваіх жа, родных па духу, забываем?!

Васіль Праскураў... Светлае імя ў нашай журналістыцы. З'явішча. Асоба. Цэлы свет адкрыцця жыцця і людзей у ім! Дзякуй табе, жыццё, што падарыла мне такога чалавека, калі стаяла я, маладая і натхнёная, на роскрыжы ўсіх дарог! Дзякуй Вам, Чалавек, што вы былі Чалавекам!

барочную планіроўку, лепш разглядаць усё ж адсюль, з Хоензальцбурга, крэпасці, якую самі аўстрыйцы называюць сімвалам горада. І зрабіўшы круг па старых сценах крэпасці, ты вяртаешся з падарожжа ў райскі куточак, дзе з кожным крокам, як казаў Моцарт, адкрываеш для сябе яшчэ адзін твор Бога.

## ШМАТГАЛОССЕ

Кафэ ў мястэчку Сандл, любімае месца сустрэч вясковых жыхароў, рэдка бывае пустым. Яно, як хатні тэлесерыял, старанна адлічвае старонкі тутэйшага жыцця. Сюды можна прыйсці выпіць піва, паесці, паслухаць жарты, абмеркаваць, напрыклад, будаўніцтва канала, нават паспаць. Тут заўсёды знойдзецца месца і для маленькага свята ці якой-небудзь імпрэзы. Варта толькі з'явіцца гармоніку — і спевакоў не трэба шукаць. Пачне адзін столік, працягне другі. Раптам з'явіцца труба, якая мякка далучыцца да гармоніка, і пачнуцца скокі.

Памятаю, як аднаго разу музыкі скончылі граць, але іхнюю тэму лёгка працягнуў вясковы свістун. Ён старанна высвістваў, падыгрываючы вачамі і дырыгуючы свабоднай ад келіха рукой, пры гэтым разбаўляючы мелодыі цірольскімі трылькамі.

Але самае вялікае ўражанне ў мяне ўсё ж ад мясцовых паліцэйскіх. Нас з жонкай запрасілі на маленькае свята, дзе "абмывалі" чарговыя зорачкі шэфа паліцыі. Быў дождж, і нас даставілі ў паліцэйскі пастарунак на машыне з мігалкамі. У падвальчыку быў вялікі стол, шмат піва, смачнае мяса, многа жартаў. Было вельмі цёпла і па-хатняму добра.

Але калі кожны палісмэн адкрыў свой спеўнічак з нотамі, і яны ўсе разам ладненька заспявалі, я зразумеў, што толькі ў гэтай краіне мог нарадзіцца Моцарт!

Аднойчы вельмі таленавіты рэжысёр, народны артыст Грузіі Гіга Шалвавіч Джапарыдзе, ідучы па Маскве, спяваў сваю песеньку пра маленькую птушку. Мая жонка падтрымала яго і прыбудавала да мелодыі другі голас. Спадар Гіга здзівіўся і праз паўзу сказаў: "Народ, які будуе шматгалоссе, мае культуру".

Я згадваў гэтыя словы, калі назіраў за жыхарамі аўстрыйскіх вёсак, якія з лёгкасцю на службе ў Саборы будавалі шматгалоссе.

## МІФ

У 1830 г. Пушкін не браў з сабой сшыткаў і не збіраўся затрымлівацца ў Болдзіне. Міф нарадзіўся залпам пасля навальніцы. Так сцвярджаюць пушкіністы, дадаючы, што нагодай для яго напісання былі распаўсюджаныя чуткі. Маўляў, на смяротным ложку Сальеры прызнаўся ў забойстве, і што некалі ён жа ў Празе быў здольны асвістаць Моцартавага "Дон Жуана". Адсюль паходжанне і ўжо вядомай пушкініскай фразы: "Зладзей, які змог асвістаць, змог бы і забіць!"

Памятаю, як у школе мы з лёгкасцю праглынулі міф пра "чорнага чалавека". Больш таго, наш клас адважыўся ставіць пушкінскую легенду на сцэне. Не ведаю, як цяпер ставяцца ў школах да "злачынцы", але тады, іграючы, мы верылі паэту, і ў мяне не было ніякага сумнення ў праўдзівасці прыгожай версіі злачынства.

А між іншым, Еўропа таксама не сумнявалася, і ўжо даўно. Відаць, з таго моманту, калі санітары, якія праводзілі апошнія гадзіны з Сальеры ў прытулку, адмовілі эпізод ягонага "прызнання" — адмовілі афіцыйнай паперай перад Богам. Яны таксама сведчылі пра душэўны спакой "злачынцы". Знайшліся сведкі і таго, што падчас пастаноўкі "Дон Жуана" Сальеры ў Празе не было. А быў ён запрошаны Моцартам на "Чарадзейную флейту", пасля якой асабіста выказваў аўтару свае кампліменты.

Дарэчы, сёння набыла большую актуальнасць першая назва пушкінскай трагедыі: "Зайздрасць". Яна ж і справакавала пытанне: "Але хто каму зайздросціў?" Пытанне, на якое і сучасныя біёграфы адказваюць разнастайнымі фактамі. Сярод якіх, канешне, і 1786 год — год спаборніцтва дзвюх опер. Як вядома, опера Моцарта афіцыйна правалілася. Грошай ён атрымаў удвая менш за Сальеры. Прайграў ён і ў конкурсе на выкладчыка для рускай княгіні. Ён не стаў і 1-м капельмайстрам Вены.

Акцёр Мюрэй Абрахам, які атрымаў за ролю Сальеры ў вядомым фільме "Оскара", сам не верыў у праўдзівасць злачынства. Больш таго, у адным з інтэрв'ю ён прызнаўся ў любві да Сальеры, які, першы капельмайстар Вены, вучыў сына Моцарта і прадказваў яму поспех не меншы за бацькаў.

Але гэта факты. Іх шукаюць, збіраюць, кладуць у тэчку, захоўваюць, прыгадваюць.

А між тым міфы, аформленыя па-мастацку, даюць больш прыбытку і жывуць даўжэй. Памятаю, як пасля апошніх кадраў "Амадэуса" Мілаша Формана я з заплюшчанымі вачамі выходзіў з кіназалы на асляпляльнае сонца. У вушах гучаў "Рэквіем", і мяне літаральна калаціла. Дома я змаляваў цэлы стос паперы. На кожным аркушыку былі Моцарты і Сальеры, дакладней — Хальсы і Абрахамы. Я згадваў іх паводле фільма, і, малюючы, адчуваў сябе ў палоне геніяльнай пары.

Цяпер я зноў сустрэўся з імі. І ў сваім нататнічку пазначыў для сябе, што ў Аўстрыі два помнікі Моцарту. Але калі ўважлівей да іх прыглядзецца, то ўсё роўна атрымліваецца, што адзін з іх... Сальеры.




*Пад гэтай вокладкай — "Маленькая начная серэнада".*



*Радзінны дом і фартэпіяна Моцарта.*

## КАМЕННЫ ГОСЦЬ

На пляцы Моцарта, каля помніка, гралі чатыры валтарністы. Я здзівіўся: няўжо гучыць знаны "Вір" Аляксандра Літвіноўскага? Але гэта быў Моцарт. Дакладней, Моцарт для Моцарта, бо аднаго выконвалі, а другі, стоячы на пастаменце, слухаў і чакаў падзякі.

Пасля венскага помніка, дзе лёгкі, як матылёк, Вольфганг спрабуе адарвацца ад пастамента, зальцбургскі Моцарт здаецца больш цяжкім і халодным. А яго зялёны, акіслены ад часу жывапіснымі разводамі твар Мюрэя Абрахама нагадаў мне яшчэ аднаго Моцарта з тварам Сальеры. Але — ужо нашага, тутэйшага Моцарта... з "Альтэрнатыўнага тэатра".

Якраз у гэтым тэатры мы з Андрэем Дубініным, маім калегам па часопісе "Бярозка", ладзілі выставу-хэпенінг. І яе падрыхтоўка супала з "моцартаўскімі" прэм'ерамі. Спектакль пачынаўся ў вечары, калі мы з Андрэем прыносілі матэрыялы для выставы. Мы праходзілі праз фае і траплялі за кулісы, у цёмны вузкі калідор. Там і адбываліся нашы таемныя сустрэчы з Моцартам і Сальеры.

Першая сустрэча для нас была проста страшылкай. Мы неслі шпалеры, і раптам на нас выскоквае чорны чалавек. Ён быў у плашчы, з доўгім арліным носам і кудлатымі валасамі. У руках невядомец трымаў свечку, ад якой па сценах прабеглі чорныя цені з доўгімі насамі. А па мне, памятаю, ад жудасці прабеглі тады мурашкі. Мы, канешне, падумалі, што гэта быў Сальеры. Але гэта быў Моцарт.

Наступныя разы мы ўжо ведалі, што за кулісамі можна спалохацца Моцарта, але ўсё роўна палохаліся. І таму кожны вечар, перад тым, як ісці па закуліснай сцежцы, мы спачатку пужалі сябе Моцартам. Паступова ўсё гэта ператварылася ў адмысловую гульню, новы спектакль. Мы адчувалі, што калідор з грымёркамі належаў не толькі Моцарту і Сальеры, але і нам, і што закулісная атмасфера ў час спектакля нагадвала кіно, якое мог бы здымаць сам Феліні, дзе ў кантраст павольнаму шпацыру Сальеры бегаў шалёны Моцарт.

Сальеры ж, нягледзячы на ягоны суровы грым, з намі быў больш мяккі і чалавечны. Важна трымаючы цыгарку, ён мог падміргнуць, спыніцца і пагаварыць. Спытаць, што за спектакль ценяў мы робім і ці не жадаем мы паглядзець на яго, Сальеры, з залы?

Моцарт нерваваўся, глядзеў на нас варожа і ніколі не вітаўся. Але аднойчы нам усё ж пашэнціла пагаварыць з ім. Моцарта звалі Яўгенам. І ў тэатры Яўген, акрамя Моцарта, іграў яшчэ жыда і адказваў за ружовую штору, якую асабіста абяцаўся выдаваць нам для рэпетыцый. Ягоная каморка месцілася ў канцы таго самага калідора, дзе ўжо традыцыйна праходзіў наш "спектакль сустрэч". Але аднойчы калідор быў пасечаны цяжкімі гукамі электрагітары. Здавалася, мы ішлі ў самае пекла. Адчынілі чорныя металічныя дзверы, і нас з ног да галавы абдало дымам. Праз хвіліну мы разгледзелі перад сабой скураную куртку ў заклёпках. Гэта была спіна Яўгена, які рэпеціраваў на сваёй гітары. Ён быў рокерам і ў вольны ад Моцарта час падрабляў на вяселлях.

Памятаючы першую сустрэчу з ім, мы вельмі асцярожна і па чарзе звярталіся да спіны. Гром стаяў неверагодны. І ўжо ведаючы, што ён нас усё роўна не пачуе, мы паспрабавалі адважна крычаць у два галасы: "Гэй, Моцарт, не зрывай нам рэпетыцыю, дай штору!" Але Моцарт не чуў нас. Дакрануцца ж да яго мы баяліся і, расчараваныя, ужо сабраліся адыходзіць. Але ў гэты момант наш Моцарт у заклёпках варухнуўся і павольна, як каменны госць, пачаў на нас разварочвацца. Раптам па мне зноў прабеглі мурашкі. Нарэшце перад намі ўжо быў няўцямны твар Яўгена.

У рэшце рэшт мы пабачылі Моцарта і Сальеры на сцэне. Гэта быў спектакль-перавёртыш, працяг пачатай у калідоры п'есы, дзе нязграбнага Моцарта граў выдатны Сальеры, а элегантнага Сальеры — абаяльны Моцарт.

Але той, хто вечарамі метадычна пужаў нас у калідоры, зараз выглядаў больш камічна, і маленькая трагедыя для нас з Андрэем перарастала ў маленькую камедыю. Да вострага і выразнага твару вялікага кампазітара, які ў спектаклі не ведаў, як трымаць відэлец, дадаліся яшчэ безгустоўны касцюм, тоўсты зад і неверагодна вялікія памеры абутку. Што, дарэчы, было вельмі цяжка заўважыць за кулісамі.

Канешне, кожны рэжысёр выпускае на сцэну свайго Моцарта. Наш пяцігадовы сын, напрыклад, намаляваў Моцарта на дроце, са скрыпкай і велізарнымі зубамі. Але да каго б ні быў падобны кампазітар, лепшы помнік яму — музыка, якая гучыць і сёння. А партрэты мы прыдумваем самі. Мне ж больш падабаецца пікасаўскі — адшукаць Моцарта ў хмарках.

## МОЦ-АРТ

Музыканты кажуць, што эпоха так званай калектыўнай музыкі (барока, класіцызм) пакінула часу няшмат імёнаў. Баха, напрыклад, забылі адразу пасля смерці. Ягоную музыку адшукаў у свой час Мендэльсон. Моцарту ж удалося праскочыць межы "калектывізму" і застацца ў музыцы адразу і назаўжды.

Музыка ў тыя часы была падобная. Каноны выконваліся дакладна, а час індывідуальнай творчасці, самавыяўлення толькі падыходзіў. Але спецыялісты па музычных запазычанасцях усё ж сцвярджаюць, што Рэкардара моцартаўскага "Рэквіема" нагадвае французскі "Рэквіем" Гасэка. А матыў уверцюры да "Чарадзейнай флейты" ўзяты з санаты Клеменці, якая выконвалася ў прысутнасці Моцарта. Знаходзяць і іншыя "паралелі".

Для мяне, чалавека, які сам значны перыяд выхоўваўся ў сістэме: "Шукай сябе, не змалёўваючы і не падглядаючы", зараз гэта зусім не прынцыпова. Хаця з задавальненнем магу прызнацца, што "падглядальшчык" Моцарт мне яшчэ больш даспадобы. У такім выпадку ён мне здаецца яшчэ больш геніяльным і сучасным. А "плагіят" для Моцарта, на маю думку, сам падкрэслівае сваю бессэнсоўнасць, бо як канстатуюць тыя ж самыя музыказнаўцы: "Моцарт быў геніем і ў запазычанасці чужых ідэй, якія з лёгкасцю развіваў і даводзіў да дасканаласці".

Думаю, у такім разе Моцарта можна ўключыць у спіс "Вялікіх плагіятараў XX стагоддзя". А Ігара Стравінскага і Пабла Пікаса назваць, напрыклад, ягонымі вучнямі. Бо менавіта яны, па-мастацку гуляючы з часам і таленавіта карыстаючыся ўжо зробленым да іх, не толькі валодалі вялікім мастацтвам "Моц-арта" (моцнага мастацтва), а і падаравалі нам мажлівасць сустрэчы з ім.

Таму зараз, развітваючыся з XX стагоддзем, па-мойму, зусім не важна, які ты стыль пазычыў і ў палоне якога мастака зараз знаходзішся, ці, можа, вандруеш па ўласным агародзе, ці шукаеш прынцыпова "новага". Галоўнае ўсё ж моц твайго арта і наколькі ты сам Моц-арт.

## ВОЛЬФГАНГ

Калі клімтаўскіх слімакоў можна сустрэць на дарогах Верхняй Аўстрыі, то любімая кветка аўстрыйскага мастака Эгана Шыле расце пераважна ў Ніжняй Аўстрыі — краіне сонечных коўдраў. І калі ты на хуткасці праязджаеш чарговае жоўтае мора сланечнікаў, то вельмі цяжка ўстрымацца ад жадання спыніцца і выкупацца ў промнях сонечных кветак.

Прафесар Вольфганг Вос мажліва адзін у свеце чалавек, які жыве паводле законаў чароўнай Sonnenblume (сонечнай кветкі). Яго ўласная абсерваторыя нагадвае схаваны ў лясны краявід касмічны карабель, у якім знаходзіцца каралеўства дзіцячых калейдаскопаў, а на сценах замест карцін вісяць велізарныя спілы старых дрэў.

Абсерваторыя круглы год ацяпляецца сонечнай энергіяй. Вольфганг перакананы і ў тым, што сонечнае святло павінна падаць толькі зверху. Таму кожная столь "карабля" мае сваё вакенца — пукатае сонечнае вока. Бакавыя ж вокны пакінуты нібыта для гульні з чароўнымі промнямі. На адным вісіць маленькі крышталік, які па ўсім пакоі раскідвае рознакаляровыя фантазіі сонечнай графікі. У другога вакна бакі ў люстэрках — гэткі сонечны капканчык. Праз трэцяе святло запальвае чароўны вітраж з лепшых касмічных здымкаў прафесара. А ў вежачцы абсерваторыі знаходзіцца самы галоўны твор Вольфганга — унікальны тэлескоп, зроблены, як і ўсё на "караблі", яго ўласнымі рукамі.

Мне не верылася, што ўсё ў той вечар было насамрэч. Але калі я ўжо дома раптам паварочваю галаву да вакна і згадваю вітражык тэлескапічнага здымка прафесара, дзе адзін з аб'ектаў Арыёна падобны да Пегаса, я раблюся шчаслівы ад таго, што недзе ў недалёкай Аўстрыі зараз жыве і назірае за зоркамі геніяльны астраном і вынаходнік, мой знаёмы Вольфганг.

Я запомніў яго, як цэлы мастацкі твор. Разам з яго касмічным караблём, з жонкай Ірмгад і чырвонымі мацісаўскімі рыбкамі ў сажалцы. Ягоны твар быў вольнай копіяй сланечніка. Ён увесь свяціўся, вочы гарэлі, а сам прафесар Вос у жоўценькіх шорціках, ахоплены дзіцячай радасцю, нібыта лётаў па сваім караблі, размахваючы рукамі сапраўднага дырыжора і па-мастацку распавядаючы пра свае адкрыцці.

У той вечар я яшчэ раз упэўніўся, што прынцып таленту — у аддачы.

Я глядзеў на рукі Вольфганга, якія з неверагоднай лёгкасцю перабіралі чорна-белыя клавішы раяля, і адчуваў, што паміж Вольфгангам-кампазітарам і Вольфгангам-астраномам існуе нейкая касмічная сувязь, і што яны, Вольфгангі, падобныя між сабой сваім талентам. Гэта талент лёгкага дыхання — моцарціянства. І здаецца ўсё вельмі проста. Набіраеш паветра, робіш: "Ах!" — і раптам побач прамільгнула светлае імгненнае мастацтва.

Мы зусім не гаварылі пра Моцарта, але на развітанне Вольфганг падвёў нас да сцяны, дзе вісеў самы велізарны спіл старога дрэва, і тыцнуўшы пальцам у колца драўлянай павуціны, пазначанае аловачкам, сказаў: "А вось тут нарадзіўся Моцарт".

**Андрэй РАДЗІЁНАЎ**

***У паэтычнай спадчыне Ларысы Геніюш значнае месца займаюць калядныя вершы. Апублікаваны яны далёка не цалкам. Дагэтуль найпаўнейшым іх зборам застаецца ратапрынтная брашура "Дзевяць вершаў", што выйшла лацінкаю ў 1987 г. у Беластоку; вершы з яе часткова перадрукоўваліся на Беларусі ў перыёдыцы. Калядныя вершы (нам вядома каля трох дзесяткаў тэкстаў) адносяцца да позняга перыяду творчасці паэткі: першы з датаваных пазначаны 1971-72 гг. Мяркуючы па змесце, яны адрасаваліся замежным родзічам і сябрам Ларысы Геніюш. Ці не ў кожным сустракаюцца звароты накшталт "З Новым годам, са Святам, Браты на чужыне" і спадзяванні на тое, што некалі давядзецца разам сесці за калядны стол. Але, відома, тая духоўная, маральная дый паэтычная вестка, якую нясуць гэтыя вершы, тычыцца кожнага з нас.***

***Публікацыя падрыхтаваная паводле тэксту, які захоўваецца ў архіве Ларысы Геніюш.***

Ларыса Геніюш

# Да любові, дабра і свята

●

*Без любові ў жыцці як без сонейка,*
*Змрочны час і суцэльны будзень,*
*Будзем верыць,*
*што ўвечар сённека*
*Зноў любоў народзіцца людзям!*

*І паложаць яе у Яселькі*
*Каля рук святое Марыі,*
*І засвеціцца зорка ясная,*
*Пастушкі надыдуць малыя.*

*Паглядаюць авечкі, вослікі*
*На Дзіцятка,*
*што спіць на сене,*
*Йдуць здалёк каралі узнёслыя*
*Прывітаць Яго нараджэнне.*

*Ўсе галовы прад Дзецем*
*схіляцца,*
*Знойдуць ўсе да Яго дарогу,*
*І вякі, ідучы, не спыняцца*
*Па дарозе святой да Бога!*

*Цішыня над зямлёю соннаю,*
*Спіць Дзіцятка яшчэ ля Маці,*
*Спіць маленькае, безбароннае,*
*Блаславеннае сном Дзіцяці.*

*А такое ж наканавана —*
*Увабраць у сябе ўсю любоў,*
*Уваскрошваць ужо пахаваных*
*Божай ласкаю, сілай слоў.*

*Яму біцца са злом, як з немаччу,*
*І загінуць у барацьбе,*
*Што так проста і гэтак велічна:*
*Любі бліжняга, як сябе!*

*Будзе слава Бога-Прарока,*
*Будзе суд і смяротны загад,*
*Будзе крыж цяжкі і Галгофа,*
*Каб жыла Яго праўда праўд!*

*Будзе плакаць Маці гаротная*
*І панікне зямля ў журбе,*
*Каб жыло Яго несмяротнае:*
*Любі бліжняга, як сябе.*

*А пакуль што спіць ў Віфліеме,*
*Ў скромных ясельках на зямлі,*
*Перад ім стаяць на каленях*
*Пастушкі з палёў й каралі!*

*Ў гэты вечар Бог нарадзіўся,*
*Ўсе сабраліся ля стала,*
*Кожны вернецца, хто заблудзіўся,*
*Да любові, дабра і святла.*

*Кожны прыйдзе шукаць спакою,*
*Ад забойстваў ўцячэ і зла.*
*Не даждждом, а слязьмі і крывёю*
*Ўжо прасякла гэта зямля!*

*Да крыніцы, да першапачатку*
*Праўды Божае у жыцці,*
*Кожны прыйдзе да ног Дзіцятка,*
*Каб ўжо болей не адысці!*

*Каб са злом змагацца,*
*як з немаччу,*
*Ў найшляхотнейшай барацьбе.*
*Гэтак проста і гэтак велічна:*
*Любі бліжняга, як сябе!*

●

*Святы Калядны Вечар,*
*І я яшчэ дзіця,*
*Уся ялінка ў свечках,*
*А на стале Куцця.*
*Уся сям'я ў застоллі,*
*Хто свята дачакаў,*
*Абрус, бы снег на полі,*
*І безліч посных страў.*
*Над Бэтлеемам ясна,*
*Зара над ім блішчыць,*
*І нам здаюцца яслі,*
*Ў якіх Дзіцятка спіць.*
*Сціхае вонку вецер,*
*Слязіна ўпала з воч.*
*Суладна ўсё на свеце*
*Здаецца ў гэту ноч.*
*— Зноў гдзесь гучаць Калядкі,*
*А я адна стаю,*
*Збяры жа нам,*
*Дзіцятка,*
*За стол усю сям'ю.*
*Каб сіраты ніводнай,*
*Каб сэрцам ля сваіх,*
*За шчодры стол Народны*
*Збяры калісьці ўсіх.*
*Хай прыйдзе ўсё жывое*
*Дамоў з усіх краёў,*
*Маленькае, Святое,*
*Што прынясло любоў!*

●

*Каляда, ноч плыве ў задуменні,*
*Ужо першая зорка гарыць,*
*На стале снежна-белым, на сене*
*Куцця з макам і з мёдам стаіць.*

*Ўжо вятры калядуюць па сёлах,*
*Расплываецца ў небе дымок,*
*Ў гэты вечар, харошы да болі,*
*Дамоў людзі спяшаюць здалёк.*

*Для усіх адчыняем мы дзверы,*
*Хопіць месца за шчодрым сталом,*
*Сёння ў хатах Святая Вячэра,*
*Цені Продкаў снуюць за вакном.*

*Урачыста усе пасядалі,*
*Ў вачах брацціяў затоены боль,*
*Шмат каго яшчэ не прычакалі*
*Мы здалёк за калядны наш стол.*

*Шлем вам сёння,*
*сябры на чужыне,*
*Пачуцці, што ад сонца цяплей,*
*Пажаданні, тугу і ўспаміны,*
*І любоў, і слязіну з вачэй.*

*Шлем Вам пасму*
*надзеяў-вясёлкаў*
*У калядны густы снегапад,*
*Каб сустрэцца на радасным золку*
*Нам, Браты, ля пакінутых хат.*

*Не забыліся мы, не забудзем*
*Тых, што доля забрала ад нас,*
*Мацярынскай тугі не астудзіць*
*Ні далёкая ростань, ні час.*

*А пакуль пажадаем нямнога*
*Ўсім, хто ў роскашы*
*з Вас ці ў бядзе:*
*Не забудзьце да сёлаў дарогі,*
*Не зрачэцеся Маці нігдзе!*

*Жыць Вам доўга,*
*шчаслівa, багата,*
*Быць заўсёды ў пашане людской,*
*Дык са святам, сябры,*
*Вас, са святам,*
*Што ўрачыста плыве над зямлёй!*

**Публікацыя**
**Міколы РАМАНОЎСКАГА**

АВОХЦІ МНЕ

# Гісторыі для самых меншанькіх

"Для нас казкі найбольш важныя, як матэрыял для характарыстыкі народа", — пісаў рэвалюцыйны дэмакрат М. Дабралюбаў. І правільна, пісаў, думаю я, шукаючы дома пяты кут доўгім зімовым вечарам. Хоць бы кніжку з унукам пачытала, а то прыкіпеў, нябось, да "відзіка" з ягонаю "зялёнай маскай"...

У часы, калі яшчэ не было тэлевізара, людзі больш цанілі жывое слова. "...у нас служыў рабочы... нехта Песляк... Памятаю, што я не даваў яму праходу. Ці пойдзе ён у поле араць, ці паедзе на начлег, я заўсёды з ім і заўсёды выпрошваю ў яго казкі. Можаце сабе ўявіць: чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім, як варона, хаджу я і слухаю". Гэта Янка Купала ўспамінае. Увогуле пра казкі столькі захапляючых слоў сказана, што не надта ганарова ўносіць дысанансную ноту ў гэты дружны шматгалосы хор. А прыйдзецца...

З малым Антонам мы шмат казак перагарталі — народных і літаратурных, беларускіх, рускіх, англійскіх — якіх заўгодна. Выдаваліся яны ва ўсе часы ў вялікай колькасці і вялікай разнастайнасці. Адно не лянуйся, чытай.

Прыносіць мне ўнук аднойчы "Сказку об Иване-царевиче, Жар-птице и сером волке". Для тых, хто забыўся, нагадаю сюжэт. Панадзілася ў царскі сад Жар-птушка красці залатыя яблыкі. Шкоду рабіла, значыцца. Што з яе, птушкі, возьмеш? Яна ні запаведзяў божых, ні законаў людскіх не ведае.

Цар з дэмакратычным іменем Дзям'ян, каторы раз не далічыўшыся пладоў, загадаў тром сваім сынам па чарзе пільнаваць сад. Два старэйшыя не здолелі ўпільнаваць злодзея — праспалі, а меншы, Іван, не толькі згледзеў птушку, але і пёрка зіхоткае прынёс бацьку ў якасці доказу. Лепей бы не прыносіў, бо цару захацелася мець у сябе ўладальніцу дзівоснага пяра. З чаго, уласна кажучы, усе прыгоды і пачынаюцца.

Першую палову казкі мы з Антонам праскочылі гладка. Пытанні пачаліся пазней — калі царэвіч пазнаёміўся з шэрым воўкам, а той навучыў яго, як выкрасці спачатку Жар-птушку, а потым каня залатагрывага і каралеўну.

Тут мы спынімся і зробім агаворку: выкрадаць, абдурваць, выходзіць сухім з вады — звычайная рэч у казках усіх народаў. Але абдурваюць у іх, як правіла, адмоўных персанажаў — Бабу-Ягу, Цмока ці яшчэ каго малапрыемнага. У гэтай жа ахвярамі махлярства сталі не ліхадзеі якія-небудзь, а ні ў чым не вінаватыя правіцелі. Прычым герой наш двойчы пападаўся і яго двойчы сарамацілі:

— Чаму ж ты па-добраму не папрасіў? З павагі да твайго бацькі я і сам аддаў бы. А так давядзецца ганцоў у суседнія дзяржавы разаслаць, каб усе ведалі, што царскі сын злодзеем аказаўся.

Думаеце, юны царэвіч згарэў ад сораму, павініўся? Зусім не. Ён адно ў шэрага воўка папрасіў прабачэння — за тое, што не ва ўсім таго слухаўся:

— Вінават я перад табою, даруй мне ўжо...

Звернем увагу на два важныя моманты. **Першы:** герой казкі, хоць і царскай крыві, а крадзе так натуральна, як птушка залатыя яблыкі дзяўбе. Не то ўрадзіўся такім, не то выхаванне атрымаў адпаведнае. І **другі**: як вынікае з тэксту, звер аказаўся сумленней за чалавека: воўк служыць царэвічу, бо з'еў ягонага каня.

Але прадоўжым. Умову цароў наш герой выканаў: здабыў і каня, і каралеўну, каб віну сваю загладзіць і ганьбы пазбегнуць. Але ж вось якая няўдобіца — вяртаць не хочацца! Адсюль паўстае нялёгкая задача, як яму цароў абдурыць і каштоўную здабычу сабе пакінуць. Зноў воўк свае паслугі прапаноўвае, з найлепшых нібыта намераў. Ну сапраўдны Мефістофель! Ён і ў каня залатагрывага ператвараецца, і нават у прыгажуню-каралеўну.

Усё займеў Іван-царэвіч, што неабходна для шчаслівага жыцця. Што яму па дарозе дахаты родныя браты галаву адсеклі — дробязь, можна сказаць, агульнае месца ва ўсіх чарадзейных казках. Ды і тут служка шэры не падвёў: спаймаў варанятка і тым прымусіў ворана прынесці мёртвай і жывой вады. Так што ўсё нарэшце скончылася класічным хэпі эндам.

Час падсумаваць маральныя ўрокі рускай народнай казкі. Што ж мы маем з пункту гледжання чалавечых, а не звярыных законаў? Перад намі цэлы шэраг праціпраўных дзеянняў: крадзеж, ашуканства, шантаж, і ўсё гэта нават без намёку на асуджэнне! Слухайце, дзеткі, матайце на вус...

Не, унучак, давай мы з табою другую кніжачку возьмем, пра казу з казлянятамі. "Козлятушки, ребятушки, отопритеся, отомкнитеся"... Тыя, дурненькія, і адкрылі дзверы... Праўда, і гэтая казка добра скончылася. Спіць сыты воўк, а каза падкралася, распарола яму жывот ды камяні заместа дзяцей зашыла. Ну як? Чысты трылер, а не казачка для малодшага школьнага ўзросту. Такімі гісторыямі ў калядныя ночы хіба тэлегледачоў палохаць...

Дык што там гаварыў пра казкі рэвалюцыйны дэмакрат?..

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

"Зоркі глядзяць уніз" бязглузды дэвіз? А як насельнікам неба раскажаш пра пах глебы? Ці тым са сваіх вяршынь расказаць пра нябесную стынь? Па ўсім відаць, так і трэба: зоркі глядзяць уніз, а мы — на неба. І гэта да цяпла з холаду знічкі коцяцца долу. І мы да святла з мораку ўсё імкнёмся да зорак.

●

Дубоўка з Броўкам... Моцарт і Сальеры... Адзін "ад Бога", а другі "з даверам". Бы нехта меціць вечнаю пячаткаю. Гады мінаюць — а ўсё спачатку.

●

— Адзін-адзінюткі ўбаку стаіць, фігура амаль трагічная... — Вучыся, сынок, назіральным быць. Хай самотны той убаку стаіць, ды ўсе перад ім навыцяжку. Дык хто сапраўды варты патолі — той адзін ці натоўп зняволеных?

●

Каб прэзідэнтам быў я, прэзідэнтам была б мая жонка. У гісторыі нашага банка гэта нейкая новая старонка. Ну і што як жонка без адукацыі, знай сабе друкуй асігнацыі. Усім сплачваем, датацыі — на табе, ніякіх праблем з пенсіямі і зарплатамі. Краіну разорым, жабраваць прымусім? Дык я швейцарам як быў, так і застануся, а з жонкай які прэзідэнт, яна ж упершыню прэзідэнт.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4843
Нумар падпісаны ў друк 8.1.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 67/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12